

*П'еро дэлла Франчэско. Алтарная карціна Монтэфэльтро.*
*1472–74 гг. Дрэва, алей. 248 х 170 см.*
*Мілан, Галерэя Брэра.*

Год святарства



«Сённяшні свет прагне святых святароў! Толькі святы святар можа стаць у сённяшнім секулярызаваным свеце яскравым сведкам Хрыста і Яго Евангелля. Толькі такім чынам святар можа станавіцца для людзей праваднікам і настаўнікам на шляху да святасці, а людзі, асабліва маладыя, такога праваднiка чакаюць. Святар можа быць праваднікам і настаўнікам настолькі, наколькі стане сапраўдным сведкам!»

*Ян Павел II. Дар і таямніца*



у нумары 3/2009

НАША ВЕРА

# П'еро дэлла Францэско. Алтарная карціна Монтэфэльтро



П'еро дэлла Францэско (1415/20–1492) належыць да другога пакалення жывапісцаў-рэвалюцыянераў эпохі кватрачэнта, XV стагоддзя. Эпоха, пазначаная глыбокімі пераўтварэннямі ў сацыяльнай і культурнай сферах, надоўга зрабіла Італію лідэрам новых ідэй і ўзорам мастацкіх густаў для ўсяе Еўропы. Менавіта ў гэты час фармуецца цэлая кагорта творцаў, для якіх характэрны рэнесансавы універсалізм. Яны дасягаюць вяршыняў у жывапісе, скульптуры і архітэктуры, але адначасова праводзяць навуковыя эксперыменты, захапляюцца дакладнымі навукамі і пішуць тэарэтычныя трактаты (як архітэктар Альбэрці).

П'еро дэлла Францэско з'яўляецца паслядоўнікам выдатных майстроў эпохі Брунэллескі, Данатэлло, Мазаччо, Учэлло, дэль Кастаньё, якія рацыянальна распрацоўвалі праблемы мастацкай перадачы трохмернай прасторы, лінейнай перспектывы і аб'ёмаў. Ён працягвае лінію, якая ў XVI стагоддзі прывядзе да найвышэйшай праявы універсалізму ў постаці Леанардо да Вінчы.

Будучы мастак нарадзіўся ў сям'і шаўца Бэнэдэтто дэі Францэско ў мястэчку Сансэполькро непадалёк ад Урбіно ў цэнтральнай Італіі. Як паведамляе біёграф італьянскіх мастакоў Джорджо Вазары, з ранніх гадоў ён апантана займаўся матэматыкай і на працягу ўсяго жыцця не пакінуў гэтыя заняткі. Дакладныя веды і эксперыментальныя набыткі дазволілі яму здзівіць сучаснікаў злучэннем практыкі і тэорыі. Ягоныя трактаты па тэорыі мастацтва «Аб пяці рэгулярных целах» і «Перспектыва для жывапісцаў» сталі класікай рэнесансавай думкі.

П'еро вырашыў стаць жывапісцам у пятнаццацігадовым узросце, у 1439 г. ягонае імя ўпершыню згадваецца ў дакументах (ён працуе пад кіраўніцтвам Дамэніко Венецыяно ў Фларэнцыі). Прынята лічыць, што менавіта Венецыяно быў ягоным настаўнікам, які даў яму ўрокі каларызму і навучыў ствараць эфекты прасторы, напоўненай паветрам. На працягу дзесяцігоддзяў мастак працуе для Касцёла, выконвае замовы арыстакратыі — галоўным чынам у Сансэполькро, але таксама ў Фэрары, Анконе, Пэзаро, Рыме, Балоні. У родным горадзе яго абіраюць у гарадскую раду, напрыканцы жыцця мастак з'яўляецца настаяцелем рэлігійнага брацтва Сан Барталамэо. Паэты-гуманісты Фэррыбо і Ніккола Тэста Чыленіо прысвячаюць яму натхнёныя вершы.

Талент манументаліста П'еро дэлла Францэско напоўніцу раскрыўся ў фрэсках у саборы св. Францішка ў горадзе Арэцца (1450–1460). Кампазіцыі на тэмы з жыцця царыцы Саўскай, імператара Канстанціна і легенды пра Святы Крыж уразілі ягоных сучаснікаў веліччу жывапіснага аповеду, магутнай пластыкай формаў, гармоніямі лакальных колераў. Але і на пачатку XX стагоддзя кубісты лічылі яго «сваім», бачылі ў ягонай жывапіснай манеры блізкую ім абагульненасць трактоўкі формы і геаметрызм (перш за ўсё ў перадачы архітэктурных фонаў).

Алтарная карціна з міланскай Галерэі Брэра займае асаблівае месца ў творчасці мастака. Намаляваная адмыслова для змяшчэння ў надалтарнай нішы ў касцёле мястэчка Сан Бэрнардзіно непадалёк ад Урбіно, яна злучае ў сабе, здавалася б, кантрастныя характарыстыкі: імкненне да манументалізму і пранікнёную інтымнасць. П'еро дэлла Францэско

стварыў карціну на замову свайго пратэктара і сябра герцага урбінскага Фэдэрыко да Монтэфэльтро. У 1472 годзе падчас родаў памерла каханая жонка герцага Баццїста Сфорца (з роду міланскіх герцагаў, адкуль паходзіла і вялікая князёўна ВКЛ Бона Сфорца). У 1465 г. мастак намаляваў партрэтны дыптых з выявамі шчаслівых сужэнцаў, але гэтым разам нагода была сумная. Шэдэўр мастака прысвечаны памяці нябожчыцы, таму не выпадкова ён надаў твару Мадонны ідэалізаваныя рысы герцагіні.

Нямецкі мастацтвазнаўца Дзітэр Шмідт напісаў пра гэты твор: «Пасля Венецыяно гэта першы прыклад кампазіцыі *Sacro Conversazione* ў выглядзе вялікай групы пасярод вялікай архітэктуры. Цішыня рэквіема разліваецца па ўсёй карціне, маўклівая засяроджанасць у малітве...»[1]. Відавочна, што ў кампазіцыі карціны архітэктура і фігурная група раўназначныя. Па-майстэрску створаны архітэктурны вобраз мае большую ролю, чым проста запаўненне фону для першапланавай кампазіцыі. Манументальныя формы намаляванай архітэктуры — гэта сімвал Касцёла, увасабленне моцы і вечнасці хрысціянства. У верхняй частцы карціны эфектна разгортваецца арка глыбокай апсіды. Гэты архітэктурны элемент не толькі трывала замыкае фігурную групу, але і сімвалізуе браму Боскай мудрасці. Мастак замілавана вырысоўвае архітэктурныя профілі, кесоны скляпенняў, канэлюры пілястраў. Адчуваецца ўпэўненая рука рацыяналіста, аўтара тэарэтычных трактатаў па перспектыве. Але гэта не сухі чарцёж. Святлацень саграває халодныя класічныя формы, абуджае ў іх подых жыцця. Злева направа мяккі цень залівае прастору аркі і апсіды. Каля верхняга краю палатна вострымі кутамі выступаюць з абодвух бакоў фрагменты карнізаў: злева цёмны, справа асветлены. Гэтыя кантрасты ўносяць дынаміку ў кампазіцыю, якая ў цэлым характарызуецца агульнай статычнасцю. А ў самым цэнтры архітэктурнага фону мастак стварае яркі акцэнт: паўкупал апсіды запаўняе крохкая, незвычайнай формы, вялізная ракавіна (распаўсюджаны элемент дэкору ў рэнесансавай архітэктуры, а таксама ў перыяд барока і ракако). З яе вяршыні на тонкай нітцы роўна па восі кампазіцыі звешваецца стравусінае яйка (сімвал смерці і пераўвасаблення), якое ярка адбіваецца на фоне зацемненай часткі апсіды. Гэты элемент кампазіцыі непасрэдна вызначае сіметрычны падзел карціны на дзве паловы. Уніз рыса падзелу знаходзіць працяг у постаці Мадонны з Дзіцем.

Усе лініі перспектывы архітэктурных профіляў сыходзяцца ў цэнтры кампазіцыі — на перасячэнні ўмоўных дыяганаляў. Гэта ёсць твар Мадонны, адухоўлены, пазначаны спакоем і смуткам. Вертыкаль Яе фігуры перасякае пад лёгкім нахілам аголенае цела Дзіцяці, што заснула на Яе каленях. Яму — Збаўцу — прысвечана *Sacra Conversazione*, нячутная Святая Размова анёлаў і святых. Шчыльным шэрагам яны сталі за Мадоннай і Хрыстом, па баках кампазіцыю замыкаюць постаці святога Яна Хрысціцеля і святога Яна Евангеліста. На ўсіх тварах адбілася глыбокая засяроджанасць малітвы. Рукі святых і св. Францішка (праваруч ад Яна Евангеліста) надзвычай выразныя. Трапяткі рысунак пальцаў стварае яшчэ адну дынамічную праяву ў карціне, пазначанай статычным спакоем.

Марыя ўзнятая над атачэннем, бо сядзіць на троне на невысокім подыуме, накрытым чырвоным дыванам з узорыстымі палямі. Перад Ёю і Дзіцем укленчыў, малітоўна склаўшы рукі, урбінскі герцаг Фэдэрыко да Монтэфэльтро, увесь закаваны ў даспехі. Стальныя рыцарскія пальчаткі і шлем ён паклаў перад тронам Марыі. Строгі профіль выявы герцага мы сустрэнем не толькі ў гэтай кампазіцыі, але і ва ўсіх іншых яго партрэтах. Яго сучаснікі засведчылі, што правая частка твару да Монтэфэльтро яшчэ ў маладосці была знявечана ў баі. Загартаваны ў войнах рыцар смуткуе па памерлай жонцы і моліцца за яе душу, але таксама аддае сябе служэнню Мадонне і Хрысту. Мастак праз асабістыя перажыванні свайго героя ўзвышаецца да ўвасаблення ідэалу свайго часу — абаронцы хрысціянскай цывілізацыі.

П'еро дэлла Франчэско дэманструе ў карціне выдатныя здольнасці каларыста. Італьянскі даследчык яго творчасці Карло Бэртэллі так напісаў пра гэта: «Ні ў якім іншым італьянскім жывапісным творы шэрыя фарбы не дамінуюць так, як у алтарнай карціне Монтэфэльтро»[2]. Сапраўды, шэрыя адценні непадзельна пануюць у архітэктурным фоне карціны. Яны поўнаўладна гучаць у адзенні святых. Іх мяккае гучанне набывае халодную цвёрдасць у даспехах герцага. Кантраснымі дадаткамі да асноўнай гамы глядзяцца зоны чырвоных адценняў, перш за ўсё ў мантыі св. Яна Евангеліста і ў яркай чырвані дывана подыума, на якім узвышаецца Мадонна з Дзіцем.

Велічны твор П'еро дэлла Франчэско — вечна жывы помнік кахання і веры. Меў рацыю згаданы Карло Бэртэллі, калі надаў сваёй манаграфіі, прысвечанай мастаку, выразны падзагаловак — «Боская моц жывапісу»...

*Валеры Буйвал*

[1] Diether Schmidt. Piero della Francesca. Dresden, 1979. С. 28.
[2] Carlo Bertelli. Piero della Francesca. La forza divina della pittura. Milano, 1991. С. 145.

**Валеры Буйвал** – мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.



# Ружы рознага колеру...

Гэты год шчодры на знакавыя юбілеі ў жыцці слыннага і паважанага іерарха Каталіцкага Касцёла на Беларусі, Апостальскага Адміністратара Пінскай дыяцэзіі кардынала Казіміра Свёнтка. 70-гадовы юбілей святарства Яго Эмінэнцыі супаў з Годам святога Паўла, а 95-годдзе з дня нараджэння — з Годам святарства. Прыгожае і сімвалічнае супадзенне, якое падкрэслівае асаблівую значнасць гэтых датаў не толькі ў біяграфіі шаноўнага юбіляра, але і ў жыцці Касцёла, бо лёс кардынала Свёнтка на працягу гэтых 70 гадоў святарскага шляху быў неадлучны ад лёсу Хрыстовага Касцёла, якому з аддана і ахвярнаю любоўю ўвесь гэты час служыць Яго Эмінэнцыя.

Нястомным абаронцам веры і яе сведкам назваў яго папа Ян Павел II. Для нас, католікаў Беларусі, кардынал Казімір Свёнтэк — яшчэ й яскравы прыклад сапраўднага ахвярнага святара, на якім спачывае выразны знак асаблівай Божай абранасці.

Дзякуем Богу за 70 гадоў святарства Яго Эмінэнцыі і, віншуючы з 95-годдзем, ад усіх нашых супрацоўнікаў і чытачоў, жадаем, каб і надалей Божы Провід абачліва вёў нашага кардынала сваімі шляхамі, а Міласэрная Маці заўсёды атуляла яго чулаю і нястомнаю апекаю...

Напрыканцы лета Яго Эмінэнцыя знайшоў час і ласкава згадзіўся адказаць на некаторыя пытанні для квартальніка «Наша вера». Рыхтуючыся да гэтай размовы, я натрапіла на ранейшую нашу гутарку, якая была апублікавана ў часопісе «Ave Maria» пяць гадоў назад. Памятаю, як тады на мае словы пра тое, што на яго святарскім і жыццёвым шляху было больш церняў, чым ружаў, Яго Эмінэнцыя адказаў пытаннем: «Чаму вы лічыце, што гэта былі церні? Гэта былі ружы...» І, бачачы маё здзіўленне, рашуча сцвердзіў: «Так, так! Толькі ружы бываюць рознага колеру — белыя, жоўтыя і, зразумела, чырвоныя. Але ўсё роўна гэта ружы!»

«А камера смерці, а дзесяць гадоў ГУЛАГу?» — паспрабавала я тады абгрунтаваць логіку свайго пытання і пачула ў адказ: «Я не разумею такога ўспрымання, такога размежавання паняццяў. Для мяне неістотна, дзе выконваць свае абавязкі і Божую волю: ці ў камеры смерці, чакаючы выраку, ці, скажам, прымаючы з рук Папы знак кардынальскай годнасці... І ў адным, і ў другім выпадку — адно і тое ж выкананне волі Божай. І там — ружа, і тут. Толькі колер у іх розны...»

На гэты раз я пазбягала пытаць у Яго Эмінэнцыі пра церні і размова вялася найбольш пра ружы... Толькі рознага колеру...

*— Ваша Эмінэнцыя, 5 ліпеня ў Тракелях пасля каранацыі абраза Маці Божай Вы сказалі, што заўсёды былі шчаслівы, нават у самыя цяжкія і пакутлівыя хвіліны жыццёвых выпрабаванняў, якіх у Вашым жыцці, як вядома, было нямала. У чым заключаецца сакрэт гэтага шчасця?*

— Вы ўжылі словы «сакрэт шчасця». Аднак я крыху не пагаджуся з такім азначэннем. Гэта не сакрэт, а сапраўдная, рэальная і бачная рэчаіснасць усяго майго жыцця, якое да драбніцаў падпарадкавана кіраванню Божага Провіду. Біблійныя словы пра тое, што ў чалавека і волас з галавы не ўпадзе без Божай волі, заўсёды спраўджваліся ў маім жыцці, нават у самых складаных сітуацыях. Вось некалькі прыкладаў інтэрвенцыі Божага Провіду ў найбольш крытычныя дні майго жыцця: проста цудоўнае ўхіленне ад смерці, калі дызентэрыя цалкам знішчыла мой арганізм у вязніцы ў Оршы. Я тады ўжо паміраў... Затым, калі напад гітлераўскіх войскаў на Савецкі Саюз выратаваў мяне ад расстрэлу па прысудзе НКУС у Брэсце, а ўваход савецкіх войскаў у 1954 годзе ў Пружаны апярэдзіў мой расстрэл па загадзе гестапа: пад ранак мяне збіраліся вывесці ў лес і расстраляць... А пасля перад самым вызваленнем з ГУЛАГу маёр кадэбіст спытаўся: «Як Вам удалося ўсё гэта перажыць і застацца жывым?» Мне ж было выразна даведзена ў час следства: «На цябе шкада кулі, а прысуд так ці інакш будзе выкананы, калі цябе кінуць у лагер, адкуль ты жывы не выйдзеш». Дык вось, на пытанне маёра я адказаў коратка: «Моцная, непахісная вера выратавала мне жыццё». І тады кадэбіст надоўга задумаўся: што са мною рабіць?.. Яму была дадзена інструкцыя не выпусціць мяне з лагеру жывым. Чым растлумачыць тое, што ён змяніў сваё рашэнне, парушыў гэтую інструкцыю? Пасля доўгага роздуму маёр усміхнуўся (гэта была першая ўсмешка кадэбіста за ўсе дзесяць гадоў майго зняволення) і сказаў, падпісваючы паперы: «Вы — свабодны». Ён жа мог паступіць зусім інакш...

І так было ўсё маё доўгае жыццё, прысвечанае Богу і Касцёлу. Гэта менавіта *шчаслівая* прыгода, бо я ведаю, Каму паверыў і Каму даверыўся. Прыгоду гэтую я апісаў бы словамі з песні «Barka» («Пакліканне»): «О Езус, клічаш Ты за сабою, сёння імя маё ціха прамовіў». Вось мой «сакрэт шчасця».

*— А позірк Пана Бога, Яго пакліканне Вы ўпершыню адчулі менавіта ў крыпце каля труны біскупа Лазінскага? Ці гэта адбылося яшчэ раней? Ці не была Ваша душа падрыхтаваная ўжо да гэтага «імпульсу» ад біскупа Лазінскага?*

— Я да сённяшняга дня да драбніцаў памятаю здарэнне, якое адбылося са мною, калі мне было шэсць гадоў. Гэта было яшчэ ў Дукштах. Аднойчы мама прывяла мяне ў касцёл. Пасля ўрачыстай Імшы была адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту і суплікацыя «Святы Божа...». Я стаяў на каленях... Да сённяшняга дня не магу зразумець, што са мною тады здарылася: я глядзеў на ксяндза, з ксяндза перавёў позірк на манстранцыю, з манстранцыі — на... постаць. Я не хачу сказаць, што меў нейкае аб'яўленне. Занадта рэальнае маё жыццё. Але там я адчуў першы позірк Бога...

Ведаеце, калі аднойчы Бог кагосьці зачапіў, то ўжо не адпусціць... Каля труны біскупа Лазінскага я выказаў просьбу заўсёды быць верным слугою Бога... І ён выслухаў мяне даслоўна... Калі я выходзіў з падзямелля пінскай катэдры ў тым далёкім 1933-м, то ўжо ведаў, што стану святаром. Дагэтуль я збіраўся паступаць на філалагічны факультэт у Віленскі універсітэт, але ўва мне раптам адбыўся нейкі пералом. Я сказаў сваім сябрам: «Я ў Вільню не паеду...» Але паколькі я тады быў вялікім жартаўніком, то сябры ўспрынялі гэта як чарговы жарт: «А куды ж, дазволь спытаць?..» «Я еду ў Пінскую семінарыю», — адказаў я. Для іх гэта быў апошні і найлепшы анекдот, мне пляскалі ў ладкі... А я вярнуўся дадому і ў той жа дзень напісаў заяву ў семінарыю і быў прыняты «ў выглядзе выключэння», бо тэрмін прыёму ўжо скончыўся. Чаму было зроблена тое «выключэнне»? Далей — болей.

Праз два тыдні я раптам захварэў: у мяне пачаўся моцны задушлівы кашаль... Доктар патлумачыў, што для мяне шкодны палескі клімат: «Калі хочаш быць здаровы, ужо сёння павінен выехаць з Пінска. Бяры білет і вяртайся ў Баранавічы», — і выпісаў даведку. У семінарыі мне сказалі: «Нам хворыя не патрэбны...» Я вымушаны быў забраць дакументы і вярнуцца дадому. Праз пару тыдняў хатняга лячэння вярнуўся ў Пінск з тою лекарскаю даведкаю і пайшоў проста да труны біскупа Лазінскага. Укленчыў і кажу: «Ксенжа біскупе, гэта ж ты мяне скіраваў у семінарыю... І што мне цяпер рабіць?» Памаліўся каля труны «Ойча наш...», зноў пайшоў да доктара і кажу яму: «Напэўна, вы мяне памятаеце? Я два тыдні таму быў у Вас». А той здзіўлена: «Чаго ж

ты прыехаў?» — «Пане доктар, я маю да Вас адну просьбу: абследуйце мяне яшчэ раз». — «Ну, добра...» І вось, абследаваўшы мяне, ён пытаецца: «Гэта ты Свёнтэк Казімір?.. Можа, ты кагосьці іншага падставіў?..» — «Не, гэта я». — «Але таго, што напісана ў тваёй даведцы, сёння абсалютна няма! Лёгкія чыстыя!»

Я на крылах паляцеў у семінарыю да рэктара. Стукаю ў дзверы, ён выходзіць: «Чым магу дапамагчы?» Я расказаў яму пра тое, што зноў быў у доктара, і паказаў новую даведку. Моцна здзівіўшыся, ён кажа: «А колькі ты заплаціў таму доктару?» Уяўляеце? Біскуп Лазінскі вымучыў мяне да апошняга пазногця! «Не, нічога я не плаціў, — кажу, — у мяне ёсць толькі адзін аргумент...» І распавёў яму пра тое, што перад візітам да доктара я хадзіў да труны біскупа Лазінскага. «Слухай... — кажа мне рэктар. — Ідзі ў свой пакой і працягвай падрыхтоўку да святарства...» Ён вельмі шанаваў біскупа Лазінскага.

Гэтыя жыццёвыя падрабязнасці — наглядны доказ дзеяння Божага Провіду ўжо на самым пачатку майго святарства.

*— Ваша Эмінэнцыя, а што для Вас найдаражэйшае, што самае галоўнае ў святарстве?*

— На адной з сустрэчаў са святарамі Ян Павел ІІ сказаў такія словы: «Галоўная місія святарства заключаецца ў Эўхарыстыі. Ваша і мая самасвядомасць раз і назаўсёды вызначана ў цэлебрацыі Эўхарыстыі». Калі я задумаўся над гэтымі словамі і над тым, што для мяне стаіць на першым плане ў святарстве і што адыгрывае ў ім галоўную ролю, то прыйшоў да высновы, што гэта, відавочна, Эўхарыстыя, святая Імша — святая Камунія і святая эўхарыстычная адарацыя... Прашу мне паверыць: я знешне ўтаймоўваю сябе, каб гэтага не было відаць, але на працягу сямідзесяці гадоў, калі я цэлебрую святую Імшу і пры вымаўленні словаў кансэкрацыі бяру ў рукі Гостыю і келіх, кожны раз у мяне дрыжыць голас, дрыжаць рукі... Бог Айцец дае нам прабачэнне, і чалавецтва збаўляецца. Бяда была б свету, калі б не было святой Імшы! Падчас святой Імшы мне як святару першаму дадзена карыстацца ахвярнымі дарамі, пераўтворанымі ў Цела і Кроў Езуса Хрыста. Які прывілей! А як жа міла адараваць «Вязня Любові» (гэта маё любімае азначэнне), прысутнага ў Касцёле ў табэрнакулюме! Падчас адарацыі я не размаўляю, у мяне проста няма словаў... Я кленчу, гляджу на табэрнакулюм — і са мною на свой Боскі лад размаўляе Езус Хрыстус. Гэта падобна да таго, што было са мною ў шасцігадовым узросце, у тым згаданым эпізодзе. Толькі яно паўтараецца, паўтараецца і паўтараецца... Я перакананы, што, калі настане канец майго жыцця, гэта будзе апошні акт падобнай сустрэчы з Богам.

*— Ваша Эмінэнцыя, адкуль у Вас такая моцная, сапраўды непахісная вера?*

— Яна ад Бога! Гэтую веру мне дае Бог! Таму часцей за ўсё я паўтараю: «Chwała i dziękczynienie bądź w każdym momencie Jezusowi w Najświętszym, Boskim sakramencie...» («Хвала і праслаўленне будзь у кожным моманце Езусу ў Найсвяцейшым, Божым Сакрамэнце»).

*— А якія месцы цэлебрацыі Эўхарыстыі для Вас найбольш памятныя?*

— Можа, гэта будзе вельмі нечакана, але найперш тыя святыя Імшы, якія я цэлебраваў у савецкіх лагерах. Пасля таго, як я нарэшцэ атрымаў камунікаНты — аплатак, прысланы на Божае Нараджэнне, і крыху разынак, якія размочваў у бутэлечцы, — я спрабаваў цэлебраваць Эўхарыстыю... Зразумела, рабіў гэта пакрыёма, калі ўсе ў бараку клаліся спаць. Тэкст святой Імшы я памятаў, бо штодня яго паўтараў... Гэта збаўляла і давала сілы... А ведаеце, што было пушкаю для камунікантаў? Пусты карабок ад запалкаў... Такія Імшы памятаюцца ўсё жыццё...

*— Ваша Эмінэнцыя, 15 жніўня ў Пружанах Вы сказалі, што хоць на працягу 70 гадоў з'яўляецеся святаром, але не асмеліцеся сцвярджаць, што да канца зразумелі таямніцу паклікання да святарства...*

— Сапраўды, не асмелюся. Я адчуў праявы гэтага святарства. Яно становіцца відочным, калі я кансэкрую, удзяляю разграшэнне і гэтак далей. Але часам я як бы чую: «А хто ты? Хто даў табе святарскую ўладу?» І стараюся ўсвядоміць, што я ўдзельнічаю ў адвечным святарстве Хрыста. Адвечны Святар — Хрыстус Пан. І кожны святар, кожны ксёндз, калі ён хоча зразумець, хто ён, павінен ведаць, што ён толькі ўдзельнічае ў гэтым святарстве Хрыста. Тут няма чалавечага фактару... І калі я такім чынам падыходжу да таямніцы святарства, то тады супакойваюся. Я толькі рэалізую пэўную частку гэтага адвечнага святарства Хрыста, як «alter Christus»...

*— Святы Ян Віянэй сказаў: «Ах, які ж вялікі святар! Калі б ён зразумеў сябе, то памёр*

*бы... Бог паслухмяны яму: ён вымаўляе два словы, і на яго голас наш Пан сыходзіць з неба і ўцелаўляецца ў маленькай Гостыі». Можа, Вы хацелі б падзяліцца сваім перажываннем гэтай велічы ў жыцці святара — паслухмянасці Бога.*

— Пабожны святар Алье напісаў: «Бог учыніў для Касцёла два цуды: Найсвяцейшую Панну Марыю і святара. Яму гэта ўдалося!» Слуга Божы Ян Павел II уклаў у вусны Хрыста такія словы, звернутыя да святара: «Мне патрэбны твае рукі, каб благаслаўляць далей. Мне патрэбны твае вусны, каб не перастаць гаварыць. Мне патрэбна тваё цела, каб не перастаць цярпець. Мне патрэбна тваё сэрца, каб магчы любіць. Ты патрэбны мне, каб я мог збаўляць далей».



*— Гэтак прыгожа і вобразна мог сказаць не толькі тэолаг, але і паэт...*

— Што ж датычыць мяне, то я перажываю святарства дваяка. З аднаго боку, я адчуваю сваю абсалютную нявартасць у выкананні справаў, якія вынікаюць з велічы святарства. Але адначасова я адчуваю ў сабе звышчалавечую годнасць святарства, асабліва тады, калі пакорна кленчу перад Адвечным Святаром — Езусам Хрыстом.

*— Хочацца яшчэ раз звярнуцца да Яна Віянэя, які напісаў: «Мой сакрэт просты: даваць усё і нічога не мець для сябе». А які сакрэт або дэвіз Вашага святарства, Эмінэнцыя?*

— У пэўнай ступені сакрэтам майго святарства з'яўляецца маё стаўленне да матэрыяльных справаў. Маё жыццё з дзяцінства, а таксама ў школьныя і юнацкія гады праходзіла ў беднасці. А часта — у крайнім убостве, бо не хапала нават хлеба. Умовы майго існавання падчас дзесяці гадоў зняволення ў савецкіх вязніцах і карных лагерах яшчэ больш сфармавалі ўва мне негатыўнае стаўленне да дабрабыту і выгодаў. Пасля вяртання з ГУЛАГу я адразу ўнёс гэты жыццёвы досвед у стыль свайго бытавання і зусім адмовіўся ад дабрабыту і выгодаў у сваім штодзённым жыцці. Для вызвалення ад усялякага матэрыяльнага цяжару я пасяліўся ў невялікім драўляным доме ў Пінску, адмовіўшыся ад пастаяннага пражывання — ужо як біскуп — у пабудаваных мною элегантных рэзідэнцыях арцыбіскупа Мітрапаліта ў Мінску і Апостальскага Адміністратара ў Пінску. Усялякія жыллёвыя патрабаванні і пераборлівасць у ежы я аднёс бы да сваіх уласных цяжкіх грахоў, памятаючы лагерныя баракі і славутую баланду. У якасці кампенсацыі ад Бога за пэўныя адрачэнні я меў і маю магчымасць захапляцца прыгажосцю прыроды Палесся.

*— Вы апярэдзілі маё пытанне: што Вас найбольш захапляе ў гэтым жыцці, што Вам найбольш падабаецца?*

— Ад мяне нічога задарма... *(Смяецца.)* Але і Бог не жмінда: захапляйся прыродаю... Выйдзі на ўзлесак, на балота... Пераначуй у стозе сена... Няхай цябе пакусаюць камары... Я жыў гэтым дзесяткі гадоў... Выправы з сабакам Асам на лодцы, начлегі каля ракі... Юшка з чыгунка... А такаван-



ня глушцоў не заменіць ніякі самы ўрачысты канцэрт!

*— Кажуць, каб пачуць такаванне глушцоў, тым больш, каб іх убачыць, трэба адмыслова падпільнаваць птушак і загадзя прытаіцца ў цішы?..*

— Так, трэба «ўтаямнічыцца»... Чалавек часта слухае гукі прыроды, але не чуе іх, не адчувае... У прыродзе ёсць столькі з'яваў, якія знаходзяцца каля нас, праходзяць праз нас, але мы іх не адчуваем, не разумеем і не можам выкарыстаць... Навука даследуе, пазнае прыроду, але мы ніколі не спазнаем яе да канца, ніколі не зраўняемся з Богам... Інакш бы Бог перастаў быць Богам... Мы сталі б бажкамі... Тады б усё рухнула, як карткавы дамок...

*— Але ж у Кнізе Быцця сказана: «Напаўняйце зямлю і валодайце ёю...»*

— Так, валодайце, але да канца свету чалавек будзе спрабаваць падпарадкаваць яе сабе і не падпарадкуе...

*— «Калі я калісьці стану святою, то стану ёю ад „цемры“», — напісала Маці Тэрэза з Калькуты ў адным са сваіх лістоў. Вядома, што і яна, і многія іншыя благаслаўлёныя і святыя праходзілі праз гэты стан „цемры“, сумненняў і нават страты веры... Ці здаралася штосьці падобнае ў Вашым жыцці?*

— Сапраўды, не толькі Маці Тэрэза. Святы Ян ад Крыжа характарызаваў такі стан як «уваход у ноч веры, падчас якой ачышчаецца душа». А мая любімая святая, Тэрэза ад Дзіцятка Езуса, казала: «Трэба самому прайсці праз гэты змрочны тунэль, каб зразумець, што значыць цемра». На працягу ўсяго свайго жыцця, асабліва за гэтыя семдзесят гадоў святарства, я ніколі не спазнаваў такога стаўлення да Бога, ніколі не праходзіў праз «змрочны тунэль» і не перажываў «ночы веры»... Я не бяруся ацэньваць адсутнасць вышэйзгаданых з'яваў на маім шляху веры... Я проста вельмі ўдзячны Богу за шчаслівы ўнутраны спакой у маёй душы ў такой важнай справе як вера ў Яго і маю толькі маленькую просьбу да Бога: «І да старасці не пакінь мяне, Божа» (пар. Пс. 70, 18).

*— Няўжо нават у ГУЛАГу, у тых нялюдскіх цяжкіх умовах, ніколі не ўзнікала, як у старазапаветнага Ёва, пытанне: «За што мне гэтае цярпенне?» Няўжо не ўзнікала жадання паспрачацца з Богам ці хоць бы паскардзіцца, сказаць Богу, як прарок Ерамія: «Ведай, што дзеля Цябе цярплю прыніжэнне»?*

— Калі я, ужо зняволены, ляжаў у Оршы хворы на дызентэрыю... пад галавою ў мяне быў маленькі клуначак... Я думаў: «Пане Божа... Так, жыццё павінна скончыцца... Але чаму тут, у гэтай Оршы?.. Ніхто нават не будзе ведаць, дзе той пружанскі ксёндз памёр...» Уявіце сабе, раптам у гэты ж момант я чую, як хтосьці ходзіць сярод хворых і пытаецца: «У кого есть простыня?..» У Пружанах, на плябаніі, калі мяне другі раз забіралі, сястра ксяндза пробашча збірала мяне ў дарогу і дала з сабою добрыя выпрасаваныя прасціны... Я яшчэ абураўся: «Навошта яны? Мяне ж адпраўляюць у вязніцу...» А кадэбіст, які прысутнічаў пры гэтым, кажа (відаць, Божы Провід ім так скіраваў): «Да бери, пригодится». І вось там, у Оршы, у мяне ўсё прапала, а пад галавою ў клуначку была толькі адна прасціна. Божы Провід умее жартаваць напоўніцу... Чалавек, які шукаў прасціну, быў доктарам. Ён паглядзеў, спытаў маё імя, прозвішча, імя па бацьку... Мяне вынеслі з тым клуначкам... Бачу — стаіць той доктар у белым халаце і кажа: «Это я ищу себе простыню». Я не мог сам стаяць і мяне трымалі за рукі, а калі адпусцілі, то я ўпаў і пачуў голас: «Врачи, посмотрите... Живой труп... Покажите вашу про-

стыню...» Гэты доктар зрабіў мне ўколы для падтрымкі і сказаў: «Будете жить». Ён нават даў мне 60 рублёў за тую прасціну...

І няхай мне цяпер хто-небудзь скажа, што не трэба верыць у Божы Провід! Па-першае, чаму той кадэбіст мне сказаў: «Да бери, пригодится»? Па-другое, чаму акурат у тую камеру, дзе быў я, увайшлі шукаць прасціну і акурат у мяне знайшлі яе? І чаму ў мяне ўсё ўкралі, а засталася толькі адна прасціна? Хто гэтым кіраваў? Хто рэжысіраваў?..

*— Усё Той жа Вялікі Рэжысёр!..*

— Менавіта. Дык якія тут могуць быць скаргі і спрэчкі з Богам?

*— Святы Францішак калісьці сказаў, што «любоў нелюбімая ў гэтым свеце». А святы Максімільян Марыя Кольбэ гаварыў, што Хрыстус не толькі хацеў нас збавіць, але і хацеў паказаць нам «бязмежнасць сваёй любові». Аднак чаму да сённяшняга дня любоў застаецца такою нелюбімаю і нават непатрэбнаю гэтаму свету?*

— «І мы пазналі, і паверылі ў любоў, якую мае да нас Бог. Бог ёсць любоў» (1 Ян 4, 16) — гэта галоўная аксіёма нашай хрысціянскай веры, асноўны змест Добрай Навіны — Евангелля Хрыста. У сучасным свеце, напоўненым эгаізмам, злосцю, нянавісцю, матэрыяльным разлікам, ужо не стае месца для сапраўднай любові, а значыць і для дабрыні, сардэчнасці, зычлівасці, згоды, міласэрнасці... Сумныя словы святога Францішка пра тое, што «любоў нелюбімая ў гэтым свеце», на жаль, сёння асабліва актуальныя. Менавіта Касцёл, а ў ім святары павінны ўсё больш рупліва абвяшчаць і пашыраць цывілізацыю любові, якая чэрпаецца з Найсвяцейшага Сэрца Езуса, «палымнеючага вогнішча міласці».

*— У сакавіку гэтага года мінула 25 гадоў з таго часу, калі Святы Айцец Ян Павел II даручыў гэты свет Беззаганнаму Сэрцу Марыі. Вядома, што Вы з'яўляецеся асаблівым шанавальнікам Марыі. Адкуль пачалася гэтая любоў да Маці Божай у Вашым жыцці?*

— Любові да Маці Божай яшчэ ў дзяцінстве мяне навучыла мая мама. Потым гэтая любоў узмацнілася ў Марыянскай Садаліцыі, якая была створана ў 20—30-я гады мінулага стагоддзя, калі культ Маці Божай пачаў асабліва пашырацца...

*— А якія былі Вашыя абавязкі як сябра Садаліцыі?*

— Адзін раз на месяц прыступаць да споведзі і прымаць святую Камунію. І на працягу ўсяго жыцця штодзённа тры разы маліцца «Вітай, Марыя...» За няпоўныя 75 гадоў маёй прыналежнасці да Садаліцыі я хіба толькі несвядома прапусціў калі-небудзь гэтыя малітвы. <...> Культ Марыі — адна з галоўных рэлігійных практыкаў у маім духоўным жыцці. А наглядным знакам маёй любові да Маці Божай з'яўляецца выбраны мною дэвіз для біскупскага герба: «Маці Міласэрнасці»...

*— Што б Вы хацелі, Эмінэнцыя, у свой юбілейны год і ў Год святарства пажадаць святарам, асабліва маладым?*

— «Вось іду, каб выканаць волю Тваю» (Гбр 10, 7). Хачу падкрэсліць, што ў гэтым выказванні ўжыты цяперашні час. Святарскае пакліканне не можа быць толькі з'яваю мінулага, гэта пастаянны заклік, угрунтаваны ў глыбіннай сутнасці святарства, якое назаўсёды з'яднала мяне з Хрыстом. «Іду...» — гэта значыць — увесь час, ажно да смерці... «Sacerdos in aeternum». Святарства ахоплівае мяне цалкам, яно ахоплівае ўсё маё жыццё, усю маю дзейнасць — я ёсць «alter Christus». Кожны святар, «якога выбіраюць з людзей, прызначаны для людзей» (Гбр 5, 1). Я патрэбны людзям, і не на «паўстаўкі», як найміт. Калі час ад часу можа здавацца, што я не патрэбны, то гэта значыць, што я павінен даваць больш выразнае святарскае сведчанне, і толькі тады я пераканаюся, як моцна патрэбна свету гэтае святарскае сведчанне.

Сёння вернікам патрэбны святар, але іх давер узнікае і ўзрастае тады, калі яны бачаць, што яго асабістае жыццё адпавядае святарскаму служэнню.

Вось некаторыя разважанні, якія ўзнікаюць з нагоды 70-годдзя майго святарства і якімі я хацеў бы падзяліцца ў Год святарства з іншымі святарамі, з сваімі канфратрамі. Жадаю ім усім паўнаты ў ажыццяўленні Хрыстовага святарства на хвалу Божую, дзеля выканання місіі Касцёла і дзеля збаўлення чалавечых душаў.

*— Вялікі дзякуй, Ваша Эмінэнцыя, за шчырую размову.*

*Размаўляла*
*Крыстына Лялько.*

Рамано ГУАРДЗІНІ

# ЧАКАННЕ СТВАРЭННЯ

## Каментар на Пасланне да Рымлянаў 8, 12–39

IV.

«Дух дапамагае ў слабасцях нашых, бо мы не ведаем, аб чым трэба маліцца, але сам Дух заступаецца за нас стагнаннямі невымоўнымі. Той жа, хто даследуе сэрцы, ведае, якая думка ў Духа, бо Ён заступаецца за святых па волі Божай» (Рым 8, 26–27).

Дух — гэта Той, хто ўкладае ў нас зародак новага жыцця; Ён таксама Той, хто дапамагае гэтаму зародку спадзявацца, — спадзявацца і ўвогуле жыць. Тое, што сталася праз Яго, толькі праз Яго можа існаваць. Богачалавечае жыццё абудзілася ў Марыі праз сыходжанне Духа Святога (Лк 1, 35), і ў сіле таго ж самага Духа Хрыстус жыў і здзяйсняў сваю справу — хрысціянскае ж жыццё будуецца паводле жыцця Хрыста. Праз Духа Святога яно пачынаецца; у Ім яно існуе і ўзрастае, змагаецца і спадзяецца.

Першым рухам гэтага жыцця, і адначасова яго дыханнем, з'яўляецца малітва. Самі мы не ведаем, аб чым трэба маліцца; Дух навучае нас. Вельмі прыгожа пераплецены тут значэнні. Бо «дух» — азначае «ўздых». Святы Дух — гэта дыханне Бога. Такім чынам, Бог ёсць тым, хто вучыць новае жыццё ў нас дыхаць, гэта значыць маліцца. І Ён сам ёсць тым, хто дыхае ў нас; і тады дыханне зняволенага, прыгнечанага няпэўнасцю, абмежаванасцю і пярэчаннямі жыцця, гэтае ўздыханне становіцца «стагнаннем» аб вызваленні і дасканаласці. Тое, што перад гэтым было сказана пра стагнанне стварэння і нашае ўласнае ў станаўленні новага жыцця, працягваецца тут надзвычайным чынам: сам Дух з'яўляецца тым, хто прагне ў нас дасканаласці. Вечны клопат Ягонай любові, усяго Ягонага быцця, якое з'яўляецца любоўю, скіраваны на тое, каб адбывалася святое нараджэнне ў Богу — самавыяўленне Айца ў Сыне і звяртанне Сына да Айца — дзеля праўды свабоднага быцця сабою і дзеля непадзельнасці вечнага «прабывання». Пасля таго як Хрыстус паслаў нам Духа, Яго клопат скіраваны цяпер і на тое, каб праз таямніцу ласкі ажыццявілася нараджэнне новага жыцця ў братах і сёстрах Хрыста.

Якая добрая гэта вестка, што сам Дух у нас дыхае і моліцца, і стогне! Гора нам, калі б тое станаўленне было ў нашых недасведчаных, нядбайных руках! Якая бясконцая дабрыня ў тым, што Ён, наш Заступнік, наш Суцяшальнік, зрабіў гэта сваёй справай! Няспынна здзяйсняецца глыбока ўнутры, у цэнтры станаўлення нашага быцця, малітва Духа. Няспынна даносіцца дыханне Яго збаўлення да Айца. І калі молімся мы самі — то тое, што па ўбоству гэтай малітвы цэніцца перад Богам, паходзіць ад Яго.

Яго малітва даходзіць да Бога. Сэнс Яго стагнання зразумелы Богу, таксама і тады, калі мы самі яго яшчэ не разумеем. Нам трэба ўключыць яго ў нашу свядомую і напрактыкаваную малітву; але ён заўсёды будзе больш глыбокі, чым яна. Заўсёды будзе так, што Бог — хочацца сказаць, Айцец — зразумее яго лепей, чым мы самі. І Ён гэта можа, бо Ён — гэта Той, хто «даследуе сэрцы». У іншым месцы гаворыцца, што «Дух пранікае ва ўсё, нават у глыбіні Божыя» (1 Кар 2, 10). Мы бачым цудоўную блізкасць, у якую Евангелле пасоўвае чалавека [блізкасць] да Бога. Дух прамаўляе з самых глыбіняў чалавека — новых, святых, не натуральных — амаль гэтак жа, як з унутраных глыбіняў Бога. І ў таямніцы збаўленай душы, і ў бяздонні святасці Бога — пры захаванні неспасцігальнага адрознення, якое існуе паміж Богам і Яго стварэннем, — жыве той самы Дух Святы. Чаго Ён хоча, ведае Айцец. Бо Дух — гэта глыбокае пачуццё замілавання, у якім Бог жыве ў самім сабе. Ён становіцца таксама глыбокім пачуццём замілавання да чалавека, бо Езус сказаў, што Ён пашле нам Яго як нашага Суцяшальніка; як нашага Заступніка; як таго, хто ўчыніць так, каб мы не засталіся сіротамі (Ян 14, 18; 16, 7). Для нас Ён таксама «Блізкасць» — «Повязь», «Асалода» называе Яго Касцёл.

І не выпадкова, што тут узнікае слова «святыя». Мы называем святымі вялікіх, надзвычайных людзей, якім Касцёл прыпісвае

*Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.*

ззянне [дзейснасці] звароту і ўшанавання; а Пісанне разумее пад гэтым іменем усіх тых, хто верыць і ахрышчаны, — тых, у кім дыхае Дух Святы.

V.

«Мы ведаем таксама, што тым, хто любіць Бога, — пакліканым па Яго пастанове — усё садзейнічае дзеля дабра іхняга. Бо, каго Ён наперад пазнаў, таго і прадвызначыў быць падобным да вобраза Сына свайго, каб Ён быў першародным між многімі братамі; а каго прадвызначыў, таго і паклікаў, каго паклікаў, таго і апраўдаў; а каго апраўдаў, таго і ўславіў» (Рым 8, 28—30).

Тое, што ідзе цяпер, — гэта непараўнальнае запэўніванне, якое пранікае ўсё глыбей, становіцца ўсё больш моцным і радасным.

«Мы ведаем», — пачынаецца тэкст. Не праз розум, не з нейкай мысленнай праніклівасці або жыццёвай мудрасці, не з містычнага пачуцця бяспекі, якое паўсюдна можа вынікаць з паглыблення рэлігійнасці, а дзякуючы таму ўнутранаму голасу Духа Святога, пра які была гаворка. Ведаем, што Бог [чыніць так, што] тым, «хто любіць Бога... усё садзейнічае дзеля дабра іхняга». «Дабро», пра якое тут гаворыцца, — гэта станаўленне новага чалавека. Яму садзейнічае не толькі шчаслівы збег акалічнасцяў, але «ўсё». Зямныя ўяўленні аб станаўленні і дасканаленні асобы таксама могуць быць вельмі напружанымі і ўключаць у сябе нароўні са шчасцем і гора; аднак, калі тое ці другое заходзіць вельмі далёка, то з ім перастаюць лічыцца. Бо калі яны застаюцца рэальнасцю, то хутка дасягаюць мяжы, дзе пачынаецца проста самазнішчэнне. Тая ж упэўненасць, пра якую гаворыць Павел, не выключае нічога. Яна ведае, што літаральна ўсё, што адбываецца, садзейнічае ўнутранаму станаўленню.

Аднак зноў жа — і няхай чытача не раздражняе, калі мы зноў і зноў падкрэсліваем адрозненні, таму што гаворка ідзе пра сэрца хрысціянскага паслання, і ўсё залежыць ад таго, каб значэнне слоў, якія могуць выклікаць непаразуменне, было абсалютна ясным, — не таму ўсё павінна дапамагаць унутранаму станаўленню, што нібыта яно неадольна паходзіць з сутнасці поўнага сілы чалавека, а таму, што Божы Провід ніколі не памыляецца. Гэтая таямніца, аднак, мае два бакі. Людзі, пра якіх тут гаворыцца, гэта тыя, «хто любіць Бога», — і ў той жа час, гэта тыя, хто «пакліканы па Яго пастанове». Адно першае магло б азначаць, што гаворка ідзе пра ўласнае дасягненне сэрца любячага, і ўсё зноў звялося б да зямнога. Адно другое магло б зрабіць ураджанне, нібыта гаворка ідзе пра адвольны выбар, і рабіла б чалавека аб'ектам боскага капрызу. На самай справе ёсць і тое, і другое: заклік чыстай ласкі і адначасова ўнутраная гатоўнасць сэрца — падобна да таго, як пасланне анёла пра Божае Нараджэнне (Лк 2, 14) можна пераклaсці так: «Супакой людзям, якіх упадабаў Бог, бо Яго ласка выбрала іх», але можна і так: «Супакой людзям, якіх упадабаў Бог, бо гэта людзі добрай волі». З гэтай таямніцы паходзіць тое кіраўніцтва, якое чыніць так, каб усё, што б ні здарылася, таксама і самае неспасцігальнае і самае разбуральнае, супадала з унутраным станаўленнем.

І цяпер у поўную сілу развіваецца гэтая думка чыстай ласкі, якая не мае ніякіх перадумоваў, апроч сябе самой.

Гэтая таямніца такая вялікая, што можа здавацца няяснай і прыгнятаць. Мы не можам у яе пранікнуць, аднак павінны паклапаціцца пра тое, каб разабрацца ў ёй. Наступныя сказы стаяць у Пасланні да Рымлянаў — у тым пасланні Апостала, у якім ён найбольш моцна жадае разбурыць любыя прэтэнзіі: прэтэнзію быць яшчэ дзейсным, якую мог бы выстаўляць старазапаветны Закон, — але таксама і кожную прэтэнзію на тое, каб мець уплыў на ўласнае збаўленне, якую маглі б прад'яўляць уласная воля і ўчынкі чалавека. Праўда і тое, што Стары Запавет таксама грунтаваўся на ласцы і патрабаваў ад чалавека поўнай згоды з жывым Богам; аднак існавала гэта, зрэшты, пры строгім захаванні таго, што чалавек павінен рабіць і што яму заборонена, — гэта значыць Закона, і яго выкананнем было абумоўлена [Божае] абяцанне. Зноў і зноў у ім гаворыцца: «Калі вы зробіце гэта, будзеце жыць». Многае ў гэтым Законе было мараллю і пабожнасцю, якія заўсёды захоўвалі сваё значэнне; аднак па сутнасці ён быў скіраваны на здзяйсненне гісторыі збаўлення і падрыхтоўваў прыйсце Месіі — або так, каб сэрцы людзей адкрыліся для Яго, або таксама, як гаворыцца ў Пасланні да Рымлянаў, каб праз немагчымасць выконваць Закон ім адкрыліся вочы на сваё бяссілле. З жыцця ў Законе выцякала, аднак, такое ўсведамленне праведнасці і надзейнасці, што хрысціяне аказаліся ў небяспецы пераняць гэтае ўсведамленне разам з сілай абавязкаў Закона. У процівагу гэтаму Павел гаворыць: усё гэта мінула і скончылася. Тое, што цяпер важна, гэта не Закон і не яго выкананне, а ласка Божая ў Хрысце і вера ў Яго; жыццё пад кіраўніцтвам Святога Духа і ў еднасці са Збаўцам...

Гэтая адмена Закона змяшчае, акрамя таго, яшчэ адно. Сам па сабе Закон быў звязаны з гісторыяй збаўлення, якую здзяйсняў Бог; аднак ён так моцна апеляваў да волі чалавека і заклікаў да дзеяння, што заўсёды існавала пагроза

саслізнуць у натуральную мараль і праведнасць. Таксама і супраць гэтага выступае Павел. Не таму, што нібыта ён невысока ацэньваў зямныя даброты; ён толькі настойвае на тым, што тое сапраўднае, пра якое ідзе гаворка ў Евангеллі, не можа ўзнікнуць з іх. Яно прыходзіць ад Бога, узрастае дзякуючы панаванню Яго Духа і засвойваецца чалавекам у веры, любові і паслухмянасці. І ў гэтым жыве таксама ўсё, што Ён мае па велікадушнасці і сіле. «Жыву ўжо не я, але Хрыстус жыве ўва мне» (Рым 2, 20).

Такім чынам, тут тое, што гаварылася вышэй пра новае жыццё, становіцца жыццёвай паставай. Сутнасць яе мы можам абагульніць у двух выказваннях: Тым, хто тут пануе, з'яўляецца Бог, а не чалавек; усё з'яўляецца дарам — як велікадушнасць, так і страх ад таго, што скончылася патрэба ўласнага дзеяння; усё стала вялікім і самаахвярным. Але адначасова: у гэтай свабодзе чалавек павінен адкінуць усё тое, што ён мае, — сваю гатоўнасць [да ўсяго], высакароднасць, моц учынкаў і адвагу стварэння; няма нічога, што было б занадта добра ці занадта шмат; той, хто ўсё атрымаў, павінен таксама ўсё аддаць.

Адсюль становяцца зразумелымі наступныя сказы. Тое, пра што ідзе гаворка, паходзіць не з унутранага вытоку чалавечага жыцця і не з глыбіняў свету, а з таямніцы свабоднай Божай волі, непранікальнай, таму што яна з'яўляецца свабодаю самога Бога — Бога, які ні ў чым не залежыць ад свету, больш за тое, з'яўляецца яго Стварыцелем і Панам. Адтуль паходзіць надзея, пра якую была гаворка, — [яна даецца] тым людзям, якіх Бог выбраў, перад усімі вякамі, па-над усімі зямнымі абставінамі, па-над усялякімі ўласнымі жаданнямі, уменнямі і ўчынкамі. Ён «прадвызначыў» іх для таго святога станаўлення. Сутнасць жа гэтага станаўлення заключаецца ў тым, каб стаць падобным да вобраза Ягонага Сына. Новае тут — гэта ўдзел у жывой рэальнасці Хрыста <...>, удзел у Яго складзе думак, у Яго жыцці і Яго правах. Ён — сапраўды новы чалавек; роданачальнік святога роду (Рым 5, 12–21). Ён — «Першародны», які выйшаў з улоння Марыі, улоння ласкі. А мы з'яўляемся Яго братамі і сёстрамі; разам з Ім — дзецьмі аднаго Айца і суспадкаемцамі Яго ўладанняў. Каго Бог такім чынам выбраў і прадвызначыў, тых Ён паклікаў, апраўдаў, уславіў, — крок за крокам святыя падзеі набліжаюцца да завяршэння [ў дасканаласці].

VI.

«Дык што сказаць на гэта? Калі Бог за нас, хто ж супраць нас? Той, хто Сына свайго не пашкадаваў, але аддаў Яго за ўсіх нас, ці ж таксама не дасць нам разам з Ім усяго? Хто будзе абвінавачваць выбраных Богам? Ці ж Бог, які апраўдвае? Хто будзе асуджаць іх? Ці ж Хрыстус, які памёр, а нават больш за тое, уваскрос, знаходзіцца праваруч Бога і заступаецца за нас? Хто адлучыць нас ад любові Хрыста; няшчасце ці прыгнёт, ці праслед, ці голад, ці галеча, ці небяспека, ці меч? Як напісана: За цябе забіваюць нас увесь дзень, лічаць нас авечкамі, прызначанымі на зарэз.

Над усім гэтым мы атрымліваем поўную перамогу праз Таго, хто палюбіў нас. Бо я перакананы, што ні смерць, ні жыццё, ні анёлы, ні ўлады, ні цяперашняе, ні будучае, ні сілы, ні вышыня, ні глыбіня, ні іншае якое стварэнне не зможа адлучыць нас ад любові Божай, якая ёсць у Хрысце, Пану нашым» (Рым 8, 30–39).

А цяпер, здаецца, думка робіць скачок. Пачуццё змяняецца. Пасля вялікай і глыбокай упэўненасці адчуваецца неспакой. Здаецца, у душы таго, хто гаворыць, нешта адбываецца. У яго сэрцы, якое так глыбока напоўнена ўсведамленнем уласнай недастатковасці; у якім нязгасна палае той боль, які Павел выказвае ў шматлікіх месцах яго пасланняў, што ён «не заслугоўвае таго, каб называцца Апосталам, бо праследаваў Касцёл», — [у гэтым сэрцы] мабыць, уздымаецца трывога: Ці сапраўды гэта так? Ці не занадта шмат супраць цябе? Ці не зможа «абвінаваўца людзей» выступіць супраць цябе і сказаць, нібыта ты нявартым абяцання?.. Насуперак гэтаму страху Павел тым больш страсна і цвёрда пранікае ў таямніцу любові Бога.

Першы сказ перадае нерашучасць: «Дык што сказаць на гэта?» Мы адчуваем за гэтымі словамі неспакой. Аднак потым [Павел] ставіць усё на Бога. На памяць нам прыходзяць падобныя словы з Новага Запавету, напрыклад, калі мужчына, які прасіў Езуса вылечыць хворага хлопчыка, на пытанне: «Ці верыш, што Я магу гэта зрабіць?» адказвае: «Веру, дапамажы майму няверʼю!» (Мк 9, 24). Або іншыя, калі Пётр гаворыць пра тое, што ў Кафарнауме пасля абвяшчэння таямніцы Эўхарыстыі ад Яго пачалі адыходзіць: спачатку адышлі юдэі, потым «многія вучні» і, нарэшце, Езус звяртаецца да Дванаццаці: «Ці і вы таксама хочаце пайсці?» Тады Пётр, адкінуўшы ўзрастаючы у ім неспакой, выказвае Пану тое, што было на сэрцы: «Да каго мы пойдзем? Ты маеш словы жыцця вечнага!» Ёсць моманты, калі вера не можа больш выпрабоўвацца і абмяркоўвацца, але гаворка ідзе пра жыццё, і толькі адно магчыма: усё [лішняе] адкінуць! Гэта адбываецца і тут.

«Калі Бог за нас, хто ж супраць нас?..» Гэта сапраўды так? Ці адпусціла Ягоная ласка зло, якое ты ўчыніў, каб праціўнік больш не

мог нагаворваць пра яго? Ці можа яна поўнасцю пераадолець у табе дрэннае, каб яно больш не ўздымалася супраць Бога?.. І пра гэта пытаецца не толькі чыстая памяць і ясная  воля, але таксама страх сэрца, туга, якая ахапілівае цалкам без прычыны: Адкуль ты ведаеш, што Бог за цябе?.. Дрэннае пытанне, і гора таму, хто не вытрымлівае яго напору! Таму Павел, задаючы яго, увогуле, не нам, здымае ўвесь магчымы неспакой вялікім «так» веры: Гэта так, таму што Дух сказаў мне гэта!.. Але як ты можаш быць упэўненым, што той, хто сказаў табе гэта, сапраўды Дух?.. Адказ: гэта мусіць быць Ён, таму што, калі Дух прамаўляе, немагчыма сумнявацца… Сам унутраны пачатак запэўнівае сябе самога, і гэта залежыць толькі ад таго, ці з'яднаўся чалавек з Тым, хто тут «дае сведчанне», у быцці і небыцці.

Адсюль наступны сказ атрымлівае сваю трыумфуючую ўпэўненасць. Бог аддаў за нас свайго Сына — гэта значыць, аб'явіў склад думак, для якога ў свеце няма ніякага азначэння. Бо для Бога, які так дзейнічае, сапраўды, у свеце няма ніякага паняцця. Для свету Ён — спакуса, як ужо было сказана, звыкламу чалавеку «Ён не па густу». Калі мы хочам дабіцца праўды, мы павінны рэзка змяніць сам кірунак думкі: менавіта гэта і ёсць Аб'яўленне — тое, што Бог учыніў так; і з гэтага становіцца ясна, хто ёсць Ён. Хто ёсць Ён, а таксама хто ёсць чалавек. Мы ведаем ужо, што чалавек жыве не з уласных уменняў і заслугаў, а з ласкі Божай. Гэта таямніца, але яна застаецца, калі можна так сказаць, яшчэ ў межах дасягальнасці нашага рэлігійнага мыслення. Аднак паслухаем далей: гэтая ласка азначае, што Бог свайго Сына, а значыць, сябе самога, «аддаў» — на нешта неспасцігальнае, на дзівацтва і адчужэнне (гл. Флп 2, 7–8) — і тут мы ўжо не можам пазбегнуць высновы, што чалавек мусіць быць нечым такім, дзеля чаго такое адданне ў Божым маштабе мае сэнс. Не паводле ўласнага быцця і заслугаў, а паводле таго, што дадзена Божаму стварэнню; і гэта так на самай справе. Калі Бог ствараў чалавека, Ён стварыў яго як нешта важнае для сябе самога. Ён стварыў яго так, як мы не здольныя прыдумаць, — стварыў сабе самому для лёсу. І калі мы сур'ёзна прымем і разважым пасланне, што Бог любіць чалавека, — сапраўды любіць, не толькі ў нейкім сэнсе і не ў якасці параўнання, што Ён — гэта Той, хто тут любіць, тады мы, магчыма, зможам цьмяна адчуць, што гэта магло б значыць.

Гэтая любоў такая моцная і такая поўная, што абвінавачванню больш няма месца. Для чалавека з такім чуйным і далікатным сумленнем, якое мае Павел, які пастаянна вельмі востра адчуваў станаўленне прыхільнасці ўчынкаў і быцця, усё існаванне — гэта суцэльны суд. Абвінаваўцам з'яўляецца сумленне; а пад уплывам сумлення прыгнятае сумны настрой; а яшчэ крыху далей у глыбіні — цёмныя сілы, якія сочаць за злом у чалавеку. Гора, калі абаронца не моцны — не такі моцны, каб ён пераадолеў страх. Тады страх узрастае і перамагае цемра. Але гэты абаронца тут — гэта Хрыстус Езус, усё быццё якога — аб'яўленне той любові Бога; [Хрыстус], які памёр, уваскрос, сядзіць на троне.

Аднак зноў маглі б навальвацца, бянтэжачы, сумненне і страх: Хрыстус тут, вядома; але таксама — для цябе?.. Гэта Ён, адказвае вера, таму што Ён жа любіць мяне… Страх: А хіба ты ведаеш, што Ён цябе любіць? Вера: Я ведаю гэта, таму што ўсё Яго быццё — гэта нішто іншае, як любоў… Але, можа, ты няварты гэтай любові? Ты ж ужо аднойчы паўставаў супраць Яго. Ён жа сам клікаў цябе, тады, пад Дамаскам: «Саул, Саул, чаму ты гоніш Мяне?..» І цяпер зноў настае такі момант, што ўжо нельга разважаць, таму што кожны адказ выклікае новае сумненне, і ад усяго ўзрастае збянтэжанасць страху. Зноў гаворка ідзе пра ўсё; таму вера становіцца адным адзіным «так»: «Нішто не можа адлучыць нас ад любові Хрыстовай!» Нішто звонку і нішто ўнутры; нішто з таго, што належыць свету, і нішто з таго, што належыць цемры.

А наступныя сказы з'яўляюцца адзіным нарастаючым трыумфам веры над пярэчаннямі, якія навальваюцца з усіх бакоў. Адзіным гімнам таго самага ўсведамлення, якое вышэй названае «надзеяй». Самае глыбіннае ў чалавеку, «сэрца ягонага сэрца», калі выкарыстоўваць цудоўныя словы паэта, яднаецца з самым глыбінным у Богу, з Яго аб'яўленым у Хрысце жаданнем сэнсу, з Яго любоўю. Там, дзе гэта адбываецца, дзе тое самае глыбіннае чалавека замацоўваецца любоўю Бога, там рашэнне прымаецца лёгка. Тут знаходзіцца цэнтр свету. Тады можа прыйсці ўсё, няшчасце і бязрадаснасць: сапраўднае будзе забяспечана. Нават больш, нашмат мацней: «усё садзейнічае для дабра». Тое, што мы вышэй называлі ўпэўненасцю новага жыцця, станаўленне якога адбываецца, дабіваецца тут перамогі.

*Пераклад з нямецкай мовы*
*Ірыны Бурак.*
*Паводле выдання:*
*Romano Guardini.*
*Das Harren der Schöpfung.*
*Werkbund Verlag Würzburg. 1940.*



# Кветачкі святога Францішка

У імя Пана нашага
ўкрыжаванага Езуса Хрыста
і Яго Маці Панны Марыі
ў гэтай кнізе выкладзеныя
некаторыя справы,
цуды і прыклады добрапрыстойнасці
слаўнага нябогі Хрыстовага
месэра святога Францішка
ды іншых яго святых паплечнікаў.
Хвала Езусу Хрысту.
Амэн.

**Частка XXIX**

*Як д'ябал у выглядзе Укрыжаванага з'яўляўся некалькі разоў брату Руфіну і казаў, што яму не ўлічыцца зробленае дабро і не будзе ён сярод абраных для вечнага жыцця. Святы Францішак даведаўся пра гэта праз Божае адкрыццё і раскрыў брату Руфіну падман, у які той паверыў.*

Брат Руфін, адзін з самых шляхетных людзей Асізі, паплечнік святога Францішка і чалавек вялікай святасці, быў нейкі час вельмі апанаваны і спакушаны ў душы дэманам у сваім прадвызначэнні і з-за гэтага заўсёды быў засмучаны і сумны, бо дэман пераконваў яго ў сэрцы, што быў ён асуджаны і не належаў да абраных для вечнага жыцця, і што не мела ніякага значэння ўсё тое, што ён рабіў у ордэне. Дзень за днём працягвалася гэтая спакуса, а брат Руфін, саромячыся, нічога не гаварыў святому Францішку, але, не зважаючы ні на што, ён не пакідаў малітваў і звычайнага ўстрымання; таму вораг стаў насылаць на яго сум і, акрамя ўнутранага змагання, вымушаў яго змагацца яшчэ і з рознымі ілжывымі візіямі.

Аднойчы ўзнік ён перад братам Руфінам у выглядзе Укрыжаванага і сказаў яму: «О, брат Руфін, чаму ты так стараешся ў пакаянні і ў маленні, калі ты не абраны для вечнага жыцця? Мне павер, бо я ведаю, каго я абраў і прадвызначыў для вечнага жыцця, і не вер сыну П'етра Бэрнардоні, калі ён табе будзе гаварыць адваротнае, і нават не пытайся ў яго пра гэта, бо ні ён, ні хто іншы пра гэта не ведаюць, акрамя мяне, сына Божага; і павер мне, ты належыш да ліку асуджаных, а сын П'етра Бэрнардоні, твой айцец, а таксама і яго айцец асуджаныя, а ўсе, хто ідуць за імі, — падманутыя». Пачуўшы такія словы, брат Руфін пачаў паддавацца словам князя цемры і быў настолькі імі зацьменены, што пачаў страчваць веру і любоў, якія меў да святога Францішка, і не спяшаўся яму штонебудзь расказаць.

Але тое, што не сказаў святому айцу брат Руфін, яму адкрыў Святы Дух. Таму святы Францішак, пабачыўшы праз Святога Духа,

*Працяг. Пачатак у 3 за 2007 г.*

якая небяспека пагражае гэтаму брату, паслаў да яго брата Масея, і брат Руфін яму сказаў: «Што ў мяне агульнага з братам Францішкам?» Тады брат Масей, поўны Боскага ведання і ведаючы ілжывасць дэмана, сказаў: «О, брат Руфін, не ведаеш ты, што брат Францішак як адзін з анёлаў Божых, які асвятліў мноства душаў у свеце і ад якога мы атрымалі ласку Божую? А цяпер я хачу, каб ты, не зважаючы ні на што, пайшоў да яго, бо я ясна бачу, што цябе падмануў дэман». І пасля гэтых словаў брат Руфін падняўся і пайшоў да святога Францішка.

І, здалёк пабачыўшы, што ён ідзе, святы Францішак пачаў крычаць: «О, няшчасны брат Руфін, каму ты паверыў?» І калі падышоў брат Руфін да яго, то святы Францішак усё расказаў яму па парадку пра спакусу, якую ён атрымаў ад дэмана звонку і ўнутры, паказваючы ясна, што той, хто з'явіўся яму, быў д'яблам, а не Хрыстом, і што ні ў якім разе брат Руфін не павінен быў слухацца яго парадаў. «А калі д'ябал скажа табе: "Ты асуджаны", — сказаў святы Францішак, — то ты яму адкажы: "Адкрый рот, я схаджу туды да ветру". І гэта будзе табе сігнал, што перад табою д'ябал, бо як толькі ён пачуе твой адказ, то адразу ўцячэ. І яшчэ ты можаш пазнаць д'ябла, бо ён закрыў тваё сэрца для ўсялякай дабрыні, бо ў гэтым ён найлепшы: але Хрыстус благаслаўлёны ніколі не закрые сэрца верніка, наадварот, адкрые яго, згодна з тым, што гавораць вусны прарока: "Забяру сэрца каменнае з цела вашага, і дам вам сэрца з плоці"[1]».

Тады брат Руфін, пабачыўшы, што святы Францішак паслядоўна расказаў яму, як адбывалася яго спакушэнне, і ўзрушаны яго словамі, пачаў моцна плакаць і ўсхваляць святога Францішка, і пакорліва прызнаваць сваю віну і тое, што ўтойваў ад яго сваю спакусу. І такім чынам застаўся канчаткова суцешаны і супакоены дзякуючы заўвагам святога айца, і перамяніўся да лепшага. Пасля, нарэшце, сказаў яму святы Францішак: «Ідзі, сынок, і паспавядайся, і не пераставай маліцца так, як прывык, і ведай пэўна, што ад гэтай спакусы будуць табе вялікая карысць і суцяшэнне, і хутка ты іх адчуеш».

Калі брат Руфін вярнуўся ў сваю келлю ў лесе і маліўся там увесь у слязах, дык прыйшоў да яго ізноў вораг у вобразе Хрыста па знешнім выглядзе і сказаў яму: «О, брат Руфін, хіба я не казаў табе, каб ты не верыў сыну П'етра Бэрнардоні і каб ты не абцяжарваў сваё жыццё слязьмі і малітвамі, бо ты асуджаны?» І адразу брат Руфін яму адказаў: «Адкрый рот, а я туды схаджу да ветру». Ад гэтага прыніжаны д'ябал адразу пайшоў прэч, падняўшы такую буру і зрушыўшы камяні на бліжняй гары Субазіё, што камяні, якія падалі ўніз, разляцеліся на вялікую адлегласць; і так моцна яны сутыкаліся адзін з адным, калі каціліся па схіле, што высякалі жудасны агонь па ўсёй даліне, і на вялікі грукат, які яны рабілі, выйшлі паглядзець святы Францішак і паплечнікі, вельмі ўзрушаныя тым, што адбывалася, і пабачылі вялізную груду камянёў. Тады брат Руфін ясна ўбачыў, што той, хто яго падмануў, быў д'ябал. І, вярнуўшыся да святога Францішка, ён ізноў кінуўся на зямлю і прызнаў сваю віну; а святы Францішак ізноў суцешыў яго пяшчотнымі словамі і адправіў яго суцешанага назад у келлю.

І калі брат Руфін пабожна там маліўся, з'явіўся яму благаслаўлёны Хрыстус і сагрэў яму душу Боскай любоўю, і сказаў: «Добра ты зрабіў, сын Мой, што паверыў святому Францішку, бо той, хто засмуціў цябе, быў д'яблам: а Я — Хрыстус, твой Настаўнік, і каб ты быў у гэтым упэўнены, Я табе дам такі знак, што, пакуль ты будзеш жыць, ніколі ні суму, ні тугі не адчуеш». І пасля гэтых словаў Хрыстус знік, пакінуўшы яго ў такой весялосці, пяшчоце духу і ўзвышанасці думкі, што дзень і ноч ён быў захоплены і думаў толькі пра Бога.

І з таго часу ён так умацаваўся ў ласцы і ўпэўненасці ў сваім выратаванні, што ператварыўся ў іншага чалавека, і цэлыя дні і ночы праводзіў бы ў малітве і сузіранні Боскіх рэчаў, калі б іншыя яму не перашкаджалі. Таму і казаў святы Францішак пра яго, што брат Руфін быў у гэтым жыцці кананізаваны Езусам Хрыстом, і што і ў яго адсутнасці і пры ім ён, не сумняваючыся, называў яго святым Руфінам, хоць ён быў яшчэ жывым на зямлі.

Слава Хрысту. Амэн.

*Пераклад з італьянскай мовы*
*Аксаны Данільчык.*
*Працяг будзе.*

[1] Эзх 36, 26.

Тамаш Кэмпійскі

# СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ

## Чатыры кніжкі

*З лацінскай мовы пераклаў д-р Ст. Грынкевіч*

**КНІЖКА ТРЭЦЯЯ**

## АБ УНУТРАНАЙ ПАЦЕСЕ

### Разьдзел XXIII
*Аб чатырох рэчах, якія даюць супакой*

**1.** Цяпер навучу цябе, сыне, шляху супакою ды сапраўднае свабоды.

Зрабі, Пане, што кажаш, а я ахвотна буду слухаць Цябе.

Вучыся, сыне, чужую волю спаўняць хутчэй, чымся сваю.

Выбірай заўсёды мець менш, чымся больш.

Глядзі заўсёды апошняга месца ды спакарайся ўсім.

Прасі заўсёды ды маліся, каб воля Бога цалкам была зьдзейсьнена.

Такі вось чалавек на шляху супакою ды адпачынку.

**2.** Пане, гутарка Твая гэная кароткая шмат мае ў сабе дасканальнасьці.

Мала ў ёй слоў, але шмат думкі і плод багаты.

І калі б я верна яе споўніў, ня так хутка трывога і неспакой мяне агарнулі б.

Бо калі толькі ўбачу сябе неспакойным ды прыдушаным цяжарам — угледжу заўсёды, што прычына таго ў адхіленьні ад Тваёй навукі.

Аднак Ты, што ўсё здолееш ды спагадаеш поступу душы, павяліч сваю ласку, каб патрапіў я зьдзейсьніць словы Твае ды дайсьці да збаўленьня свайго.

*Малітва ад благіх думак*

**3.** *Пане і Божа мой, не адыходзь ад мяне; Божа мой, сьпяшы мне на помач* (Пс 70, 12), бо з'явіліся ў мяне думкі розныя і сполахі вялікія, якія турбуюць надта душу маю.

Як выйсьці з іх бяз шкоды?

Як іх перамагчы?

*Я пайду прад табою і спакару тых, якія пышняцца на гэтым сьвеце. Адчыню дзьверы вязьніцы і пакажу табе схаваныя таёмнасьці* (Іс 45, 2–3).

Зрабі, Пане, паводле слоў Тваіх і няхай уцякаюць перад воблікам Тваім усе благія думкі.

Усенькая надзея і адзіная пацеха мая — прытуліцца да Цябе пры ўсіх турботах, на Цябе спадзявацца, клікаць Цябе з глыбіні сэрца свайго ды ждаць цярпліва пацехі Твае.

*Малітва дзеля асьвячэньня розуму*

**4.** Асьвяці мяне, добры Езу, яснатою сьвятла ўнутранага і выжань з сэрца майго ўсянютаньку цемру.

Спыні шматлічныя расьцярушаньні ды адгані спакусы, якія насядаюць на мяне.

Мужна змагайся за мяне і зваюй ліхія бэстыі, якімі ёсьць пажаданьні, поўныя маны, каб *настаў супакой цераз сілу Тваю* (Пс 121, 7) ды каб хвала Твая зьвінела ў будыніне сьвятой — у чыстым сумленьні.

Загадай ветрам і бурам, *скажы мору: супакойся, а віхрам — ня вейце, і пачнецца цішыня вялікая* (Мк 4, 39).

**5.** *Пашлі сьвятло Тваё і Праўду* (Пс 42, 3), каб сьвяцілі над зямлёю, бо сам я *зямля яловая і няплодная* (Быц 1, 2), пакуль не дасі сьвятла Свайго.

Пашлі ласку з вышыні Тваёй, расою нябеснаю пакрапі сэрца маё, дай вады пабожнасьці, каб зямліцу пакрапіць, каб быў плод найвялікшы і найбагацейшы.

Падымі душу, якая прыцісьнена вагромністым цяжарам грахоў, ды зьвярні мяне да жаданьня ўсяго нябеснага, каб, каштуючы салодкасьці шчасьця нябеснага, нельга і думаць было аб зямным.

Вазьмі мяне ды адцягні ад усіх мінаючых пацехаў, што ідуць ад твораў на зямлі, бо ж ніводная рэч ня здоляе здаволіць цалкам імкненьня майго і пацешыць мяне.

---

*Працяг. Пачатак у 1–4 за 2007–2008 гг. і ў 1–2 за 2009 г.*

Злучы мяне з Сабою стульна любоўю, бо Цябе аднаго хапае таму, хто любіць Цябе, а ўсенькі сьвет без Цябе — нічогасьць адна.

### Разьдзел XXIV
### *Трэба сьцерагчыся цікавага падгляданьня, як жывуць іншыя*

**1.** Ня будзь, сыне, цікавым ды не клапаціся дарэмна.

Што ж табе за дзела да таго ці іншага? *Ты Мяне насьледуй* (Ян 21, 22).

Бо што ж табе з таго, што нехта такі ці іншы, або што так ці інакш робіць ці гаворыць?

Ты ня будзеш адказваць за іншых, а здасі справаздачу за сябе. Чаго ж тады лезьці ў чужыя справы?

Я вось усё ведаю і бачу, што толькі пад сонцам робіцца; і ведаю, што з кожным робіцца, што думае, чаго хоча і ў якім кірунку імкнуцца намеры ягоныя.

Мне такім чынам усё парушыць трэба; ты ж пакінь сябе ў добрым супакоі, а неспакойны няхай робіць, што толькі захоча.

Проціў яго паўстане ўсё, што толькі ён зрабіў ці сказаў, бо абмануць Мяне ніхто ня здоляе.

**2.** Не ганяйся за славай імя ці за тым, каб мець шмат прыяцеляў ці зноў, каб людзі цябе надта любілі.

Усё гэта душу чалавека расьцярушвае ды наводзіць цень вялікую на сэрца.

Ахвотна казаў бы Я табе словы Свае ды выявіў бы таёмнасьці, калі б зважаў ты пільна на адведваньні Мае і дзьверы сэрца свайго адчыняў перада Мною.

Будзь разважным, чуйна трывай у малітвах ды спакарайся ўва ўсім.

### Разьдзел XXV
### *У чым знаходзіцца трывалы супакой сэрца ды сапраўдны поступ у дасканальнасьці*

**1.** Сыне, Я сказаў: *супакой пакідаю вам, супакой Мой даю вам, ня гэтак як сьвет дае — даю яго Я вам* (Ян 14, 27).

Супакою ўсе жадаюць, але ня ўсе глядзяць таго, што патрэбна дзеля сапраўднага супакою.

Супакой Мой з людзьмі ціхога сэрца. Супакой твой у вялікай цярплівасьці.

Калі Мяне паслухаеш ды пойдзеш усьлед за словам Маім — будзеш карыстацца вялікім супакоем.

**2.** Дык што ж рабіць мне?

Заўсёды разважай, што манішся рабіць ці казаць, і ўсе свае імкненьні накіруй гэтак, каб Мне падабацца, а апрача Мяне, каб нічога не хацець і не шукаць.

Не судзі зноў лёгкадумна аб тым, што кажуць і робяць іншыя, ды не чапай таго, што не даручана; а тады можа быць, што мала калі будзеш турбавацца.

Ня чуць жа ніякіх турботаў або ніякае бяды цела ці сэрца — немагчыма на гэтым сьвеце, гэта будзе ў вечным супачынку.

Вось жа ня думай, што знайшоў ты ўжо сапраўдны супакой, калі ня душыць цябе ніякі цяжар, або што ўсё добра, калі ня маеш ніводнага ворага; ня думай так жа, што ты дасканальны, калі ўсё ідзе паводле тваёй ахвоты.

Няхай табе не здаецца, што ты надта вялікі або што маеш асаблівую ласку нават тады, калі надыдзе на цябе вялікая пабожнасьць ды салодкасьць у сэрцы, бо ня ў гэтым спазнаецца, хто сапраўды любіць цноту, ды ня ў гэтым яшчэ дасканальнасьць і поступ чалавека.

**3.** Дык у чым жа, Пане?

У тым, каб з усяго свайго сэрца ахвяраваў ты сябе волі Бога, не чакаючы нічога для сябе ані ў малых, ані ў вялікіх рэчах, ані ў дачаснасьці, ані ў вечнасьці.

Так, каб з аднолькаваю думкаю быў ты ў шчасьці і ў бядзе, каб заўсёды аднолькава Мне дзякаваў, ня гледзячы на абставіны.

Калі будзеш ты гэткім дужым ды трывалым у надзеі, што і без унутранае пацехі падрыхтуеш сваё сэрца да вялікшае яшчэ бяды і калі ня будзеш апраўдвацца, што быццам табе ня трэба гэтулькі цярпець, а будзеш славіць Маю справядлівасьць ды сьвятасьць — тады йдзеш ты сапраўдным ды простым шляхам і бяссумніўнаю будзе надзея, што зноў убачыш воблік Мой у радасьці.

Калі б дайшоў ты да поўнае пагарды сябе — ведай, што тады меў бы так шмат супакою, колькі гэта магчыма для вандроўніка на гэтым сьвеце.

### Разьдзел XXVI
### *Аб дасканальнай свабодзе духа, да якой вядзе хутчэй малітва, чымся чытаньне*

**1.** Пане! Праца дасканальнага мужа ў тым, каб ніколі не адхіляцца душою ад рэчаў нябесных і каб мінаць усе клопаты ды турботы, зусім ня гледзячы на іх, і гэта не дзеля нядбайласьці, а дзеля таго, што здабыў ён свабоду духа дасканальную, дзякуючы якой ня хінецца грэшным каханьнем да ніякага стварэньня.

**2.** Малю Цябе, найміласэрнейшы Божа мой, ня дай мне занадта заняцца справамі гэтага жыцьця, каб не заблытацца ў іх; абарані мяне ад шмат якіх нахілаў цела, каб не апынуўся я ў пастцы роскашаў, ад усякіх труднасьцяў духовых высвабадзі мяне, каб ня ўпаў я, зломаны іхным цяжарам. Барані мяне не толькі ад тых рэчаў, за якімі ганяецца марната сьвету, але ад тых нават труднасьцяў, якія душу слугі Твайго, як агульны праклён сьмяротнасьці, абцяжваюць надта і ня пушчаюць, каб яна, калі толькі зажадае, да Цябе ляцела.

**3.** О Божа мой, салодкасьць невымоўная, зрабі мне горкімі ўсе радасьці цела, якія адцягваюць мяне ад любові да рэчаў вечных, а маняць нягодна к сабе, ставячы мне прад вочы нейкае быццам шчасьце дачаснае.

Няхай не пераможа мяне, о Божа мой, няхай не пераможа кроў і цела, няхай не абманвае мяне сьвет ды кароткая слава ягоная; няхай ня зводзіць мяне злы дух і хітрасьць ягоная!

Дай мне сілу змагацца з злом, дай цярплівасьць усё перанесьці, дай сталасьць вытрываць аж да канца.

Замест усіх радасьцяў сьвету дай мне спазнаць наймілейшую салодкасьць Духа Твайго, а замест цялеснага каханьня — дай мне любоў да Імя Твайго.

**4.** Вось ежа, піцьцё, вопратка ды ўсё іншае неабходнае, каб падтрымаць існаваньне цела — усё гэта ёсьць цяжарам горача пабожнаму чалавеку. Дык дай мне стрымліваць, каб, карыстаючыся імі, не заблытаўся занадта, іх пажадаючы.

Адкінуць усё гэта немагчыма, бо прыроду трэба падтрымліваць, але імкнуцца да рэчаў дачасных больш, як трэба, або жадаць таго, што дае толькі прыемнасьць, забараняе закон сьвяты: бо інакш цела пачынае бунтавацца процiў духа.

Няхай жа ў гэтым усім вядзе мяне рука Твая ды вучыць, каб здолеў у меры трымацца.

### Разьдзел XXVII
### *Любоў самога сябе найбольш спыньвае ў імкненьні да найвышэйшага дабра*

**1.** Трэба, сыне, усё аддаць за ўсё і ніякае часткі не астаўляць для сябе.

Ведай, што любоў самога сябе шмат больш шкодзіць, чымся ўсё іншае.

Кожная рэч менш ці больш цягне да сябе паводле таго, колькі яе любіш і колькі маеш у яе бок нахілу.

Калі б любоў твая была чыстай, простай і як трэба ўпарадкаванай — ніводная рэч цябе б не палоніла.

Не пажадай таго, што нельга табе мець; ня май таго, што цябе б спыньвала, што адбірала б унутраную свабоду.

Дзіўна, што не аддаешся ты Мне сам, з глыбіны свайго сэрца, з усім, чаго толькі захацець ты мог бы, ці з тым, чым ужо валодаеш.

**2.** Нашто мучаешся марным сумам? Чаму сам робіш сабе цяжкія турботы і труднасьці?

Заахвоцься толькі да таго, што міла Мне, а не ўпадзеш у ніякую шкоду.

Калі шукаеш таго ці сяго, а хацеў бы тутака і там дзеля сваёй выгоды або дзеля таго, што табе так больш хочацца — ніколі не спазнаеш супакою ды не схаваешся ад турботаў; бо ж усюды найдзецца нейкая нястача і праціўнасьць.

**3.** І таму не якая-небудзь рэч, якую ты дастаў сабе, і не павялічаньне сваёй маёмасьці карысным табе будзе, а хутчэй пагарда да ўсяго гэтага і выкараненьне яго з сэрца.

Гэта самае можна казаць ня толькі аб багацьці ды аб золаце; стасуецца гэта і да пажаданьня гонараў ды марнае славы, бо ўсё гэта мінае з гэтым сьветам.

Мала сьцеражэ месца, калі не хапае духа пабожнасьці; ды ня доўга патрывае той супакой, якога шукаеш звонках, калі ня будзе трывалых падвалінаў у сэрцы, гэта знача, калі не спадзяецца яно на Мяне: сам перамяніцца здолееш, але не папravіцца.

Бо пры кожным спакушэньні зноў сустрэнеш тое, ад чаго ўцякаў, а мо на'т яшчэ больш.

### *Малітва аб чыстым сэрцы і нябеснай мудрасьці*

**4.** Дай мне дужасьць, о Пане, праз ласку Духа Сьвятога.

Дай мне сілу ўзмоцніцца ў нутры маім, ачысьці сэрца маё ад усялякае непатрэбнае думкі і турботы, ды каб ня зводзілі мяне пажаданьні рэчаў благіх ці цэнных, але каб я на ўсё заглядаўся як на мінаючае, з якім і я сам міну хутка.

Бо ж нічога трывалага пад сонцам, а паўсюды толькі марнасьць і турботы духа. О, які разумны той, хто гэтак думае!

**5.** Дай мне, Божа, нябесную мудрасьць, каб навучыўся я хутчэй за ўсё Цябе шукаць ды знаходзіць; вышэй за ўсё спазнаць ды любіць, а ўсё іншае, каб здолеў я сьцяміць так, як яно ёсьць паводле парадку мудрасьці Тваёй.

Дай, каб з агляднасьцю адхіляўся я ад тых, што хваляць мяне зашмат, ды каб цярпліва зносіў зьдзек сваіх ворагаў.

Бо ж гэта вялікая мудрасьць — не зварухнуцца павевам слоў, ды не настаўляць вушэй на салодкія нагаворы: гэткім чынам можна бясьпечнаісьці распачатым шляхам.

### Разьдзел XXVIII
### *Процiў тых, якія абмаўляюць*

**1.** Ня трывожся, сыне, калі хто аб табе блага думае або гаворыць табе тое, чаго ты неахвотна слухаеш.

Табе яшчэ горш аб сабе трэба думаць і верыць, што няма нікога так недалужнага, як ты.

Калі жывеш унутраным жыцьцём, мала будзеш звяртаць увагі на пустыя і хутка мінаючыя словы.

Не малая гэта справа змоўкнуць у гадзіну благую ды сэрцам да Мяне зьвярнуцца, не праймаючыся людзкімі суджэньнямі.

**2.** Няхай не хаваецца твой супакой у вуснах лю-

дзей, бо ці добра ці дрэнна яны аб табе судзяць, ты ня будзеш іншым чалавекам. Дзе ж сапраўдны супакой і сапраўдная слава? Ці ж не ў Мяне?

А хто не імкнецца спадабацца людзям ды не палохаецца згубіць іхную ласку, той будзе карыстацца вялікім супакоем.

З грэшнага каханьня ды пустога сполаху з'яўляецца несупакой і расьцярушаньне духа.

Разьдзел XXIX

*Як у хвіліны турботаў клікаць трэба Бога ды Яго благаславіць*

**1.** Няхай Імя Тваё, Божа, будзе бласлаўлёным навекі за тое, што зволіў Ты дапусьціць на мяне гэтую спакусу і турботу.

Ня здолею яе памінуць і ўцячы, дык неабходна мне зьвярнуцца к Табе, каб Ты памог ды зьвярнуў усё на дабро.

Пане! Вось цяпер я ў турботах і цяжка майму сэрцу, і вельмі цярплю я ад гэтага.

*І што ж скажу цяпер я, Айцец наймілейшы? Агарнуў мяне зьдзек і немач. Высвабадзі мяне ад гэтае часіны* (Ян 12, 27).

Але таму прыйшла гэтая няшчасная часіна, каб у ва ўсёй красе сваёй зазіхацела дабрата Твая, калі мяне так спакорнага падняць ды асвабадзіць захочаш.

Хай Табе спадабаецца асвабадзіць мяне, бо што ж я бедны пачну і дзе апынуся без Цябе?

Дай цярплівасьць, Пане, яшчэ на гэты раз; паможы мне, о Божа мой, і не спалохаюся, калі на'т і вельмі цяжка мне будзе.

**2.** А цяпер, сярод усяго гэтага, што скажу я? Пане, няхай будзе воля Твая. Я сапраўды заслужыў на турботы і на ўціск.

І таму трэба напэўна, каб я іх стрываў, ды каб толькі цярпліва, пакуль бура ня міне ды зноў ня будзе лепш!

Бо можа ўсемагутная рука Твая і гэтую спакусу адхіліць ад мяне ды паменшыць сілу яе, каб ня ўпаў я пад яе цяжарам; бо ж часта гэтак і раней мне Ты рабіў, о Божа мой, міласэрнасьць мая!

І адмена гэта чым труднейшая для мяне, тым лягчэйшая яна для Цябе, бо *яна ёсьць чынам Правіцы Найвышэйшага* (Пс 76, 11).

Разьдзел XXX

*Трэба прасіць помачы ў Бога і ждаць з вераю павароту ласкі*

**1.** *Сыне, Я Бог, што падтрымлівае ў дні турботаў* (Нвм 1, 7).

Прыходзь да Мяне, калі табе будзе нядобра.

Найбольш аддаляе нябескую пацеху тое, што занадта позна зварочваешся да малітвы.

Бо пярвей, чым зачнеш прасіць Мяне, шукаеш розных пацехі і палёгкі ў рэчах вонкавых.

Дзеля таго ўсё гэта мала табе памагае, пакуль не пераканаешся, што *Я ёсьць той, каторы выбаўляе маючых ува Мне надзею* (Пс 16, 7), і што апрача Мяне няма ані належнай помачы, ані карыснай рады, ані трывалых лекаў.

Але пасьля буры, прышоўшы да прытомнасьці, узмагай свае сілы ў яснасьці майго Міласэрдзя, бо блізка Я знаходжуся, каб усё ўзноў направіць ня толькі так, як было, але яшчэ лепш і шчадрэй.

**2.** Ці ж для Мяне ёсьць што труднае, або ці ж Я такі, як той, што прыракае і не спаўняе?

Дзе ж вера твая? Будзь сталым і вытрывалым.

Будзь цярплівым і мужным; пацеха прыйдзе ў сваім часе.

Чакай Мяне, чакай: *прыйду і аздараўлю цябе* (Мц 8, 7).

Тое, што цябе так мучыць, ёсьць толькі спакусай, а тое, што цябе так трывожыць, ёсьць толькі пустым страхам.

Нашто маеш турбавацца тым, што трапіцца з табою ў будучыні? Хіба на тое, каб павялічваць сумаваньні свае за сумаваньнямі. *На кожны дзень хопіць бяды свае* (Мц 6, 34).

Марна ды бескарысна турбавацца ці весяліцца з таго, што маніцца трапіцца ў будучыні, а магчыма надта, што і ніколі ня трапіцца.

**3.** Такімі ўявамі жыць — прыкмета гэта людзкой слабасьці, а такая лёгкасьць на падшэпты ворага сьведчыць аб нядужасьці духа.

Бо ж не глядзіць вораг, ці праўдзівымі ці фальшывымі рэчамі абмане цябе: ці каханьнем рэчаў дачасных, ці спалохам будучыні паваліць чалавека.

*Няхай ня турбуецца сэрца тваё, ані палохаецца* (Ян 14, 1).

Вер Мне ды на міласэрнасьць Маю спадзявайся.

Калі ты думаеш, што Я надта далёка, Я часта зусім блізка цябе.

Калі ты думаеш, што ўсё ўжо прапала — тады прыходзіць хвіліна большае заслугі ды нагароды.

Ня ўсё яшчэ прапала, калі абставіны складаюцца неяк супраць цябе.

Ня трэба судзіць паводле таго, што цяпер табе здаецца, ды палохацца кожнаю бядою гэтак, быццам уся надзея палёгкі прапала.

**4.** Ня думай, што пакінуў Я цябе зусім, калі пашлю табе якую турботу або забяру жаданую пацеху — бо толькі гэткі шлях вядзе да неба.

І бяз сумніву лепш табе і ўсім слугам Маім, калі выпрабую вас супраціўнасьцямі, чымся калі б усё было паводле думак вашых.

Я ведаю таёмныя думкі твае і ведаю, што надта карысна дзеля збаўленьня твайго, каб быў ты часта бяз унутранай радасьці, а гэта таму, каб не зашмат

ты пышыўся пастунам сваім у дабры, ды каб сам ты сябе ня лічыў такім, якім ты ня ёсьць.

Што Я даў — магу адабраць і ўзноў вярнуць, калі гэтак зажадаю.

**5.** Калі што даю — Маё яно, калі адбіраю — твайго ня бяру: бо ж Маё ўсё дабро і ўсякі дар дасканальны.

Калі пашлю на цябе біду або нейкую супраціўнасьць — не наракай ды ня сумуй у сэрцы сваім: Я ж хутка магу даць палёгку табе, а ўсялякае сумаваньне ў вясельле перайнакшыцца.

І сапраўды, справядлівы Я і годны хвалы, калі гэтак раблю.

**6.** Калі сапраўды ты разумны, ды ўсё размяркоўваеш добра, ніколі табе ня трэба сумаваць маладушна ў супраціўнасьцях, а хутчэй цешыцца ды дзякаваць за іх.

Ды на'т яшчэ няхай будзе табе вясельлем, што *пасылаю на цябе болі, не мінаю цябе* (Ёў 6, 10).

*Як Айцец узлюбіў Мяне, гэтак і вас Я ўзлюбіў* (Ян 15, 9), сказаў Я ўлюблёным вучням сваім, якіх сапраўды паслаў Я не на радасьці дачасныя, але на змаганьне вялікае; не на гонары, але на зьдзек і пагарду, не на гультайства, але на бязупынную працу, не на адпачынак, але на тое, каб прыносілі плод вялікі ў цярплівасьці. Памятай, Мой сыне, на гэтыя словы!

## Разьдзел XXXI
### *Усенькія стварэньні кінуць трэба, калі хочам Тварца знайсьці*

**1.** Надта патрэбная мне яшчэ большая ласка, каб здолеў я туды дайсьці, дзе б ніхто, ніякае стварэньне мяне не спыніла.

Бо дакуль мяне яшчэ штось трымае — немагчыма вольна да Цябе ўзносіцца.

Вольна хацеў да Цябе ўзносіцца той, хто казаў: *хто ж дасьць мне крыльляў, як у галубкі, каб паляцеў я і адпачыў?* (Пс 54, 7).

Што ж спакайнейшае, як вока чалавека простага сэрца? І хто ж свабаднейшы за таго, хто нічога ня хоча на зямлі?

Трэба, значыць, падняцца вышэй за ўсе стварэньні, вырачыся зусім самога сябе, узняцца вышэй за розум свой ды ўбачыць, што Ты Тварэц усяго і нічога няма падобнага да Цябе.

І пакуль хто ня вырачыцца ўсялякага стварэньня — ня здоляе свабодна імкнуцца да Бога.

І таму гэтак мала богадумаючых людзей, бо мала такіх, што патрапяць вырачыся ўсяго хуткамінаючага і ўсіх стварэньняў.

2. Дзеля гэтага вялікае трэба ласкі, якая душу падхапіла б ды падняла б вышэй за яе самую.

Калі ж чалавек не падымецца душой і не асвабодзіцца ад усянютанькіх стварэньняў ды ня злучыцца з Богам — чаго б гэты чалавек ня ведаў, чаго б ён ня меў — усё гэта мала варта.

Доўга будзе маленькім і нізка будзе поўзаць па зямлі, хто думае, што можа быць нешта вялікае, апроч адзінага, вялікага вечнага дабра.

Бо ўсё, што толькі ня ёсьць Богам — нішто і за нішто ўважаць яго трэба.

Вялікая розніца паміж мудрасьцю мужа пабожнага, асьвечанага сьвятлом духовым, і навукай таго, хто з кніжкі толькі і з уласнай працы чэрпае веду сваю.

3. Шмат вышэйшая і добрароднейшая тая навука, што з неба, з натхненьня Бога плыве, чымся тая, што працаю розуму здабываецца, без сьвятла Божага.

Шмат такіх, якія жадаюць заглыбляцца ў Богу, але яны ня хочуць прыкладацца да таго, што вядзе да гэткага дару.

Шмат перашкаджае нам тое, што спыньваемся на знаках і вонкавых рэчах, а мала маем у сабе духа дасканалай пакуты і ўмярцьвеньня.

Ня ведаю, што гэта, які дух вядзе нас і куды мы імкнёмся, мы, што завёмся людзьмі духовымі, а якія столькі працы ды ўвагі зьвяртаем на хуткамінаючае ды марнае і так мала калі з развагай духа разважаем аб унутраных патрэбах нашых.

4. Ды, на жаль, ледзь крыху зьбяромся з думкай, ужо ўзноў расьцярушваемся і не разважваем, як трэба, спраў нашых.

Не глядзім, куды імкнуцца нахілы нашыя, ды ня плачам, што ўсё ў нас нячыстае.

Сапраўды, *сапсавала ўсялякае цела шлях свой* (Быц 6, 12) і таму настаў патоп вялікі.

Дык калі надта сапсаванае ўнутранае нашае чуцьцё, неабходна з гэтага сьледуе сапсаванасьць у чынах, якія сьведчаць аб унутранай дужасьці ці немачы нашай.

З чыстага сэрца родзіцца плод добрага жыцьця.

5. Пытаемся і ўважаем, колькі хто зрабіў, а не зьвяртаем увагі, дзеля якое цноты, дзеля якое думкі ён рабіў што.

Цікавімся, ці хто дужы, багаты, прыгожы, кемкі, або ці добры пісьменьнік, добры сьпявак, добры працаўнік, а аб тым, ці хто ўбогі духам, пакорны, цярплівы, ці пабожны і ўнутраны — мала пытаем.

Звычайны чалавек глядзіць на вонкавасьць, а чалавек, напоўнены ласкай, да спраў унутраных зварочваецца.

Першы часта абманваецца, а другі на Бога надзеецца, каб не памыліцца.

*Працяг будзе.*



Цяжка ўявіць у наш час, каб хтосьці пакланяўся божышчам у зялёным гаі, раскладваў ахвярныя вогнішчы ды прыносіў свае ахвяры нямым ідалам. Калі ж празаікі і паэты пішуць, напрыклад, пра багіняў любові Афрадзіту, Венеру альбо пра Пегаса, які іх нібыта натхняе, то наўрад ці хто ўспрымае гэта літаральна. І ўсё ж нярэдка можна пачуць пра сучаснае ідалапаклонства. Якое яно? Нявінныя забаўкі, вобразы з далёкай мінуўшчыны альбо штосьці больш сур'ёзнае, чым жыве сёння чалавек? Наколькі яно небяспечнае ў наш час? І ці ёсць яно ўвогуле? Пра ўсё гэта пісьменніца **Ірына Жарнасек** гутарыць з айцом марыянінам **Андрэем Сідаровічам.**

# ІДАЛАПАКЛОНСТВА ЯШЧЭ МАГЧЫМА?

*— Айцец Андрэй! У часе свайго побыту ў Францыі Папа Рымскі Бэнэдыкт XVI асцярог французаў ад сучасных формаў ідалапаклонства. Ці азначае гэта, што сучасныя вернікі схільныя да ахвярапрынашэння розным бажкам ды боствам?*

— У старажытнасці было прасцей убачыць чалавека, які пакланяўся ідалам, — гэта быў кожны, хто не верыў у Бога Адкрыцця габрэяў. Сёння ідалы іншыя — яны не так яўна бачныя, але таксама распазнавальныя: кар'ера, грошы, здароўе, самарэалізацыя. Але найбольш небяспечныя не гэтыя названыя з'явы, бо яны ўсё ж заўважальныя. Страшны ідал, якога я асабіста баюся ў жыцці верніка, — гэта стварэнне вобразу Бога, непадобнага да біблейскага. У першай запаведзі сказана пра тое, каб чалавек не ствараў для сябе ніякіх куміраў. Гэты загад мы можам разумець не толькі даслоўна, але таксама і ў духоўным плане, бо вельмі важна, які вобраз Бога жыве ў нашым сэрцы. Калі Бог для цябе суддзя альбо паліцыянт, які адно і прагне злавіць цябе на нядобрым учынку, на граху, то як можна шчыра перад такім богам пакаяцца? Такі бог не любіць, ён толькі карае. Такога бога няма ў Бібліі і ў рэчаіснасці. Гэта ідал, боства.

*— За сваю чатырохгадовую святарскую практыку Вы часта сустракалі гэткі скажоны вобраз Бога?*

— На жаль, даволі часта. Найчасцей бачу яго ў часе споведзі, калі незразумела, перад якім богам мы спавядаемся: ці перад Езусам, які нас любіць, ці перад тым, хто адно чакае нас з бізуном, каб расправіцца з намі. Часта бывае, што вернікі спавядаюцца з аднаго і таго ж граху, бо не здолелі паверыць у Бога, які іх любіць і які ўжо прабачыў ім учынены грэх, як той бацька з Евангелля, што сустракае і абдымае свайго марнатраўнага сына з любоўю.

*— Цікава, што Святы Айцец, удакладняючы сваю думку ў Францыі, залічыў да формаў ідалапаклонства праслаўленне неіснуючай ужо мінуўшчыны, а таксама утапічныя мары пра пабудову ўласнымі сіламі раю на зямлі.*

— Чалавек неаднаразова пачынаў пакланяцца самому сабе, марыў пабудаваць сваё валадарства справядлівасці, роўнасці і братэрства. Французская рэвалюцыя ўчыніла з найпрыгажэйшых катэдраў свету Нотэр Дам стайню! Так яна сімвалічна выказала пагарду да Бога ды аб-

Айцец **Андрэй Сідаровіч MIC** (марыянін) нарадзіўся 23.11.1978г. у Вільні. Закончыў педагагічны каледж у Барысаве, Вышэйшую духоўную семінарыю айцоў марыянаў у Любліне (Польшча). Магістар багаслоўя, пробашч парафіі Маці Божай Фацімскай у Жодзіне.

высціла пянаванне чалавека. І як вынік — рэкі крыві, сацыяльная дыскрымінацыя, а валадарства справядлівасці, як ведаем з гісторыі, французы не пабудавалі. Камуністычны рай Савецкага Саюза будаваўся на чырвоным тэроры, насілле было асноўным метадам будавання новага «справядлівага» свету. Вынік яго мы, хрысціяне, адчуваем да сённяшняга дня. Чалавек без Бога — найчасцей пачвара. Калі ён адмаўляецца быць вобразам і падабенствам Бога, то амаль заўсёды становіцца падобным на дэмана. Няма раю без Бога!

*— А чым увогуле можна растлумачыць схільнасць чалавека ствараць і любіць ідалаў?*

— Не трэба мець глыбокіх багаслоўскіх ведаў, каб убачыць, што ўвесь Стары Запавет напоўнены гэтаю праблемаю. Цары выбранага народу адрозніваліся ў асноўным тым, былі яны верныя Богу Сабаофу альбо здраджвалі Яму — будавалі вежы, стваралі статуі ды прыносілі ім ахвяры. Праблема ідалапаклонства — гэта праблема асабістага пазнання Бога. Чалавек найчасцей схіляецца да пакланення баждам тады, калі не ведае Бога Адзінага, не мае з ім асабістых адносінаў. Менавіта тады чалавек з лёгкасцю паддаецца модзе на вераванне. Так, адступніцкія цары Ізраэля не стваралі ўласнага ідала, яны часта пакланяліся ўжо існуючым у суседніх народах. Гэта было прадыктавана, на маю думку, адсутнасцю маральных патрабаванняў. Бог Ізраэля быў Богам дысцыпліны, парадку, перад ім трэба было скарацца, а за непаслухмянасць трэба было трымаць адказ. Ідалы ж маўчалі, яны не патрабавалі высілкаў ад тых, хто ім пакланяўся. Але ідалапаклонства заўсёды нясе ў сабе небяспеку: адыходзячы ад Бога жывога, ты ўжо не ведаеш, якім павінна быць правільнае пакланенне. І як вынік: ты не маеш адносінаў з Богам, не ведаеш, як пакланяцца Яму, і таму робіш гэта па-свойму. Напрыклад, у часы Абрагама і прарокаў людзі ў ахвяру для ідалаў прыносілі сваіх дзяцей — спальвалі, замуроўвалі ў падмуркі крэпасці альбо горада.

*— Цяпер, хіба што, няма бостваў, прынамсі ў еўрапейскай культуры, перад якімі людзі б'юць паклоны, як гэта было ў часы язычніцтва. Няма гэтак званых свяшчэнных гаёў з іх стодамі, куды людзі збіраліся на ахвярапрынашэнне, няма капішчаў. Але затое на ўсю моц віруе танец вакол залатога цяльца. І па вялікім рахунку, якая розніца, як выглядае гэты цялец: зялёны даляр, шарачковы рубель альбо нядаўна народжанае еўра? Як не паддацца на спакусу гэтых зваблівых «скокаў»?*

— Тэма багацця, дабрабыту — адно з найбольш цікавых пытанняў Бібліі. І тут навучанне Старога і Новага Запаветаў адрозніваюцца. Езус, калі можна так сказаць, рэабілітуе бедных. Ён адмяняе выснову, што беднасць — вынік віны перад Богам, знак таго, што Бог цябе не благаслаўляе. З іншага боку, Езус нідзе не сцвярджае, што быць багатым дрэнна. Ён сам наведвае багатых людзей, напрыклад Закхея, які ў выніку тае сустрэчы публічна прызнае, што ягонае стаўленне да ўзбагачэння было памылковым, прызнае, што спосаб узбагачэння, які супярэчыў запаведзі любові да бліжняга, быў беззаконнем у вачах Божых. Але ў навучанні Хрыста ёсць перасцярога: багатаму цяжка ўвайсці ў Валадарства Божае. Чаму? Таму што багацце — гэта адначасова вялікая адказнасць за тое, што маеш, а дакладней, за тое, што ты атрымаў ад Бога. Бо, магчыма, Бог хоча камусьці дапамагчы менавіта праз цябе, праз твой дабрабыт.

*— Неяк давялося пачуць ад аднаго святара, што нават клопат пра ўласнае здароўе таксама можа стаць небяспечным бажком. І гэта пры нашым забруджаным асяроддзі, пры запоўненых шпіталях, пры ўсё новых ды новых хваробах, што звальваюцца на чалавека? Зрэшты, Вы, айцец Андрэй, на пачатку нашай гутаркі таксама назвалі здароўе ў пераліку бажкоў.*

— Вядома, клопат пра ўласнае здароўе — абавязак хрысціяніна, частка добра зразуметага задання «не забівай». Пэўную частку ўвагі чалавек павінен прысвячаць сваёй працы, адпачынку, харчаванню. Чалавек проста абавязаны дбаць пра сваё здароўе і здароўе ягоных блізкіх. Нядаўна я сустрэў маладога мужчыну 30—35 гадоў, які амаль не выходзіць са шпіталяў па вельмі празаічнай прычыне — у маладосці, незалежна ад надвор'я, ён ніколі не надзяваў шапкі. Цяпер ён прызнае, што расплочваецца за сваю ўласную нядбайнасць. Вядома, можна заўсёды сказаць: «Я сам сабе гаспадар!» Але гэта будзе чыстай вады эгаізм, і найчасцей праз яго пакутуюць нашы блізкія. У таго чалавека, які калісьці не любіў насіць шапкі, ёсць сям'я, жонка, дзіця, а ён цяпер непрацаздольны, можа застацца калекам. Таму трэба пра сябе дбаць, але без крайнасцяў, вядома, якія заўсёды небяспечныя.

*— Той святар, які гаварыў пра бажка здароўя, менавіта і меў на ўвазе крайнасць. Згадзіцеся, што гэтай крайнасцю цяпер поўніцца тэлебачанне з любімым шоу нашых жанчын*

*«Малахаў+», якое заканчваецца зазвычай перасцярогамі пра тое, чаго трэба чакаць ад заўтрашніх месяцавых сутак, што можна заўтра рабіць, а чаго не варта. Шапікі з масай газет ды часопісаў народнай медыцыны, у кніжных крамах мноства паліцаў з кнігамі, у якіх змешчаны і выявы абярэгаў, і парады, як засцерагчы сябе ад благога вока альбо як пачысціць свой арганізм, часта самым непраўдападобным спосабам. Дзе толькі не сустрэнеш людзей, што прапануюць табе біялагічна актыўныя дабаўкі самых розных кампаній, якія вядома ж, павінны вырашыць праблему твайго здароўя найлепшым чынам! Аднойчы чула ў шматлюднай аўдыторыі пра тое, як навесці псоту на ворага: «Высушыце жабу...» Усё гэта — пад шыльдай «Клопат аб здароўі». Я ўжо не кажу пра розныя сумніўныя практыкі нейкіх там мудрацоў. Усё пад лозунгам — абы дапамагло! Часам такое ўражанне, што людзі не збіраюцца паміраць.*

— З хваробай заўсёды звязаны пакуты — звычайныя, фізічныя, часта такія балючыя, што духоўна надломваюць чалавека. На багаслоўскіх занятках у семінарыі я заўсёды супраціўляўся ўспрыняццю хваробаў і пакутаў чалавека як спосабу выхаваўчай дзейнасці Бога. Так, для некаторых людзей яны можа і з'яўляюцца адзіным шляхам да збаўлення, бо інакш гэтыя людзі не згаджаюцца звярнуцца да Бога, але з Бібліі мы ведаем, што цярпенне прыйшло ў свет, у жыццё чалавека праз грэх і з'яўляецца пракляццем граху. Калі аднойчы ў вядомага польскага філосафа і багаслова запыталі, ці робіць цярпенне чалавека больш шляхетным, ён, прыкаваны смяротнай хваробай да ложка, напісаў на кавалку паперы: «Не робіць». Але, з іншага боку, мы часта бачым спробы чалавека любым коштам падоўжыць сабе жыццё. Гэта — вынік адсутнасці надзеі на вечнасць, несмяротнасць. Калі ж казаць пра парады, як гэта робяць спадар Малахаў і яго каманда альбо іншыя сучасныя дарадцы, то я, напрыклад, лічу, што метады «амаладжэння», «ачышчэння» і г.д. вельмі часта пярэчаць самі сабе. Таму, нават калі чалавек і не збіраецца паміраць, адцягвае гэты момант з усіх сілаў, застаецца праблема старасці, і тут, думаю, ніхто не ўяўляе сябе ў 120—130-гадовым узросце. Праблема ж магіі — гэта асобная тэма і размова.

*— Вядомы выраз «раўнівая Божая любоў» можа не толькі радаваць чалавека, як радуе яго вестка пра чыюсьці вялікую любоў да яго, але адначасова і пужаць гэтай рэўнасцю, бо ён азначае таксама, што Бог не пацерпіць ніякага фальшу...*

— Адна з малітваў Імшалу Каталіцкага Касцёла гаворыць, што мы самі нічога не можам дадаць Богу праз малітвы і Яго праслаўленне. У часе малітвы мы адно атрымоўваем, а мерай, якой Бог благаслаўляе нас, з'яўляецца якасць нашых з Ім адносінаў. Гэта мы павінны ў першую чаргу быць зацікаўленыя стаць перад Богам у праўдзе пра сябе, сваё жыццё, сваю веру. Бог жа ва ўсёй Бібліі паўтарае нам, як рэфрэн: ды не грэх твой і слабасць твая ненавісныя Мне, а твая абыякавасць. Гэта значыць, калі ты называеш сваё жыццё сумленным, а сам жывеш у беззаконні, калі ў дачыненні да бліжняга не робіш такіх учынкаў, якіх чакаеш ад яго, Бог сапраўды не пацерпіць фальшу. Але Ён застаецца верны сваёй міласэрнасці і таму заўсёды чакае навяртання кожнага з нас.

*— Спакуса ведаць сваю будучыню ў самыя розныя часы ўводзіла людзей у грэх. Альбо спроба вытлумачыць свае паводзіны, учынкі іншага чалавека, маўляў, што ж тут зробіш, калі ён ці яна «стралец», «скарпіён» альбо «дзева»! Адзін святар, ходзячы па Калядзе, убачыў у кватэры сваіх парафіянаў астралагічны каляндар на сцяне, зрабіў заўвагу і пачуў у адказ: «Дык жа гэта проста так! Гэта ж несур'ёзна!» Наколькі яны нявінныя, такія вось рэчы?*

— Сучаснае ідалапаклонства замаскіраванае, схаванае пад такія вось адгаворкі. Але гэта таксама і нашая павярхоўнасць у веры. Многія з нас налаўчыліся разбірацца ў гараскопах, характарах людзей, якія нарадзіліся пад рознымі знакамі задыяка, а вось веданне слова Божага часта бывае мінімальным. І, як вынік, — веданне Бога і пазнанне Ягонай волі прымітыўнае.

*— Напэўна ж, словы «вера» і «вернасць» не выпадкова маюць адзін корань. Ідалапаклонства — гэта здрада Богу. Што можа дапамагчы сучаснаму верніку заставацца верным Яму?*

— Божае слова. Біблія. Больш аўтарытэтных крыніцаў не ведаю. Чалавек любіць нагрувашчваць праблемы, а па сутнасці ўсё проста: Бог чакае ад нас пазнання таго, што Ён сказаў нам у сваім Слове. Бяры, чалавеча, чытай, думай над прачытаным. Ды яшчэ не грашы, а, зграшыўшы, знайдзі ў сабе мужнасць для пакаяння. Усё, як бачым, проста.

*— Дзякую, айцец Андрэй, за гутарку.*

Пётра Рудкоўскі

# Любоў і каханне паміж спірытуалізмам і геданізмам

*Няхай вусны яго мяне пацалуюць!*
*Бо лепшыя за віно твае ласкі.*
*Ад водару мазяў тваіх імя тваё — як разьлітае міра;*
*таму і дзяўчаты цябе кахаюць.*
*Надзь мяне! Мы пабяжым за табою;*
*— цар мяне ўвёў у харомы свае!*
*Радавацца і весяліцца будзем з табою;*
*— больш за віно будзем славіць пяшчоты;*
*цябе годнасна любяць!*

Пачатак Найвышэйшай песні Саламонавай.
(*Пераклад Васіля Сёмухі.*)

## Два экстрэмізмы

Вільгельм Райх, вучань і супрацоўнік Зыгмунда Фрэйда, выступіў у 40-я гады з тэзай, што прычынай амаль усіх цяжкіх хваробаў, такіх, як рак, эпілепсія ці склероз, ёсць блакаванне сексуальнай энергіі. «Адкрыццё» Райха наклалася на ўжо існуючы міф пра выспу Самоа, створаны амерыканскай даследніцай Маргарэт Мід. Яна сцвярджала, што жыхары Самоа абсалютна вольныя ад усялякіх сексуальных табу: яны часта змяняюць партнёраў і зусім не ведаюць, што такое рэўнасць ці вернасць, а гэтае «няведанне» чыніць іх намнога больш шчаслівымі за цывілізаваных еўрапейцаў, зняволеных культурнымі забаронамі. Ну а практычныя высновы з гэтых «адкрыццяў» зрабіў Альфрэд Кінсэй, заклікаючы прыняць за норму не толькі дашлюбны й пазашлюбны секс, але таксама педафілію, інцэст, заафілію, некрафілію, фетышызм і іншае.

Сексуальная рэвалюцыя, ідэйныя асновы якой былі закладзены названымі вышэй Райхам, Мід і Кінсэем, выбухнула як пратэст супраць пурытанскай этыкі, схільнай абмяжоўваць сексуальную сферу чалавека пракрэацыйнымі функцыямі. Пурытанізм як этыка і культура знаходзіўся ў цеснай повязі з постманіхейскімі канцэпцыямі чалавечага цела, якія, хоць і не былі ніколі афіцыйна прызнанымі Касцёлам, усё ж мелі нямала прыхільнікаў сярод хрысціянскіх аскетаў і маралістаў. Маніхейцы супрацьпастаўлялі дух і матэрыю, душу і цела, зямлю і неба як дзве сутнасна варожыя сілы, дзе дух меў боскае паходжанне, а цела — д'яблава.

Такім чынам, маем, з аднаго боку, дэманізацыю эратычнае сферы чалавека, з другога боку — абагаўленне гэтае сферы і ператварэнне яе ў адзіную крыніцу шчасця і самаспаўнення. Як першая тэндэнцыя, так і другая былі версіямі антрапалагічнага рэдукцыянізму: у першым выпадку чалавечая сутнасць зводзілася да сферы духу (як процілегласці таго, што цялеснае), у другім выпадку чалавечае лакалізавалася ў сексуальнай сферы, а сэнс жыцця бачыўся ў максімалізацыі цялеснага задавальнення. Недзе каля паловы ХХ ст. выявіўся яс-

**Брат Пётра РУДКОЎСКІ ОП** — багаслоў, філосаф. Нарадзіўся ў 1978 г. у мястэчку Канвэлішкі, на Гродзеншчыне. У 2000 г. уступіў у дамініканскі Ордэн. Абараніў магістэрскую дысертацыю па багаслоўі ў дамініканскім калегіуме ў Кракаве і па філасофіі ў Ягелонскім універсітэце. Займаецца сацыяльнай этыкай і метадалогіяй навук, выкладае логіку і метадалогію ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце.

кравы раскол на дзве радыкальна процілеглыя антрапалогіі, першую з якіх можна назваць *спірытуалізмам* (акцэнт на сферу духу, пагарда да цела), а другую — *геданізмам* (ігнараванне духоўнай сферы, канцэнтрацыя на цялесных прыемнасцях). Гэты раскол не быў чымсьці цалкам новым, бо геданістычная дактрына сягае (як мінімум) часоў кірэнейцаў (V–IV стст. да Н. Х.), а элементы спірытуалізму можна знайсці ўжо ў філасофіі Піфагора (IV–V стст. да Н. Х.). Аднак жа ў ХХ ст. гэты раскол зрабіўся асабліва востры.

## Eros & Agape

Такі стан рэчаў падштурхнуў многіх хрысціянскіх мысляроў да больш сістэматычнага вывучэння праблематыкі кахання і любові і ролі ў гэтым эратычнае жарсці. Ініцыятарамі былі пратэстанты. У міжваенны час з'явілася серыя філасофска-багаслоўскіх трактатаў з вельмі падобнымі назвамі, у якіх праблематыка любові разглядалася з пратэстанцкага гледзішча: *Eros und Agape* Андэрса Нігрэна[1], *Eros und Caritas* Генрыха Шольца[2], *Eros und Liebe* Эміля Брунэра[3], *Eros und Agape* Ладзіслаўса Грунхута[4].

Ва ўсіх згаданых працах прэзентуюцца два віды любові: прагная любоў (Эрас) і міласэрная любоў — *Agape,* або *Caritas*, дзе першая характарызуецца даволі непрыхільна. Андэрс Нігрэн у сваёй уплывовай працы зыходзіць з вучэння Марціна Лютэра, які даў вось такое азначэнне любові: «*Est enim diligere seipsum odisse*» — «Любіць — гэта ненавідзець самога сябе».

Такі падыход да любові знаходзіцца ў цеснай повязі з характэрным для лютэранства *супранатуралізмам*, тэзай пра радыкальную сапсаванасць чалавечай прыроды і неабходнасць Божае ласкі для збаўлення. Неабходнасць ласкі Божай вызнавалася (і вызнаецца) таксама каталікамі, аднак у выпадку лютэранаў гэта неабходнасць імплікавала «адмаўленне натуры», у той час як на грунце каталіцызму абавязвала (і абавязвае) формула «і-і»: *і* ласка, *і* натура, а дакладней: натура, аздароўленая ўздзеяннем звышнатуральнай ласкі[5].

Паколькі *любіць азначае ненавідзець самога сябе*, то нянавісці падлягае таксама — і ў першую чаргу — эратычная сфера чалавека як найбольш тыповая форма прывязанасці да ўласнай натуры. Нават тэолаг такога фармату, як Карл Барт у сваёй манументальнай працы *Kirchlische dogmatik* («Царкоўная дагматыка») дае досыць непрыхільную характарыстыку эраса, пазначаючы, што эратычная любоў ёсць нічым іншым, як «уласнаю любоўю», якая ёсць «звычайнай процілегласцю хрысціянскай любові».

Хрысціянская любоў (агапэ) — гэта «любоў, якая любіць бескарысна і нічога не атрымлівае», — кажа паслядоўнік Нігрэна Грунхут. Аналагічна разважае іншы тэолаг з тае ж традыцыі Эрвін Райснэр: «агапэ — гэта любоў, гатовая нічога не атрымліваць, а толькі даваць».

Радыкальнае проціпастаўленне *Eros — Agape*, культываванае пратэстанцкімі багасловамі міжваеннага перыяду, было пастаўлена пад сумнеў пасляваеннай генерацыяй хрысціянскіх філосафаў і багасловаў, пераважна каталіцкіх, хоць сярод пратэстантаў таксама былі мысляры, гатовыя рэвізаваць канцэпцыю Андэрса Нігрэна. Каталіцкі філосаф Ёзэф Піпэр у сваёй сінтэтычнай працы *Über die Liebe* выступае з крытыкай пратэстанцкага погляду на эрас, звяртаючы ўвагу на тое, што «чалавек, менавіта на грунце сваёй створанасці, ёсць істотай па сваёй прыродзе патрабуючай, ён сам утварае адну вялікую патрэбу спаўнення». Далей Піпэр робіць спасылку на Кліва Люіса, аўтара працы *Чатыры любові*, якую можна смела залічыць да хрысціянскай класікі. Вельмі цікавае ў гэтым кантэксце прызнанне Люіса ў тым, што калі ён пачынаў пісаць кнігу на тэму любові, то быў рашуча настроены ўзносіць у гэтай кнізе бескарысную любоў (*gift-love*), а тую любоў, якая чагось дамагаецца, якая прагне і патрабуе (*need-love*), апісаць пагардліва. «Але рэчаіснасць аказалася намнога больш складанай, чым я думаў», — вызнае Люіс.

«Сексуальная прыемнасць можа здарыцца і без Эраса, без *закаханасці* [*being in love*], а Эрас уключае ў сябе шэраг іншых рэчаў, апроч сексуальнай актыўнасці», — гэтая канстатацыя з'яўляецца зыходным пунктам разважання Люіса пра эратычную любоў. Поруч з гэтай формай любові філосаф разглядае таксама любоў-афект (*affection*), любоў-сяброўства (*friendship*) і любоў-дабрачыннасць (*charity*).

Што гэта за «іншыя рэчы», якія ўключае ў сябе Эрас? Калі ты сапраўды закаханы (*being in love*) — кажа Люіс — «ты лепш хацеў бы быць нешчаслівым з каханай асобай, чым шчаслівым без яе». Гэткім чынам Люіс прыпісвае Эрасу тую рысу, якая ў паслядоўнікаў Нігрэна магла б выклікаць калі не абурэнне, то прынамсі вялікае здзіўленне: *Эрас характарызуецца самазабыццём* (*selflessness*), антыэгаізмам, паколькі дзеля каханага/каханай ён гатовы ахвяраваць чым заўгодна, апроч страты яго/яе. Эрас — гэта не толькі прагная істота, але і істота, здольная да радыкальнай ахвярнасці, гатовая зносіць боль, рызыкаваць і змагацца, і рабіць гэта дзеля дабра іншай асобы...

## Прырода платанічнага кахання

Пераасэнсоўваючы эратычную любоў, Люіс сягае да платонаўскай канцэпцыі Эраса, выкладзенай у вядомым творы *Symposion* (Пір). У гэтым творы фікцыйныя постаці Фэдрус і Агатон, Паўзаніяс і Эрыксімахус, а таксама Арыстафан і Сакрат дыскутуюць наконт прыроды Эраса. Фэдрус і Агатон указваюць на Эрас як адно з трох боставаў поруч з Хаасам і Геяй (Зямлёй). Паводле Паўзанія і Эрыксімахуса, Эрас суправаджае Нябесную Афрадыту, якая паўстала з насення, што трапіла ў мора разам з ампутаванымі геніталіямі Ураноса (бога нябёсаў). Паводле Арыстафана, Эрас нарадзіўся з яйка, знесенага цёмнаю Ночай. Эрас стаў чароўным і смелым дзякуючы свайму залатому пер'ю, з якога складаюцца яго крылы. Нарэшце, Сакрат — чыю пазіцыю можна лічыць уласнай пазіцыяй Платона — распавядае пра іншага Эраса, сына Пініі і Пораса, які не з'яўляецца «ані богам, ані чалавекам», а хутчэй кімсьці «пасярэдзіне» (*metaxy*), што і вызначае яго сутнасць і заданне — быццё пасярэднікам паміж багамі і людзьмі.

Інфармацыя пра сутнасць Эраса заключана de facto ў імёнах ягоных бацькоў. Імя «Пінія» (маці Эраса) некаторыя перакладаюць як «галеча», хоць, можа, больш адэкватным перакладам было б «гора» (у сэнсе: горыч, горкая доля), паколькі *pinia* этымалагічна звязана са словам *ponos* — цяжкая, мазольная праца, якая камусь наканавана. «Порас» (*poros*) часам інтэрпрэтуецца як «багацце», «дабрабыт», але даследнік платонаўскай філасофіі Карл Абэль паказвае, што пераклад гэтага слова таксама не такі просты. *Poros* этымалагічна павязана з *pherein* — несці. *Poros* — заключае Карл Абэль — можа азначаць функцыю пераходу з аднаго месца на другое, як, напрыклад, у пераход з аднаго берага ракі на другі. Такім чынам, Эрас — гэта сын Гора і Дабрабыту, альбо Гора і Пераходу На Другі Бераг, што тое на тое выходзіць, бо той Другі Бераг ёсць процілегласцю першага, які ёсць Берагам Гора. Жыццё Эраса разыгрываецца паміж гэтымі двума берагамі — Берагам Нястачы і Берагам Звышбагацця. Эрас — гэта вечна галодная істота, якая толькі на момант спазнае патолю і радасць, каб потым зноў пагрузіцца ў тугу і чаканне.

На базе платонаўскай філасофіі можам выдзеліць тры рысы эратычнай любові:

*1) Натуральнасць.*

«Мы прагнем таго, што ёсць натуральным для нас, але што дзіўным чынам адсутнічае ў нас», — піша Пітэр Блэк у сваёй працы з красамоўным загалоўкам *The Broken Wings of Eros* («Зламаныя крылы Эраса»)[6]. Тут дарэчным будзе згадаць пра метафару «палоўкі», пры дапамозе якой закаханыя акрэсліваюць сябе ў сваіх стасунках. Гэта метафара ўвайшла ў штодзённы ўжытак пад уплывам платонаўскага *Сімпазіёну*, дзе Арыстафан між іншым гаворыць, што людзі калісьці існавалі ў выглядзе андрагінаў (мужчынска-жаночага цэлага), і што Зеўс рассек іх напалову, і ад таго часу мужчыны і жанчыны шукаюць сваю адсечаную палову.

*2) Скіраванасць увысь.*

Першапачаткова натуральнае адчуванне няпоўнасці можа з'явіцца на цялесным узроўні як жаданне перажыць цялесную еднасць з іншай асобай шляхам сексуальнага акту. Аднак адчуванне няпоўнасці мае таксама свой эквівалент і на духоўным узроўні, і тут ужо сексу яўна недастаткова. Недастаткова тут нават усталявання эмацыйнай і духоўнай еднасці з якой-небудзь канкрэтнай асобай, бо платонаўскі Эрас «ад прагнення прыгожых фізічных рэчаў, якія з'яўляюцца нашым дапаўненнем, узносіцца да прагнення духоўных рэчаў, «аж пакуль яно ўрэшце не спачне ў тым адзіным, што ёсць поўным і канчатковым задавальненнем: у сузіранні абсалютнай Прыгажосці, такой, якой яна ёсць сама па сабе», як кажа П. Блэк, цытуючы працу Амстронга і Маркуса *Christian Faith and Greek Philosophy*.

*3) Дынамізм.*

Эрас здольны матываваць нас да дзеяння. Ён увесь час не дае нам спакою і перманентна напамінае пра Прыгажосць-у-сабе (філасофскае *kalakagathon*), да якой мы павінны ўвесь час імкнуцца, не затрымліваючыся на прамежкавай прыгажосці, якая нам явіцца ў выглядзе канкрэтных прыгожых целаў. «Такім чынам, — піша П. Блэк, — Эрас са сваімі залатымі крыламі і такімі ж стрэламі не толькі раніць нас прагненнем, але таксама дае нам крылы, каб узносіцца па *scala amoris*, каб стаць сапраўдным кахаючым, *erotikos*, кахаючым саму Прыгажосць. Пры дапамозе Эраса, пасярэдніка, мы ўзносімся ад галечы да дабрабыту, ад невуцтва да ведаў, ад таго, што матэрыяльнае, да таго, што духоўнае, і да сузірання самой Прыгажосці»[7].

## «Бог ёсць любоў». Якая гэта любоў?

Тэма любові становіцца зместам першай энцыклікі[8] папы Бэнэдыкта XVI, чалавека, да якога СМІ раз-пораз прычапляюць бірку «кансерватара», «традыцыяналіста» альбо нават «лефеўрыста». Цікава, аднак, тое, што першай небіблійнай цытатай, якая з'явілася ў пантыфікальным трактаце гэтага «кансерватара», сталася выказванне Фрыдрыха Ніцшэ з кнігі «Па-за дабром і злом»: «Хрысціянства дало Эрасу атруту; ён жа, хоць ад гэтага

не памёр, ператварыўся ў загану».

«Ці Касцёл сваімі загадамі і забаронамі не робіць горкім тое, што ў жыцці найпрыгажэйшае?» — рытарычна пытае Папа-багаслоў, нібы хоча самастойна прадоўжыць думку нямецкага філосафа. «Ці Касцёл не ўсталёўвае забароны менавіта там, дзе радасць, прадугледжаная для нас Створцам, ахвяруе нам шчасце пакаштаваць нешта Боскае?» «Ці сапраўды так?» «Ці хрысціянства сапраўды знішчыла эрас?» — усцяж пытаецца Папа, пасля чаго кажа: «Логас, першапрычына — гэта Той, хто кахае з палкасцю, характэрнай для сапраўднага кахання. Такім чынам, эрас набывае найвышэйшую ступень высакароднасці, пры гэтым ачышчаецца і зліваецца з *агапэ*».

«Агапэ» — гэта біблійна-багаслоўскі тэрмін, пакліканы абазначаць *дабрачынны* і *бескарыслівы* аспект любові. У той час як эрас больш настроены на атрымоўванне-каштаванне-задавальненне, агапэ характарызуецца імкненнем даваць і клапаціцца. Агапэ мае таксама лепшы і больш пранікліва зрок: яна глядзіць «скрозь цела» ў глыбіню іншага чалавека і сузірае ў ім «вобраз і падабенства Бога», які застаецца ўвесь час тым самым, у той час як цялесная краса прамінае і змяняюцца рысы характару. На думку Бэнэдыкта, гэтыя дзве любові — любоў-эрас і любоў-агапэ — павінны сустрэцца: «Эрас і агапэ немагчыма цалкам аддзяліць адно ад другога. <…> Бо калі пачаткова эрас явіцца пераважна як „прагнучы“, „узыходны“, <…> то ў працэсе набліжэння да іншае асобы будзе штораз меней пытацца пра самога сябе, будзе ўсё больш шукаць шчасця іншае асобы, будзе пра яе ўсё больш клапаціцца, дзеля яе пасвячацца і „быць для“ яе».

У сваёй фенаменалогіі любові Папа не прамінуў заўважыць, што любоў самога Бога мае de facto эратычны характар: «Перадусім прарокі Асія і Эзэкііль апісалі гэтую „жарсць“ Бога ў стасунку да Яго народу пры дапамозе смелых эратычных вобразаў. Адносіны Бога да Ізраіля яны характарызуюць метафарамі заручынаў і сужэнства, а ідалапаклонства, такім чынам, становіцца чужалоствам і прастытуцыяй». Бэнэдыкт-Ратцынгер заўважыў таксама сацыяльнае вымярэнне любові-кахання. Гэтаму вымярэнню прысвечана другая частка яго энцыклікі. Хоць Папа наўпрост гэтага не гаворыць, напрошваецца выснова, што дэфармацыя любові ў прыватнай сферы адбіваецца рэхам у выглядзе «этычнага засляпення, што бярэцца з перавагі інтарэсу і ўлады [над практычным розумам]».

* * *

Культ кахання, мяркую, трэба ўспрымаць нароўні з культам мацярынства, гераічнай дабрачыннасці і іншых высокіх цнотаў. Адначасна трэба заўважыць, што культ кахання ў значна большай ступені — у параўнанні з іншымі этычнымі культамі — паддадзены дэфармацыям. Адна з дэфармацый — спірытуалізм, дэманізацыя цела, дэнатуралізацыя сужэнскага жыцця. Эрас у гэтым выпадку ператвараецца ва ўнутранага дэмана-монстра, які жадае зняволіць і знішчыць чалавека, у сувязі з чым аніякі кампраміс з гэтым «дэманам» немагчымы.

Другая дэфармацыя — «вызваленне Эраса» ў стылі сексуальных рэвалюцыянераў Райха-Мід-Кінсэя. Такое «вызваленне» вядзе насамрэч да знішчэння Эраса. Па-за духоўным кантэкстам ён ператвараецца ў банальную хімічную рэакцыю, якая вельмі хутка надакучае і выклікае больш агіду, чым пачуццё спаўнення. Распуста не вызваляе, а дэградуе.

Эрас не мае сваёй мовы. Яму трэба даць магчымасць прамаўляць, даўшы адпаведную мову. Можна даць яму вульгарную і бедную мову, якую давалі яму згаданыя «рэвалюцыянеры», спадкаемцы Ніцшэ, а можна даць багатую і *культурную* мову. І ў гэтым — адна з фундаментальных місій хрысціянства.

**Літаратура, вартая ўвагі:**

Benedict XVI. *Deus caritas est* http://www.vatican.va/holy_father/benedict_xvi/encyclicals/documents/hf_ben-xvi_enc_20051225_deus-caritas-est_en.html

Фромм Э. *Искусство любить*. — СПб.: Азбука-классика, 2004.

Lewis C. Staples. *The Four Loves.* — Harvest Books Publication,1960.

[1] Nygren Anders. *Eros und Agape. Gestaluandlungen der christlische Liebe*. T. 2. — Gütersloh, 1930, 1937.

[2] Scholz Heinrich. *Eros und Caritas. Die platonische Liebe im Sinne des Christentums.* — Halle, 1929.

[3] Brunner Emil. *Eros und Liebe*. — Berlin, 1937.

[4] Grünhut Ladislaus. *Eros und Agape. Eine metaphysisch-religions-philosophische Untersuchung.* — Leipzig, 1931.

[5] Вельмі цікавы аналіз пратэстанцкай канцэпцыі любові з пазіцыі гуманітарнай этыкі праводзіць Эрых Фром у сваёй знакамітай працы «Чалавек для сябе» (*Man For Himself. An Inquiry into the Psychology of Ethics.* – New York: Rinehart and Co, 1947).

[6] Peter Black. *The Broken Wings of Eros: Christian Ethics and the Denial of Desire.* // Theological Studies. Vol. 64, 2003. P. 108.

[7] Тамсама. С. 109.

[8] *Deus caritas est.* Англійская версія вакольніка: http://www.vatican.va/holy_father/benedict_xvi/encyclicals/documents/hf_ben-xvi_enc_20051225_deus-caritas-est_en.html

Ксёндз Андрэй Зноска

# Да пытання аб неабходнасці канцэптуальнай гістарычнай пераемнасці ў беларускім рэлігійным праве

У красавіку 2008 года наша дзяржава магла святкаваць 30-годдзе чацвёртай Канстытуцыі Беларускай ССР, але гэтая дата не была адзначана ніякімі афіцыйнымі мерапрыемствамі. Адной з прычын такой няўвагі, быць можа, стала тое, што прыняты ў 1978 годзе ўслед за агульнасаюзнай Канстытуцыяй Асноўны Закон нашай краіны быў абразлівы для саміх беларусаў, бо «ўтрымліваў палажэнні, якія не адпавядалі гістарычнай рэчаіснасці, у ім гаварылася, што ў кастрычніку 1917 года беларусы з дапамогаю рускага пралетарыяту ўпершыню ў гісторыі здабылі сваю дзяржаўнасць, утварыўшы БССР, хоць добра вядома, што беларуская дзяржаўнасць вядзе свой пачатак ад часоў Полацкага, Турава-Пінскага і іншых княстваў»[1]. Так, быццам і не было ніколі Рагнеды і славутага Вітаўта, пераможнай Грунвальдскай бітвы і Бібліі Скарыны. На пачатку 90-х гадоў, нібы навальніца, прайшоў па землях былога СССР «парад суверэнітэтаў», змываючы з вачэй народаў пыл вялікадзяржаўнага шавінізму. Рэспубліка Беларусь аб'явіла аб сваім суверэнітэце 27 ліпеня 1990 года, а ўжо 15 сакавіка 1994 года была прынята першая Канстытуцыя незалежнай Рэспублікі Беларусь, у прэамбуле якой, як бы абвяргаючы сказанне гісторыі з 1978 года, запісаны словы: «Мы, народ Рэспублікі Беларусь, абапіраючыся на шматвекавую гісторыю развіцця беларускай дзяржаўнасці, прымаем Канстытуцыю»[2].

Мінула трыццаць гадоў пасля канстытуцыйнага зацверджання той злашчаснай гістарычнай ілжы, за гэты час мноства навуковых даследванняў выдатна асвятліла шляхетную старажытнасць гісторыі нашай краіны[3]. Здаецца, што на сённяшнім этапе развіцця дзяржаўнага будаўніцтва, калі і ў дырэктыўных прамовах кіраўнікоў самага высокага рангу, і ў метадычных распрацоўках шмат гаворыцца і пішацца пра мэтанакіраваны пошук беларускай ідэі і нават пэўнай ідэалогіі, здольнай аб'яднаць грамадства, перад даследчыкамі прававой гісторыі Беларусі стаіць імпануючая задача — адкрыццё пэўных «спадчынных мастоў» паміж вытокамі беларускай дзяржаўнасці і тымі характэрнымі асаблівасцямі, у тым ліку і прававымі, якія складаюць адметнасць сённяшняй Рэспублікі Беларусь[4]. Сапраўды, адмова ад уліку нацыянальных адметнасцяў і канкрэтных гістарычных абумоўленасцяў пры пабудове дзяржаўнасці прыводзіць да крызісу ідэнтычнасці і, як следства, да ідэалагічнай пустэчы ў грамадстве[5]. Выдуманыя на заказ штучныя лозунгі не здольныя замяніць «ведання логікі развіцця дзяржаўна-прававых нормаў мінулага часу — неабходнай умовы выпрацоўкі рэальнай дзяржаўнай палітыкі»[6]. У сувязі з гэтым здаецца неабходным, каб сама «дзяржава садзейнічала замацаванню ідэалогіі, заснаванай не на платформе якой-небудзь партыі, але на падставе выпрабаваных часам універсальных маральных і духоўных каштоўнасцяў нашага народа, перадусім — духоўных каштоўнасцяў хрысціянства, якія стагоддзямі былі маральным стрыжнем беларусаў»[7]. Рэтраспектыўны погляд неабходны не толькі для агульнага сцверджання існавання пераемнасці паміж прававым вопытам продкаў і намі, але і для разумення таго вартаснага фундаменту, які ляжыць у аснове тэарэтычнага падыходу асобных галін права[8]. Аказваецца, што ўпарадкаванне нормамі права грамадскіх адносін, якія складаюць прадмет той ці іншай галіны права, часта дэтэрмінавана такімі гістарычнымі абумоўленасцямі, як дзейнасць, супрацоўніцтва ці процістаянне той ці іншай рэлігійнай супольнасці на тэрыторыі краіны, якія выклікалі акрэсленую прававую рэакцыю дзяржаўнай улады, гэта *implicite* пацверджана на вышэйшым легальным узроўні ў норме часткі 2 артыкула 16 дзейнай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь[9]. Аднак, як трапна адзначае загадчык кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права юрыдычнага факультэта БДУ С. А. Калінін, «на жаль, сучасныя правазнаўцы зазвычай ігнаруюць рэлігійныя вытокі ў праве»[10].

Вышэй сказанае цалкам адносіцца і да прававых нормаў, якія рэгулююць грамадскія адносіны па рэалізацыі права чалавека на свабоду сумлення і веравызнання і часам называюцца рэлігійным, або канфесійным правам, хоць сама назва з'яўляецца дыс-

**Ксёндз Андрэй ЗНОСКА** — святар Гродзенскай дыяцэзіі. У 2004 г. скончыў Гродзенскую вышэйшую духоўную семінарыю, у 2005 г. атрымаў святарскае пасвячэнне. Студэнт юрыдычнага факультэта БДУ.

кусійнай і залежыць ад лакальнай юрыдычнай традыцыі[11]. Фактычна нормы так званага рэлігійнага права цяжка аб'яднаць у адну галіну або інстытут, бо яны належаць да розных галінаў права[12]. Так, напрыклад, канстытуцыяналісты разглядаюць веравызнанне ў шэрагу іншых правоў, якія разам складаюць асабістыя, статутавыя правы чалавека, гарантаваныя кожнаму грамадзяніну самой Канстытуцыяй; прадстаўнікі адміністрацыйнага права даследуюць, якім чынам і да якой ступені магчыма рэгуляванне дзяржаўнымі органамі кіравання дзейнасці рэлігійных супольнасцяў; у сваю чаргу, цывілісты падыходзяць да веравызнання як да мэты дзейнасці акрэсленай супольнасці грамадзян, прымаючай форму юрыдычнай асобы, рэлігійнай арганізацыі з пэўнай структурай, маёмасцю, правамі і абавязкамі і шэрагам суадносін з іншымі юрыдычнымі і фізічнымі асобамі[13]. Розны падыход да аднаго аб'екта абумоўлены разнастайнасцю прадметаў, якія прызвана рэгуляваць тая ці іншая галіна права, але ўсе яны ў адносінах да веравызнання характарызуюцца мэтай акрэслення прававога статуса веруючага чалавека ў грамадстве і ўпарадкавання адносінаў паміж супольнасцямі веруючых і дзяржавай[14].

Важна адзначыць, што даследчыкі гісторыі дзяржавы і права Беларусі не павінны засяроджвацца на ідэях і прававых рашэннях толькі пэўных гістарычных перыядаў, нярэдка акрэсленых ва ўгоду злабадзённай палітычнай кан'юнктуры, або разглядаць асобныя, наўмысна вырваныя з гістарычнага кантэксту факты[15]. Такі тэндэнцыйны, не патрабуючы глыбокага аналізу падыход можна растлумачыць і зразумець у скараспелым падручніку па ідэалогіі, але варта паставіць рытарычнае пытанне аб матывацыі, якой кіраваліся прадстаўнікі народа, уводзячы вынікі тэндэнцыйнага падыходу ў ранг гістарычных даследаванняў, калі такія ўвогуле праводзіліся, у ранг прававой нормы. Мяркую, што ў якасці прыкладу навукова неабгрунтаванага і аднабаковага падыходу да гісторыі беларускай дзяржаўнасці можна прывесці заканадаўчае зацвярджанне ў прэамбуле да Закона «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях» няўдалай, на наш погляд, спробы выстраіць традыцыйныя для Беларусі рэлігіі і канфесіі ў шарэнгу, зыходзячы са значнасці ўплыву, які тое ці іншае веравызнанне аказала на фармаванне духоўных, нацыянальных і дзяржаўных традыцый беларускага народа[16]. Хочацца запытаць: «А суддзі хто?», маючы на ўвазе хоць бы той факт, што старшынёю Экспертнага савета пры Упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцяў з'яўляецца прафесар Круглоў, які пазіцыяніруе сябе на вокладцы новага універсітэцкага падручніка па рэлігіязнаўстве (sic!) у якасці перакананага атэіста[17]. Сапраўды, мабыць толькі такія кругловы, пырскаючы з кожнай старонкі сваіх падручнікаў жоўцю нянавісці да веравызнанняў, у любым выданні могуць навукова, пераканаўча і, галоўнае, цалкам незалежна акрэсліць ролю паасобных рэлігій на гістарычным шляху нашага народа. Між тым, далейшае развіццё адносінаў паміж дзяржавай і рэлігійнымі арганізацыямі не можа ісці ў напрамку штучнага і асабіста ангажаванага выстройвання нечага накшталт рэйтынгаў палітычнай лаяльнасці або перацягвання коўдры на сябе, як гэта сёння выглядае ў вачах грамадства, а павінна быць канструктыўным супрацоўніцтвам, заснаваным на прынцыпе парытэтнасці і партнёрства з мэтай асягнення кожным з удзельнікаў сваіх, але зусім не процілеглых задачаў. І комплекснае даследаванне сукупнасці гістарычных рэалій ад самага пачатку фармавання беларускай дзяржаўнасці да сённяшніх дзён павінна прысвячацца між іншым і гэтай мэце — перайманню з гістарычнага досведу развіцця нашай дзяржаўнасці канцэптуальных падыходаў да вырашэння некаторых сённяшніх прававых пытанняў. Перадусім, як паказала сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь са Святым Айцом Бэнэдыктам XVI у Ватыкане, гэта пытанні, звязаныя з пабудовай партнёрскіх адносінаў паміж рэлігійнымі арганізацыямі і дзяржавай у галіне ўмацавання маральнага ладу, сацыяльнага клопату аб дабрабыце народа, супрацоўніцтва ў сферы навукі, бібліятэчнай і архіўнай справы[18].

---

[1] *Доўнар, Т. І.* Гісторыя дзяржавы і права Беларусі. / Т. І. Доўнар. — Мінск, 2007. — 290 с.
[2] Конституция Республики Беларусь от 15.03.1994 N 2875-XII (ред. от 17.11.2004).
[3] Гл. уступ да: Голубева, Л. Л. Наследственное право феодальной Беларуси (по законодательству Великого Княжества Литовского). / Л. Л. Голубева. — Минск, 2002. — 4 с.
[4] Пар.: *Паречина, С. Г.* Концептуальные основы идеологии белорусского государства. Методическое пособие. / С. Г. Паречина. — Минск, 2005. — 13–15 с.
[5] Гл.: *Калинин, С. А.* О методологии изложения эволюции сущности права. / С. А. Калинин. Право и политика. 2003. — 11. — 6 с.
[6] *Круталевич, В. А.* На путях национального самоопределения (БНР — БССР — РБ). / В. А. Круталевич. — Минс, 1995. — 59 с.
[7] *Лукашенко, А. Г.* За сильную процветающую Беларусь! Доклад на II Всебелорусском народном собрании. / А. Г. Лукашенко. СБ — Беларусь сегодня. — 2001. — 136–137.
[8] Проблемы общей теории государства и права. Под общ. ред. В. С. Нерсесянца. — М., 1999. — 194–198 с.
[9] Конституция Республики Беларусь от 15.03.1994 N 2875-XII (ред. от 17.11.2004). — Арт. 16.
[10] *Калинин, С. А.* О методологии изложения эволюции сущности права. С. А. Калинин. Право и политика. — 2003. — 11. — 5 с.
[11] Ч. Мірабэллі ўслед за славутым італьянскім даследчыкам гісторыі права Ф. Скадуто прапануе назву «царкоўнае права» (*diritto ecclesiastico*), адначасова прыводзячы варыянты, распаўсюджаныя ў іншых еўрапейскіх краінах — у Францыі *droit civil ecclesiastique* і *Staatskirchenrecht* у Германіі. Гл. *Брольо Ф. М., Мирабелли Ч., Онида Ф.* Религии и юридические системы. Введение в сравнительное церковное право. / Ф. М. Брольо, Ч. Мирабелли, Ф. Онида. / — М., 2008. — 1–2 с.
[12] Пар.: Общая теория государства и права. Том 2. Теория права. Ред. М. Н. Марченко. — М., 1998. — 238 с.
[13] Пар.: *Василевич, Г. А.* Конституционное право Республики Беларусь. Г. А. Василевич. / — Мн., 2003. — 331–332; *Крамник А. Н.* Административно-правовые основы государственного управления. / А. Н. Крамник. / — Мн., 2004. — С. 270–278; Гражданское право. Часть 1. Под общ. ред. В. Ф. Чигира. — Мн., 2000. — С. 320—322.
[14] Гл.: Земляков, Л. Е. Современное законодательство Республики Беларусь о свободе совести: становление, развитие, совершенствование. / Л. Е. Земляков. // Белорусская государственность и развитие национальной правовой системы: от Статута 1588 года до современной Конституции. Материалы Республиканской научно-практической конференции (Минск, 11–12 марта 2008 г.). — Мн., 2008. — С. 88–89.
[15] Пар.: Основы идеологии белорусского государства: история и теория. Авторский коллектив Академии управления при Президенте Республики Беларусь. — Мн., 2006. — 191–209 с.
[16] Закон Республики Беларусь от 17.12.1992 N 2054-XII (ред. от 21.07.2008) «О свободе совести и религиозных организациях». — Преамбула. Пар.: Конституция Республики Беларусь от 15.03.1994 N 2875-XII (ред. от 17.11.2004). – Ч. 2 ст. 16.
[17] *Круглов А. А.* Религиоведение. / А. А. Круглов. / — Мн., 2008.
[18] Пар.: *Братко Г.* Доброе взаимопонимание. / Г. Братко. / СБ — Беларусь сегодня. — 2009. — 81.

Фрагмент абраза
Маці Божай Белагрудскай
пасля рэстаўрацыі.



Аркадзь ШПУНТ

# Маці Божая Белагрудская

## Нататкі рэстаўратара

...Калі і як гэта здарылася, невядома, але вераць і гавораць ужо гадоў трыста: «Тады, калі касцёл быў драўляны».

Драўляны касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, пабудаваны па фундацыі лідскага падкаморыя Яна Завішы і яго жонкі Настассі Трызны, стаяў на беразе Дзітвы ўжо на пачатку XVII стагоддзя, у 1609 годзе.

Гэта быў першы касцёл на ўзвышаным сярод балотаў месцы, якое людзі абжылі даўным-даўно і пакінулі сляды жыцця аж з каменнага стагоддзя, але толькі ў XVI стагоддзі ад Нараджэння Хрыста Белагруда атрымала сваю назву.

І, як звычайна, у святыні, што ўзводзіліся на берагах рэк, у белагрудскі касцёл алтарны абраз таксама прыплыў па вадзе. Тады і Дзітва была, напэўна, ракою, а не сённяшняю рачулкаю. Калі пажадае Бог, абраз і прыплыве, і ў кароне дрэва з'явіцца, і ў агні не згарыць, і будзе створаны ў неспрыяльны

**Аркадзь ШПУНТ** — мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. Нарадзіўся ў 1947 г. у Барысаве. Закончыў мастацкую вучэльню. Навучаўся прафесіі ў майстроў Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі. Рэстаўраваў пінскі катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, іншыя помнікі сакральнай архітэктуры і мастацтва. Аўтар аповесцяў-эсэ «Блики уходящего дня» (1989), «Момент нуль» (2000) і шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Жыве ў Мінску.

час, калі, здаецца, людзям зусім не да мастацтва.

Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, на жаль, згарэў. Калі? Складаней адказаць на пытанне, калі ў XVII стагоддзі касцёл мог бы не згарэць.

Пакаленні беларусаў амаль не мелі ўяўлення пра тое, што такое мірнае жыццё. Немагчымасць параўнаць, відаць, і дазволіла захаваць псіхічнае здароўе ацалелай палове насельніцтва ў несумяшчальнай з жыццём «здзічэласці звычаяў», у звычцы да забойства. Гадоў трыста назад вынішчэнне чалавека чалавекам было ручною, будзённаю справаю. Чужакі па-майстэрску арудавалі шабляю, а дзеля разнастайнасці невясёлага занятку вынішчэння сабе падобных яны параспрабавалі, мабыць, усе магчымыя спосабы гвалтоўнага і пакутлівага забойства людзей з вычварнымі варыянтамі для жанчын і дзяцей. Палілі на алтарах тых, хто пакланяўся алтарам. Шыбеніца на фоне неба была звычайным «упрыгожваннем» пейзажу.

Рэч Паспалітая ваявала з Масквою, казацкая вольніца знішчала, рабавала палякаў і яўрэяў, шведы ў агні і спусташэнні выглядалі для сябе кавалак зямлі, каб завалодаць ім. Еўрапейскія ваяры з вопытам трыццацігадовай вайны напоўніцу праяўлялі сваё прафесійнае майстэрства наёмнікаў. Гэта быў крывавы патоп і, напэўна, самая вялікая катастрофа ў гісторыі беларусаў. Чытаць пра гэта страшна, нават унутрана скаланешся, але прызвычайваешся, быццам разглядаеш старажытную гравюру і здзіўляешся скажонаму ўяўленню мастака, а потым разумееш, што ён нічога не выдумаў. Ён гэта бачыў. Так было.

Калі вырашыў «ісці на сябра свайго польскага караля» Аляксей Міхайлавіч, маскоўскі цар, яго ратнікі палілі і руйнавалі касцёлы, знішчаючы каталіцтва пад корань. У 1655 г. рускія захапілі і Мінск, і сталіцу Вялікага Княства Літоўскага Вільню, і Гродна, і Ліду. Вядома, і Белагруду, якая знаходзілася на іх шляху, не абышлі бокам. Але што казаць пра такую маленькую вёсачку з драўляным касцёлам, калі ў чэраве вайны знікалі гарады разам з гараджанамі! Вялікі цуд, што беларусы ўвогуле захаваліся як нацыя.

Што гнецца, тое не зломіцца? Можа яно і так. І тыя, што захаваліся, замест спаленых пабудавалі новыя святыні...

У 1703 г. на месцы згарэлага касцёла ўладальнік Дзітвы Уладзіслаў Шэміёт (Шэмет) пабудаваў невялікі драўляны касцёл пад тым жа тытулам Яна Хрысціцеля.

У касцёле 1703 г. знаходзіліся сапраўдныя творы мастацтва. Ужо ў савецкі час экспедыцыяй музея Акадэміі навук была вывезена карціна XVIII стагоддзя «Трыумф святой Алены», знойдзеная ў капліцы на могілках...

...За Валожынам надвор'е заўсёды іншае, асабліва ў канцы лютага. Быццам перасякаеш мяжу мутна-шэрай зімы і ўязджаеш у раннюю, з прагалінамі снегу на палях, сонечную вясну. Крыстына Лялько прывезла мяне на сваёй «Субару» ў касцёл, дзе яе хрысцілі, каля сценаў якога знаходзіцца магіла яе маці, каб я вокам спецыяліста паглядзеў абраз Маці Божай і, калі гэта неабходна, узяўся за яго рэстаўрацыю.

Касцёл святога Міхала Арханёла — пабудова са светлай цэглы — сёння ўзносіць у неба над Белагрудаю крыжы сваіх неагатычных шпіляў. Змянілася яго назва, але алтар, магчыма, той самы, што быў галоўным і ў першым, і ў другім касцёле.

Ад старых рэчаў у святыні пачатку XX стагоддзя, апрача алтарнага абраза Маці Божай і Укрыжавання, якое вісіць на сцяне каля ўваходу, нічога не засталося. Разьбяр, не абцяжараны веданнем анатоміі, пачаўшы працу з галавы, крыху не разлічыў, таму ногі ў фігуры Хрыста атрымаліся караткаватымі. Аднак мастацкае пачуццё дазволіла майстру (напэўна, мясцоваму) пераўтварыць грудную клетку і падзел рэбраў у дэкаратыўнае ўпрыгожванне скульптуры.

Могілкі вакол касцёла, узведзенага ў 1908 годзе васьмігадовымі стараннямі і працаю ксяндза Казіміра Сталеўскага, — апошняе прыстанішча вернікаў, якія належалі да белагрудскай парафіі. Побач ляжаць і тыя, што жылі стагоддзі назад, і сённяшнія...

У касцёле святога Міхала Арханёла ранішняя Імша. Холадна. Спяваюць тонкімі, амаль дзіцячымі галасамі бабулькі. І песня, мабыць, тая ж, што спявалася тут, калі яны былі малымі дзяўчынкамі...

Дзівоснай працы срэбная з пазалотаю шата атачае выяву Багародзіцы ў алтарнай нішы. Металічная аправа абраза заўсёды здаецца латамі, але так яно і ёсць: шата захоўвае жывапіс, абараняе выяву, якая з часам страчвае свае жывапісныя якасці. Тое, што не хавалася пад шатамі (твары на абразе), аднаўлялі, як умелі, з веку ў век.

Я бачыў і трымаў у руках і аправы, і шаты, упрыгожаныя срэбрам-золатам, самацветнымі камянямі ювелірнай працы і, галоўнае, каштоўныя сваёй цудадзейнасцю і гісторыяй, але ўпершыню падумаў пра шаты не як пра латы, а як пра нешта вельмі жаноцкае.

Дзеля страчанай прыгажосці выявы абраз аздаблялі чаканным срэбрам, быццам дапаўняючы неўміручым металам крохкую прыгажосць фарбаў. Шата — гэта каштоўная ахвяра, абяцаная абразу. Так людзі загладжваюць сваю віну за нядбайнасць, за тое, што не могуць супрацьстаяць незваротным працэсам старэння і знішчэння, за тое, што агонь лампады або пажар абпаліў аб-

раз, што страты жывапісу адкрыліся, нібы раны, і... ці мала яшчэ як могуць правініцца людзі перад слабою матэрыяльнаю сутнасцю твора мастацтва.

Пра духоўную сутнасць шанаванага абраза і гаварыць няма чаго грэшнаму рэстаўратару, але думаць трэба...

Разважаючы пра тэмпературна-вільготнасны рэжым, аснову жывапісу і тэхніку яго выканання, я ўглядаўся ў цёмнае аблічча і сумняваўся ў водна-рачным паходжанні абраза. Я зайздросціў тым, хто не сумняваецца. «Дапамажы, Пане, майму бязвер'ю!» Але, відаць, жывапіс створаны не на дошцы (як чакалася), а на палатне.

Законы фізікі дзейнічалі, безумоўна, і да іх адкрыцця, але гэта не перашкаджала і не перашкаджае здзяйсняцца цудам насуперак нават і вынайдзеным разумным законам. На тое яны і цуды... Дасведчаныя ў цудах людзі сцвярджаюць, што абраз вандруе па вадзе стоячы, а не лежачы. У вадзе, як вядома, знікне любы грунт і любы фарбавы слой на любой аснове — хоць стоячы, хоць лежачы. Аднак, калі ўжо цуд, то таму, хто сумняваецца, трэба памятаць, што цуд — гэта ў першую чаргу цуд веры, паводле якой і «будзе дадзена».

...Схіленае аблічча Багародзіцы ў алтарнай нішы. Незвычайны абраз, упрыгожаны срэбрам і пазалотаю аправы. Каваная шата — праца сталічных майстроў у вясковай святыні. Яна зроблена менавіта для гэтага абраза: такога незвычайнага, такога дзіўнага абраза Найсвяцейшай Панны Марыі.

Цяжкія павекі вялікіх вачэй апушчаныя, быццам хаваюць таямніцу, якую не разгадаць, не раскрыць... нават скальпелем... А чым яшчэ можа раскрываць рэстаўратар?

У працы прафесіяналаў адказнага рукадзелля шмат агульнага, але памылку хірурга схаваюць у зямлю, а памылка рэстаўратара заўсёды навідавоку. І нават раней безыменная рэч будзе вядомаю, пра яе скажуць: «А гэта тая, якую сапсаваў нейкі...» Змілуйся, Маці Міласэрнасці, Найсвяцейшая Панна!

Не зіма і не вясна, нешта «паміж белым і зеленаватым», і неяк адчуваецца, што ўсе важныя падзеі ў Белагрудзе ўжо адбыліся, што ўсё ў мінулым. Здаецца, што нават у каменным стагоддзі каля супольнага вогнішча тут было весялей. Што за культура такая «банцараўская», якая калісьці тут была? Не ведаю. Але гэта была культура, бо ад яе праз стагоддзі яшчэ штосьці засталося, хоць ахоўную дошку з пазначэннем паселішчаў людзей, якія раней тут жылі, нехта з тых, хто насяляе гэта месца цяпер, сцягнуў. І цішыня тут, быццам спыніўся кадр і знік гук: ні ветру, ні шолаху. Зіма яшчэ не адышла, вясна яшчэ не прыйшла. Паўза.

Глухое буханне вяртае ў рэчаіснасць: шаманскія гукі гэтак званай «музыкі» нахабна вырваліся з адчыненых дзвярэй іншамаркі, якая заехала ў двор праз дарогу. Цішыня скалынулася, прытулілася да сцяны касцёла і... засталася цішынёю, якую можна чуць, калі захочаш.

...Цынкавая рабізна праблісквае скрозь чарот, які прыкідваецца жывым у атачэнні сонных соснаў. Хутка з першым рухам сокаў у травах і дрэвах адсутнасць жыцця ў сухіх сцяблінах выявіцца і стане відавочным, што не «камыш шумел», а ўсяго толькі гербарый яго шапацеў на зімнім вятры.

...Рыбак у камуфляжы пільна выглядае ў цьмянай альмагаме штосьці толькі яму бачнае. Можа, ён бачыць лес? Лес, у якім пералічаны і дагледжаны ўсе дрэвы, над якім і неба сваё, і свае ў ім птушкі, і вавёркі, і нават вольны вецер, залятаючы ў верхавіны бярозаў і соснаў, становіцца сваім.

У Крыстынінага дзеда таксама быў лес. Лес быў сваім, а як стаў калгасным, яго не стала, быццам і не рос ён, набіраючы веліч і прыгажосць разам з сокамі зямлі. Лес застаўся толькі ў горкай памяці ўнучкі. Спілавалі. Нешта збіраліся рабіць, ды, як звычайна, не зрабілі. Цяпер на гэтым месцы дзікі хмызняк і непрыгожыя зараснікі. «Месца пустое», як і на месцах руйнавання святыняў: у Пінску замест узарванага касцёла — недарэчная плошча, якая прадзімаецца ўсімі вятрамі, у Гродне — сквер са змарнелымі раслінамі, у якім нават п'яніцы грэбуюць распіць бутэльку.

Ды ці мала пустых месцаў у гарадах і вёсках Беларусі? Шмат вады працякло ў Дзітве-рэчцы паўз бераг, да якога, па легендзе, трыста гадоў назад прыплыў абраз Панны Марыі. І не менш крыві пралілося з тых часоў на нашых землях, і на заходніх, і на ўсходніх...

Магчыма, маё ўражанне (уражанне злёгку прамерзлага выпадковага чалавека), было няправільнае, але мне так здалося. Здалося, што нічога больш важнага і больш цікавага, чым гісторыя абраза і пабудова трох касцёлаў у розныя перыяды, у Белагрудзе ўжо не здарыцца. Але я не засмуціўся. А можа, падумаў я, скончацца калі-небудзь на Беларусі часы, перапоўненыя «роковыми минутами». Хоць і «блажен, кто посетил сей мир в его минуты роковые» (Ф. Цютчаў), але хочацца спакою і гармоніі для любімай Айчыны; хочацца хаця б для яе гісторыі, расчышчанай ад «запісаў» і «аднаўленняў», хочацца вяртання страчанага. Хочацца сапраўднай гісторыі.

Абраз дасталі з алтарнай нішы, уручылі рэстаўратару і пажадалі: «Каб аднавіўся!» Вось і ўсё рэстаўрацыйнае заданне.

Не з'яўляючыся сродкам паляпшэння мастацкага твора (як гэтага часам чакаюць), рэстаўрацыя-кансервацыя стане сродкам

павышэння яго каштоўнасці. Але ж абраз не мае ў гэтым патрэбы: у Белагрудзе яго любяць, шануюць і берагуць. Хацелі б толькі, каб у будучыні ён не разбураўся і каб па магчымасці аднавіўся.

Узброіўшыся спецыяльным інструментам, паслядоўна вымаючы тоўстыя заржавелыя цвікі пачатку стагоддзя, зняў (не без душэўнага хвалявання) складзеную з частак каваную шату, воты, палінялы аксаміт і агаліў тое, чаго ніхто не бачыў ужо гадоў сто, магчыма. І ўбачыў кавалак няроўна выразанага палатна з вялікай карціны. Іканаграфічная незвычайнасць абраза тлумачылся да крыўднага проста і нецікава — фрагмент. І зашчымела сэрца ад прадчування неразгаданасці загадкі: хто выразаў? навошта? калі?

…Старыя рэчы здольныя ўплываць на чалавечае ўяўленне і абуджаць у ім памяць пра мінулае. І я быў гатовы ўзрушыцца і ўзгадаць што-небудзь, чаго зусім не было, але, магчыма, магло і быць. І, напэўна, узгадаў бы, калі б не цітлы ў вуглах выразанага фрагмента палатна, які паўстаў перад маімі вачыма, і калі б не тое, што ён выразаны ды яшчэ і фрагмент.

Напісаныя бялілмі цітлы збілі мяне з панталыку, неймаверна засмуцілі: выява дрэнна чыталася пад пылам і пацямнелым лакам, а вось цітлы праваслаўнай іконы праглядалі выразна і напісалі іх, відавочна, не так ужо даўно. Напісана, мяркуючы па прапорцыях, ужо на фрагменце. Шата была зроблена ўжо ў пачатку XVIII стагоддзя. Але навошта пісаць пад шатаю?

Нідзе ў свеце вы не налічыце столькі слаёў аднаўленняў на творах рэлігійнага мастацтва, як у Беларусі. Гістарычныя складанасці адлюстроўваліся ў алтарных карцінах і іконах запісамі, аднаўленнямі, стратамі. У Італіі, напрыклад, скульптура можа стаяць у алтары паўтысячы гадоў і адзіным яе пашкоджаннем будзе зацалаваны да драўлянай асновы палец на назе святога. У нас жа не так: ніводнага разу за сорак гадоў мне не давялося рэстаўраваць рэч без сюрпрызу-загадкі, раскрываючы-разгадваючы якую аніяк не засумуеш і міжволі далучышся да яе няпростай гісторыі. Няпростай, бо, задумаўшыся пра паходжанне помніка, заўсёды спатыкнешся ў вызначэнні яго гістарычнага часу-прасторы, задумаешся над тым, якой дзяржаве належала гэтая мясцовасць, у якую веру перайшоў яе ўладальнік з-за практычна-дыпламатычных меркаванняў, хто гаспадарыў у той час на зямлі, хто яе рабаваў, якая вайна на ёй вялася, уплыў мастацтва чыіх краінаў адлюстраваўся ў творы, ці мясцовы майстар працаваў, натхнёны прыёмамі замежных жывапісцаў, ці замежны маэстра выконваў заказ, засвойваючы мясцовы каларыт, адлюстроўваючы яго ў сваёй творчасці. А можа, было так: прывезлі аднекуль рэч і яна стала помнікам гісторыі і культуры нашай зямлі.

…Вяртаемся ў Мінск. Праехалі Валожын. Надвор'е, як звычайна, змянілася. За спінаю ў аблоках, быццам гарэў горад, дагараў зусім вясновы захад сонца. Мы ўязджалі ў няўстойлівую шэрую зіму, у наша шэрае неба.

Іншы раз здзіўляешся, колькі было падзеяў, колькі перамяшчэнняў, а ўсяго толькі з хуткасцю каня ці ветру ў ветразях рухаўся чалавек у неэлектрафікаваным мінулым. Дзіўна, але і з хуткасцю пешахода шляхціц, які нарадзіўся «за тры мілі ад Слуцка» 3 сакавіка 1617 года, у Пагосце, над ракою Случ (цяперашні Салігорскі раён Мінскай вобласці), паспяваў якасна пазнаць і ўбачыць больш, чым сучасны чалавек, які рухаецца з хуткасцю гука, забіваючы час каля тэлеэкрана. Мы не заснём без навінаў з усяго свету — і Старога, і Новага — і пры гэтым зусім не цікавімся жыццём і нават смерцю суседа па лесвічнай пляцоўцы…

Чытаючы «Воспоминания Яна Цедровского», запісаныя яго ўласнаю рукою ў XVII стагоддзі, разумееш, што прадстаўніка шляхецкага саслоўя ў той бурлівы час жыццё вымушала быць не толькі сведкам, але і непасрэдным удзельнікам гістарычных падзеяў. Шляхціц, які не вызначаўся знатнасцю паходжання, пісаў (так было прынята) сямейную хроніку, не лічачы сваё жыццё асаблівым, адметным. Але як ярка, насычана, драматычна яны жылі!

Без газавых пячэй і кулямётаў умудраліся загубіць нямала народу. Абыходзіліся без сотавых тэлефонаў, Інтэрнэта, без высокіх хуткасцяў — і ўсё паспявалі. Нараджаліся, вучыліся, жаніліся, зноў жаніліся і выходзілі замуж, пахаваўшы сужэнца, вандравалі з краіны ў краіну не па турпуцёўцы, не дзеля забавы, а па справах, часам і дзяржаўнага значэння.

Яны харчаваліся экалагічна чыстымі прадуктамі, бо іншых тады не было, і калі год выпадаў галодны, калі нашэсце мышэй не знішчала ўраджаю і запасаў, калі палёў не вытоптвалі салдаты, то былі сытыя. Але пасля вайны 1655 года людзі елі і чалавечыну, як сведчыць Ян Цадроўскі, што зламаў у 1630 годзе сваю галёнку мармуровым сталом у Круляўцы, куды паслаў яго вучыцца «бацька-дабрадзей».

…Пад коламі машыны — галалёд… Разумееш, што поўны прывад — гэта добра. У багажніку — дошка з жывапісам. У трохсотгадовай гісторыі алтарнага абраза з Белагруды адгортваецца новая старонка. Яна пачынаецца на рэстаўрацыйным стале. Заўтра.

**Відавочнае**

• Фрагмент жывапісу на палатне (60х80) неакуратна выразаны з карціны значна большай

па памеры. Палатно шчыльнае, грубага пляцення, страты палатна значныя, асабліва па краях фрагмента, па слядах ад цвікоў, якія мацавалі шаты. Палатно прыклеена да дошкі (сасна). Шпонкі шчыта і метад апрацоўкі дошкі дазваляюць упэўнена датаваць яе пачаткам XX стагоддзя. Фрагмент моцна прыклеены да шчыта клеем жывёльнага паходжання.

• Срэбная з пазалотаю шата задумана і выканана майстрамі найвышэйшага ўзроўню менавіта для гэтага фрагмента манументальнага твора жывапісу. Па характары дэталяў чаканнага дэкору шата належыць да ўзораў прыкладнога мастацтва пачатку — сярэдзіны XVIII стагоддзя.

• Выява на выразаным фрагменце выканана ў тэхніцы алейнага жывапісу. Фарбавы слой моцна запылены, забруджаны, знаходзіцца пад пацямнелаю плёнкаю лаку, месцамі адстае ад асновы. Аблічча не адзін раз пакрывалася лакам і, хутчэй за ўсё, аднаўлялася. Аблічча захавалася пад шатаю без значных аднаўленняў, покрыўны слой цёмны.

• Страты фарбавага слоя разам з палатном значныя, але не на адказных месцах. Страты звязаны з накладаннем шаты і забіваннем цвікоў.

• У верхніх вуглах выразанага фрагмента — кірылічныя цітлы, напісаныя бяліламі.

**Магчымае**

• Фрагмент мог быць часткаю алтарнай карціны памерам прыкладна 120х150 сантыметраў, калі карціна была копіяй цудатворнага абраза Маці Божай Міласэрнасці з віленскай Вастрабрамскай капліцы (схілены твар, скрыжаваныя рукі, XVI ст., італьянскі майстар — гавораць адны, другія сцвярджаюць, што нямецкі). Скапіяваны не столькі абраз Вастрабрамскай Маці Божай, але рэдкі тып малявання Дзевы Марыі без Немаўляці на руках. Магчыма, паказана сцэна Беззаганнага Зачацця Панны Марыі. Тады карціна, фрагмент якой ляжыць на рэстаўрацыйным стале, мела каля трох метраў у вышыню. Гэта, пагадзіцеся, і для катэдральнага касцёла даволі многа, не кажучы пра вясковы касцёл.

• Першы драўляны касцёл павінен быў мець алтарны абраз і, безумоўна, меў яго, калі на маім рэстаўрацыйным стале ляжыць гэты фрагмент, і быў ён працаю не мясцовай творчасці і такой прыгажосці, што можна паверыць у яго цудоўнае паходжанне. У вясковым сціплым касцёле твор такой якасці — цуд. Цуд, які магчымы ў нашай Айчыне. А як было на самай справе, хто ведае? З'явіўся, а можа, прыплыў па вадзе. З таго часу шмат вады сплыло...

• Можа, абраз абгарэў у пажары, але з агню паспелі вынесці цудам ацалелы фрагмент, на якім цудам аказалася аблічча Маці Божай. Яго абрэзалі, падраўнялі і ўпрыгожылі шатаю.

• Напэўна, назаўсёды застанецца загадкаю, як першапачаткова выглядала карціна. Няма сумненняў у тым, што належала яна пэндзлю не радавога майстра. Заходнееўрапейскі ўплыў у жывапісе відавочны.

• Калі і чаму з'явіліся цітлы царкоўнаславянскага пісьма на касцёльным алтарным абразе, дакладней, ужо на фрагменце абраза? Да таго, як яго закрылі шатамі, ці пасля? Паблізу ў акрузе не было праваслаўных храмаў.

• Апошняя рэстаўрацыя абраза, мяркую, звязана з кансэкрацыяй касцёла святога Міхала Арханёла ў 1908 годзе. У выніку той рэстаўрацыі фрагмент жывапісу і шаты былі дэмантаваныя са старой асновы. Быў зроблены шчыт з сасновых дошак для новай асновы. Фрагмент палатна з жывапісам грунтоўна прыклеілі да драўлянага шчыта. Поле шчыта і край фрагмента закрылі чырвоным аксамітам. На жывапіс наклалі срэбную, складзеную з шасці частак, шату і прымацавалі яе цвікамі да шчыта праз палатно і фарбавы слой. Аблічча не адзін раз рамантавалі, перапісвалі і пакрывалі лакам.

• Прыбілі воты, металічныя літары ўсталявалі ў нішу.

• Чаму змянілі аснову (шчыт) і якой яна была раней, мы не даведаемся ніколі.

Не маючы намеру нешта мяняць у прыёме экспанавання абраза, да якога вернікі прызвычаіліся за апошняе стагоддзе, або мяняць драўляны шчыт, які знаходзіцца ў добрым стане і патрабуе толькі выдалення бруду, тым не менш трэба было адслаіць (дакладней, адклеіць) фрагмент з жывапісам ад драўлянай асновы. Чаму?

Услед за напружаннем драўніны ў працэсе сціскання-расшырэння, якое ўзнікае ў выніку пастаянных зменаў тэмпературы і вільготнасці ў неацяпляльным касцёле, адбывалася сцісканне і расшырэнне палатна, прыклеенага да дошкі. Гэта, вядома, не садзейнічала захаванню жывапісу, выклікала карабаціннe палатна, адслойванне грунта і дэфармацыю фарбавага слоя. Разбуральны працэс трэба было стабілізаваць. Такую магчымасць дае незалежнае мацаванне палатна на шчыце. Палатно з жывапісам трэба было перавесці, г. зн. дубляваць, на ўспаможнае палатно, а потым замацаваць на шчыце, не звязваючы жывапіс з драўлянаю асноваю.

Калі жывапіс будзе замацаваны, выраўнены і перанесены на дубляванае палатно, з'явіцца магчымасць яго раскрыць.

Раскрыццё абраза заўсёды рызыка, заўсёды своеасаблівая прыгода.

Той, хто раскрывае твор старога жывапісу, перажывае стрэс, і яго можна параўнаць хіба што з адчуваннямі Арэльяна, які, накіроўваючыся немаведама куды

і сярод невядома чаго, адкрыў Вялікую раку.

Плаванне па рацэ часу можа працягвацца даўжэй і здзіўляць не менш за плаванне па чорна-чырвонай рацэ Амазонак...

Плынь часу праяўляецца ў старэнні матэрыялаў твора. Рэчаіснасць, якая спарадзіла і майстра, і яго твор, сплывае, як вада Дзітвы, у незваротнае неспазнае мінулае. Чытанне ўспамінаў, запісаных рукою чалавека XVII стагоддзя, дазваляе хоць крыху ўявіць тое жыццё, быццам апускае мікразандаж у тую рэчаіснасць.

«Раскрыццё спалучана не толькі з непасрэдна тэхнічнымі цяжкасцямі працэсу выдалення, але, магчыма, у першую чаргу са складанасцю прыняцця самога рашэння аб выдаленні аднаго з элементаў гістарычна сфармаванага знешняга выгляду аб'екта» (Баброў Ю. Г).

«Гістарычна сфармаваны знешні выгляд» — гэта якраз той звычны выгляд шанаванага з дзяцінства абраза, намоленага руплівай маці, якая на ровары прывозіла ў касцёл сваю маленькую дзяўчынку і навучыла дачку маліцца так, як да смерці сама малілася.

«Гістарычна сфармаваны знешні выгляд», як паказалі пробныя расчысткі фарбавага слоя, — гэта запіс, аднаўленне арыгінала, схаванага пад шчыльным чорным слоем лаку, жывапісам і грунтам рэстаўрацыйных правак.

І аказалася, што аўтэнтычны жывапіс аблічча, схаванага пад чорнаю непранікальнаю плёнкаю лаку, значна і не раз аднаўлялі, таму трэба зрабіць рэнтген, каб вырашыць, ці варта адкрываць арыгінал, страты якога, магчыма, даволі істотныя. Ці не абмежавацца расчысткаю запісу, усяго толькі выдаленнем пацямнелага лаку з яго паверхні, не паглыбляючыся ў раскрыццё арыгінала, які ў выніку, магчыма, будзе значна адрознівацца ад гістарычна сфармаванага аблічча шанаванага абраза і, хутчэй за ўсё, не супадзе з шатаю. Галоўнае, ці здавальняючая захаванасць аўтарскага слоя жывапісу?

Зандаж фарбавага слоя на ілбе выявіў пад запісам закругленыя густыя і тонкія складкі каптура, малюнак якога пацвярджае здагадку пра магчымую неадпаведнасць запісу арыгіналу.

Аднаўляльнік абраза, углядаючыся ў чарнату, імкнуўся ўгадаць і ўзнавіць выяву, схаваную пад лакам. Як угадаў, так і напісаў. Сёння я аднаўляю яго думкі, не рызыкуючы паглыбіцца ў раскрыццё, пакідаючы сапраўдны жывапіс аблічча пад непразрыстым лакам і запісам.

Калі б гэта палатно было ўсяго толькі помнікам гісторыі і культуры, г. зн. музейным экспанатам, безумоўна, сёння яго трэба было б раскрываць. Але мы маем справу з шанаваным касцёльным абразом і захаванне гістарычна сфармаванага яго выгляду, на мой погляд, з'яўляецца больш важным, чым рызыкоўнае адкрыццё помніка мастацтва жывапісу. Тым больш што аблічча Маці Божай і фон, якія запісаны даволі нязначна, пасля выдалення чорнай і вельмі шчыльнай лакавай плёнкі паўстануць у сваім першапачатковым выглядзе і гэта дасць уяўленне пра аўтэнтычны жывапіс абраза, фрагмент якога сёння з'яўляецца алтарнай святыняй касцёла Міхала Арханёла ў Белагрудзе.

**Адкрылася**

• Шэры, як неба беларускай нясонечнай адлігі, фон.

• Бурная пена чырвонага, жар якога яшчэ больш гарачы побач з пакамечаным шэра-блакітным шоўкам падбою мафорыя, які, уздымаючыся да твару, утаймоўваецца, набывае рэгулярнае чаргаванне святла, паўценю і ценю.

• Залочаная ў пярлінах, ізумрудах кайма мафорыя і зялёнага гімацыя абрамляе твар, як бы ахоўваючы стоенае ў ім маўчанне.

• Над ілбом і на грудзях Марыі — залатыя брошкі; выгляд намаляваных ізумрудаў і рубінаў прымушае ўзгадваць дзюшэсы і барбарысы, абліzаныя ледзяшы маленства, але знаўцу зразумела, што намаляваныя не шкельцы, а сапраўдныя каштоўнасці.

• Матава мігцяць напісаныя пярліны.

...Ці выдаляць цітлы як позні, далёкі ад гармоніі абраза запіс, ці захаваць як след гістарычных падзеяў і гістарычную прыналежнасць да помніка культуры?

Напэўна, захаваць.

...Асаблівую праблему выклікае неабходнасць устаноўкі на абраз металічнага акладу пасля завяршэння рэстаўрацыйных працаў. Але тут складана прыдумаць нешта апрача цвікоў.

Наступны пасля мяне рэстаўратар (няхай спатрэбіцца ён не так хутка) будзе, дэмантуючы аклад, абурацца стратамі фарбавага слоя ў месцах мацавання шатаў, але, магчыма, з павагаю адзначыць, што цвікі падабраны тонкія і нержавеючыя...



Маці Божая Чэнстахоўская, пач. XVII ст.

# Алтарны жывапіс Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў

Шанаванне святых абразоў, як і крыжа, належыць да старажытнай традыцыі хрысціянства, устаноўленай на VII Сусветным Саборы ў Нікеі (787 г.) і пацверджанай Саборам 842 года. У праваслаўным храме цэнтрам засяроджання абразоў з XV ст. стаў іканастас, які пачынаўся са сценкі, што адгароджвала алтар ад навы храма. Адсутнасць іканастаса ў касцёле і наяўнасць некалькіх алтароў звязана з асаблівасцямі заходнехрысціянскага абраду: таямніца Эўхарыстыі ў ім адбываецца на вачах у вернікаў. Алтар першых вякоў хрысціянства — гэта ахвярны стол (па-лацінску — менса, сімвал Апошняй Вячэры) для прыгатавання святых дароў. З раманскіх часоў алтар развіваецца як аздобленая структура з рэтаблем — абразом, ахінутым балдахінам. У XV–XVI стст. у Заходняй Еўропе распаўсюдзіліся гатычныя створкавыя алтары з жывапіснымі і скульптурнымі выявамі. Рэнесанснае мастацтва стварыла некалькі тыпаў алтара на аснове архітэктуры трыумфальнай аркі або порціка (эдзікулы). У эпоху Барока алтары дасягаюць манументальных памераў, набываюць пышнае дэкаратыўнае аздабленне. На Беларусі такія алтары можна ўбачыць у Нясвіжы, Гродне, Пінску, Будславе.

Старажытнае мастацтва нашай краіны заснавана на дзвюх вялікіх хрысціянскіх традыцыях: усходняй (візантыйскай) і заходняй (рымскай). Ад хрышчэння Русі і да XV ст. у нашым сакральным жывапісе пераважала візантыйская іканаграфія. Не выпадкова лічылася, што абраз Маці Божай Трокскай, першы каранаваны ў Вялікім Княстве Літоўскім (1718 г.), быў падараваны вялікаму князю Вітаўту ў 1430 г. імператарам Мануілам Комнінам. Першы віленскі гісторык Тэадор Нарбут прыпісваў візантыйскае паходжанне і славутаму абразу Маці Божай Вастрабрамскай, аднак яго гіпотэза, напэўна, датычыць іншага абраза, змешчанага у 1431 г. на гарадскіх варотах Вільні.

Пасля хрышчэння літоўцаў і ўтварэння Віленскага біскупства (1387 г.) на працягу XV і 1-й паловы XVI ст. у беларускіх гарадах і мястэчках узніклі дзесяткі каталіцкіх святыняў, найбольш на паўночным захадзе (у Крэве, Быстрыцы, Ашмянах, Гродне і інш.), а таксама ў Брэсце і Пінску. У перыяд Контррэфармацыі (XVII ст.) працэс заснавання і будаўніцтва новых касцёлаў ахапіў усе беларускія ваяводствы, разам з тым адбывалася засваенне заходнееўрапейскіх мастацкіх стыляў (рэнесансу, барока) праз Польшчу, але таксама непасрэдна з больш далёкіх краёў. На працягу XVI ст. у алтарных абразах прыкметныя нямецкія ўплывы. У канцы XVI ст. адбываецца пераарыентацыя культуры Вялікага Княства Літоўскага з пратэстанцкіх краін Паўночнай Еўропы на Італію. У Рыме, Падуі і Балоны навучаецца магнацкая моладзь, а таксама дзеячы з езуіцкіх, дамініканскіх, кармэліцкіх і базыліянскіх колаў. Шмат якія абразы Маці Божай у каталіцкіх святынях, што атрымалі вядомасць як цудадзейныя, былі «асвечаны» рымскім паходжаннем. Іх актыўна капіравалі мясцовыя мастакі, надаючы аб-

ліччу Багародзіцы рысы тутэйшых тыпажоў і іканаграфіі. Рэнесанснае мастацтва стала адной з крыніцаў беларускага іканапісу Новага часу, яшчэ выразней яно адбілася на алтарным жывапісе касцёлаў. Аднак сярэдневяковы сакральны змест алтарнага абраза не знік: «Адзігітрыя» засталася самым папулярным іконаграфічным тыпам Маці Божай, а ўзорамі для капіравання служылі такія праслаўленыя абразы, як «Маці Божая Снежная» з рымскай базылікі Санта Марыя Маджорэ ці Чанстахоўская. І не выпадкова, таму што ў канцы XVI ст. гэтага патрабаваў ад мастакоў Сінод каталіцкіх біскупаў.



У час вайны 1654–1667 гг. на Беларусі былі спалены амаль усе касцёлы. Толькі з архіўных вопісаў вядома, што найчасцей у іх стаялі па тры адна- ці двух’ярусныя алтары-трыпціхі (галоўны і бакавыя) з абразамі. З 1-й паловы XVII ст. і пазней месца абразоў на флангах алтароў часта займалі разьбяныя скульптуры святых. Абразы для касцёльных алтароў, як і іконы для царкоўных іканастасаў, на працягу ўсяго XVII ст. маляваліся на дошках па ляўкасе ў тэмпернаалейнай тэхніцы. Паводле традыцыі беларускага іканапісу мастакі часта гравіравалі на фонах раслінны арнамент. Менавіта такім чынам невядомы мастак аздобіў алтарны абраз «Маці Божая Чанстахоўская» з Камаяў, ведаючы, напэўна, што на фоне самога знакамітага пратографа такіх узораў няма.



Чанстахоўскі абраз да 1382 г. знаходзіўся ў валынскім замку Белзе. Легенда прыпісвае яго стварэнне евангелісту Луку, таму гэты абраз шануюць і Праваслаўная Царква і Каталіцкі Касцёл. Праслаўлены ў вайну 1654–1667 гг. абаронай ад шведаў Яснагорскага кляштара паўлінаў і шматлікімі цудамі, абраз асабліва актыўна капіраваўся пасля яго каранацыі (1717 г.). Наколькі часам свабодным мог быць яго паўтор, сведчыць абраз з фундатарскім подпісам 1740 г. з царквы ў в. Аброва на Пінскім Палессі. Улавіўшы хараство арыстакратызм цудадзейнага пратографа, майстар перадаў толькі найбольш характэрныя яго рысы, не імкнучыся да дакладнай копіі. Яркім узорам сінтэзу іканапіснай традыцыі і акадэмічнага, у добрым сэнсе слова, жывапісу з’яўляецца абраз «Каранаванне Багародзіцы», у якім дакладны малюнак і святлоценевая мадэліроўка аб’ёма суседнічаюць з залатым рэльефным фонам і кананічнымі німбамі з граф’ю.

У працы над абразом выкарыстана тэхніка імітацыі чаканеных каштоўных шатаў рэльефам, выразаным па ляўкасе, з пазалотай, серабрэннем, пакрыццём каляровымі лакамі. Магчыма, што так праявіўся народны густ у мастацтве абразоў. Да таго ж, заказчыкі — сяляне — не мелі сродкаў на срэбраныя шаты і майстры чаканшчыкі і пазалотчыкі жылі ў аддаленых гарадах. Не выпадкова на падпісаных металічных шатах часцей за ўсё стаяць шляхецкія імёны. Рэльефныя ж абразы звычайна паходзяць з вясковых цэркваў. Найбольш эфектны і дасканалы ўзор такой мастацкай тэхнікі — абраз «Маці Божая Жыровіцкая» (1755 г.). Пластычныя магчымасці рельефа па ляўкасе паказаў і майстар абраза Хрыста Уседзяржыцеля з Лыскава: на ім фон, шчыльна запоўнены малюн-

камі пазалочаных бутонаў кветак, добра дапасуецца да барочнага стылю жывапісу.

Абразы Маці Божай можна назваць сапраўдным залатым скарбам беларускага іканапісу, не выпадкова многія з іх вядомы як асабліва шанаваныя і нават цудатворныя. Яны ўвасаблялі духоўны і эстэтычны ідэал народа, яго нацыянальны тып, пра што калісьці пісаў найбуйнейшы рускі візантыніст і знаўца іканаграфіі Маці Божай Н. П. Кандакоў. На выставе алтарнага жывапісу, арганізаванай у Нацыянальным мастацкім музеі, найбольш вызначаўся выдатны алтарны абраз Маці Божай з Хоўхлава, у якім проста ўзорна спалучана іканапісная змешаная тэхніка малявання на дошкавай аснове па ляўкасе з заходнееўрапескай іканаграфіяй.

Для XVIII ст. быў характэрны абраз у стылі барока, на палатне, наклееным на дошкавы шчыт. У гэты час павялічваюцца памеры абразоў, становяцца разгорнутымі і дынамічнымі іх кампазіцыі, у якіх з'яўляецца натуральны пейзаж. Абраз сапраўды часам ператвараецца ў карціну рэлігійнага зместу: так, святая Марыя Магдалена паказана на фоне квітнеючай расліннасці. Святая Цэцылія з музычнымі інструментамі магла стаяць у верхнім ярусе алтара касцёла жаночага кляштара, напрыклад, бэнэдыктынак, дзе навучанне музыцы і харавым спевам ўваходзіла ў правіла.

Акт Брэсцкай уніі 1596 г. не ўводзіў ніякіх зменаў у літургію, таму на працягу XVII ст. іх практычна не было і ў інтэр'еры уніяцкіх храмаў. Аднак зрэдку ў новазбудаваных цэрквах ужо ў канцы XVI ст., апрача іканастаса, пры сценах змяшчаюцца архітэктурныя алтары. Масавыя перамены ў інтэр'еры пачаліся



пасля Сабору 1720 г., які наблізіў літургію да Імшы Каталіцкага Касцёла. Перад абразамі Спаса і Божай Маці ў мясцовым радзе іканастаса дастаўляліся менсы, якія выконвалі функцыю бакавых алтароў, царскія вароты расчыняліся, абраз пры ўсходняй сцяне апсіды станавіўся галоўным алтаром. Пры скасаванні уніі ў 1830-я гг. у цэрквах аднаўляюцца іканастасы і разбіраюцца алтары, найперш бакавыя. Фрагменты іх разьбы і скульптуры трапілі на паддашкі храмаў ці званіцаў і ў 1970-я гг. былі вывезены навуковымі экспедыцыямі ў музей.

Даследчыкі мастацтва даўно прышлі да высновы, што першаўзорамі для беларускіх абразоў XVI–XVIII стст. служылі не іканапісныя ўзорнікі («подлинники»), а ліставыя і кніжныя гравюры мясцовага і замежнага друку. Прыкладам можа быць абраз «Нараджэнне Хрыста (Пакланенне пастухоў)» з вёскі Андронава, у якім заўважныя рысы жывапісу паўночнаеўрапейскага рэнесансу. Абраз «Святой у вянку» наглядна паказвае трансфармацыю гравюры ў жывапісе на палатне.

Надзвычай мала захавалася жыційных беларускіх абразоў. Упершыню на выставе змешчаны выдатны абраз «Святы Ануфрый у жыціі» (з Хацiслава, сярэдзіны XVIII ст.), які без перабольшання з'яўляецца унікальным творам не толькі для беларускага іканапісу: апрача яго, у навуковай літаратуры вядомыя яшчэ толькі два абразы з гэтым сюжэтам — з грэчаскага вострава Патмас і з Салавецкага манастыра ў Расіі.

Прадстаўленыя на выставе 33 алтарныя абразы яскрава засведчылі разнастайнасць сакральнага жывапісу Беларусі XVIII ст. і разам з тым іконаграфічнае і стылёвае ўзаемапранікненне іканапісу і алтарнага абраза з храмаў абедзвюх хрысціянскіх канфесій.

*Аляксандр ЯРАШЭВІЧ.*
*Фота з адкрыцця выставы Міколы НОВІКАВА.*
*Фота абразоў з экспазіцыі выставы на 3-й і 4-й старонках вокладкі Зміцера КАЗЛОВА.*

---

**Аляксандр ЯРАШЭВІЧ** — кандыдат мастацтвазнаўства. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Даследуе мастацтва эпохі Барока і гісторыю рэлігіі на Беларусі. Адзін з аўтараў двухтомнага даведніка «Рымска-каталіцкія Кальварыйскія могілкі ў Мінску на Беларусі» (Варшава, 1996, 2000), аўтар кніг «Маці Божая Снежная» ў Беларусі» («Про Хрысто, 2003»), «Абраз Маці Божай Будслаўскай» («Про Хрысто, 2004»), укладальнік і адзін з аўтараў альбома «Музей старажытнабеларускай культуры» (Мн., 2004).

Айцец Юзаф Макарчык, OFMConv



# Айцец Аркадзій Караль Юзаф Вальтась

Постаць айца Аркадзія Вальтася, францішканіна, які жыў у 1916—1975 гадах, прымушае задумацца і здзівіцца многіх людзей. Ён быў святаром і мастаком. Я ж — як яго паслядоўнік у гродзенскай францішканскай парафіі — спрабую бліжэй прыгледзецца да яго жыцця і дзейнасці, і мяне здзіўляе ўсё, што ён стварыў, і кім ён быў. Для працы над артыкулам пра айца Вальтася я шукаў матэрыялы ў архівах айцоў францішканаў у Гродне, Кракаве, Лодзі, але ніякіх асобных публікацый пра яго не знайшоў. Галоўныя звесткі знаходзяцца ў персанальнай справе, якую айцец Аркадзій прывёз з сабою пры паступленні ў Ордэн айцоў францішканаў (яна захоўваецца ў Кракаве).

Караль Юзаф Вальтась нарадзіўся 21 чэрвеня 1916 года ў Львове ў каталіцкай сям'і Войцеха і Ганны, у дзявоцтве Рыбы. Быў ахрышчаны 2 ліпеня таго ж года ў парафіяльным касцёле святога Антонія Падуанскага, атрымаўшы імя Караль Юзаф. Яго хроснымі бацькамі былі Яцак Ракочы і Магдалена Лончка, сакрамэнт святога хросту ўдзяляў ксёндз Зыгмунт Галуневіч. З персанальнай справы можна даведацца імёны дзядоў айца Аркадзія: з боку маці — Францішак Рыба і Вікторыя Бахэнак, з боку бацькі — Лаўрэнці Вальтась і Ганна Ямалаў.

Сям'я Караля жыла ў Львове на вуліцы Выспянскага, 22. Бацька працаваў прыбіральшчыкам у Фінансавай палаце. У Караля былі два браты і сястра. Сям'я Вальтасяў жыла з зарплаты бацькі, якая складала 50 злотых, і з 200 сажняў агароду. Маці займалася домам і выхаваннем дзяцей.

У 1922 годзе Караль пачаў вучыцца ў Публічнай мужчынскай усеагульнай школе імя святога Антонія ў родным горадзе Львове. У тым жа годзе памёр яго бацька. Малы Караль вельмі перажыў яго смерць, што і стала прычынаю выбару далейшай жыццёвай дарогі.

Пасля смерці бацькі матэрыяльнае становішча сям'і пагоршылася, але з дапамогаю кляштара айцоў францішканаў у Львове Караль закончыў агульнаадукацыйную школу (на пасрэдна).

Ужо ў першым класе школы Караль адчуў пакліканне да святарства. У аўтабіяграфіі-заяве ў Ніжэйшую семінарыю айцоў францішканаў у Непакалянаў ён напіша, што смерць бацькі стала для яго штуршком, праз які ён зразумеў, што хацеў бы служыць Пану Богу.

Пасля заканчэння сёмага класа ён быў залічаны ў семінарыю, хоць яму не хапала грошай на аплату за навучанне (сума аплаты была 50 злотых). 16 верасня 1929 года ён пачаў вучыцца.У тлумачальным лісце, інфармуючы прыём у семінарыю, айцец Віталіс Яскевіч так піша пра Караля: «Галоўнае, што ёсць жаданне прысвяціць сябе служэн-



Аўдыенцыя ў папы Паўла VI.

ню Пану Богу ў нашым Ордэне». Караль, прыехаўшы ў Непакалянаў, меў пры сабе даведку ад львоўскага старасства, што ён на правах убогіх вызваляецца ад гербавых збораў.

Навучэнцы Ніжэйшай семінарыі амаль усе ўступалі ў Ордэн, і 12 ліпеня 1933 года Караль таксама напісаў просьбу на імя айца правінцыяла, каб яго прынялі ў Ордэн айцоў францішканаў. Сваю просьбу Караль матывуе так: «Адчуваючы ў сабе місійнае паклікан-не, звяртаюся з просьбай прыняць мяне ў навіцыят айцоў францішканаў. Я скончыў сем класаў у Ніжэйшай місійнай семінарыі ў Непакалянаве і маю 17 гадоў. Караль Вальтась».

Неўзабаве ён атрымаў адказ наступнага зместу: «Мой дарагі! Адклікаючыся на Тваю просьбу, прымаю цябе ў наш Ордэн. Каб толькі Бог даў табе сілы і мужнасці ў манаскім жыцці, каб быў ты годным Рыцарам Той, Якая цябе ў сваю „Сядзібу” запрасіла. Маю ў Богу надзею, што ласку паклікання не змарнуеш, яле нават яшчэ больш умацуеш. Няхай святы Францішак прытуліць цябе ў сям’і сваіх братоў. Прыязджай у Непакалянаў у вызначаны тэрмін, там табе скажуць, што трэба рабіць далей. *Deus Te benedicat!*»

14 ліпеня 1933 года ён быў далучаны да правінцыі айцоў францішканаў і ў час абраду аблучынаў атрымаў імя Аркадзій.

Якім ён быў братам у навіцыяце? Ёсць такі парадак функцыянавання ў навіцыяцкім жыцці: магістр піша характарыстыку сваім падапечным. Айцец Ежы Вердак, магістр навіцыяту, у першым квартале 1933 года заўважае ў брата Аркадзія наступныя рысы: «...вясёлы, паслужлівы, ветлівы, пабожны, дасціпны, апроч некаторых дробязяў, усё ў яго добра». У другім квартале 17.03.1934 г. айцец магістр зрабіў такі запіс: «Здаровы, вясёлы, абавязковы. Агульнае развіццё добрае». У трэцім квартале кароткі запіс: «Ніякіх заўвагаў няма». У канцы, 21.08.1934 г., занатавана наступная выснова: «Агульны паступ вельмі добры. Можна яго дапускаць да прафесіі».

2 верасня 1934 года брат Аркадзій звяртаецца з просьбаю да айца правінцыяла аб допуску да складання першых манаскіх шлюбаў: «Найвялебнейшаму айцу правінцыялу Ордэна Братоў Меншых Канвентуальных у Польшчы. Я, ніжэйпадпісаны брат Аркадзій Вальтась, навіцый-клерык Ордэна Братоў Меншых Канвентуальных, пакорна прашу дазволіць скласці прафесію. Адначасна завяраю, што з усёй свядомасцю і абсалютна дабравольна хачу прысвяціць сябе назаўсёды служэнню Богу як будучы святар у вышэй названым Ордэне. Непакалянаў, 2 верасня 1934 года, брат Аркадзій Вальтась, навіцый-клерык».

Паводле правілаў Ордэна, усе святары, якія належалі да кляштара, сустракаліся на так званай кляштарнай капітуле і там праводзілі тайнае галасаванне за кандыдата на так званую балатацыю. У час балатацыі на складанне першых шлюбаў, якая адбылася 23 жніўня 1934 г. у мясцовым кляштары, брат Аркадзій атрымаў ад шасці галасуючых шэсць станоўчых (белых) шарыкаў, гэтак жа і калі галасавалі ў Правінцыйнай радзе, ад чатырох галасуючых атрымаў таксама чатыры станоўчыя — белыя.

21 лістапада 1935 г. перад Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіяй, скліканай Акруговым аддзелам адукацыі ў Львове, брат Аркадзій здаў экзамен і з 1935 года пачаў вучыцца ў семінарыі.

У *Collegium Leopoliense* ён вывучаў філасофію і ў канцы акадэмічнага года атрымаў наступныя ацэнкі: логіка — вельмі добра, крытэрыялогія — добра, анталогія — добра, касмалогія — здавальняюча, тэадыцэя — здавальняюча, этыка — здавальняюча, гісторыя антычнай філасофіі — вельмі добра, гісторыя сярэднявечнай філасофіі — здавальняюча, гісторыя сучаснай філасофіі — здавальняюча, грэцкая мова — добра. Рэктарам калегіума быў айцец доктар Віталь Яскевіч.

З 1936 года пачынае вывучаць тэалогію ў Кракаве (чатыры курсы тэалогіі знаходзіліся ў Кракаве, а філасофія і пяты курс тэалогіі знаходзіліся ў Львове). Разам з братам Аркадзіем вучыліся 17 клерыкаў: Яхім Дэмбак, Юзаф Тавінскі, Эміль Зяралка, Сарафін Заега, Фульгент Бонк, Густаў Цісак, Эпіфаній Сліва, Апалоній Жынаць, Вітальд Серадскі, Леанард Пэнар, Ізыдор Козьбял, Цырыль Настальскі, Ірэнэвуш Жаўнерчык, Іва Томчык, Уладзіслаў

Нетаровіч, Пшэмыслаў Егяльніцкі.

16 ліпеня 1939 года пасля заканчэння трэцяга курса тэалогіі а. Аркадзій прыняў у Кракаве святарскае пасвячэнне. На прыміцыйным абразку ён змясціў надпіс:

«Дазволь мне хваліць Цябе, о Найсвяцейшая Панна! Памятка Першай святой Імшы, якую адправіў айцец Аркадзій Караль Вальтась, францішканін. Львоў—Кракаў, 1939».

Яшчэ ў семінарыі ён ілюстраваў часопіс для моладзі «Bratni Zew».

Да яго добра адносіліся і клерыкі, і выхавацелі. 30 кастрычніка 1937 года магістр айцец Войцех Змаж пісаў пра яго так: «Спакойных паводзінаў. Паслушны і сумленны ў выкананні абавязкаў. У адносінах да кіраўнікоў і субраццяў ветлівы і далікатны. Да навукі мае пасрэдныя здольнасці, мае выключныя здольнасці да графікі і малюнкаў. Ад прыроды слабога складу, але на здароўе не скардзіцца».



Прыняўшы святарскае пасвячэнне, айцец Аркадзій паўтары гады прабывае ў кляштары ў родным Львове, а пасля Вялікадня яго пасылаюць у кляштар у Гродна. Гродзенскі канвент у 1939 годзе меў наступны склад: а. Гадрыян Ледухоўскі, гвардыян і пробашч, а. Інацэнт Гуз, а. Ціт Стшалевіч, а. Цэцыліян Рудніцкі, а. Ахілес Пухала, бр. Раймунд Казьмерчак, бр. Тэадор Бартчак, бр. Эгідзій Сэйфарт, бр. Станіслаў Карнатка.

23 верасня 1939 г. Гродна займае савецкае войска, і ў кляштары робяць ваенны, а пасля гарадскі шпіталь. Манахі ў гэты час жылі ў прыватных дамах. Персанальны склад кляштара змяніўся і выглядаў так: а. Дыянізій Клімчак, гвардыян і пробашч, а. Інацэнт Гуз, а. Крыштаф Гурэцкі, а. Ціт Стшалевіч, а. Цэцыліян Рудніцкі, бр. Раймунд Казьмерчак, бр. Язафат Гэйнар, бр. Тэадор Бартчак. 22 чэрвеня 1941 г. у горад уступае нямецкае войска. Помсцячы за забітых нямецкіх афіцэраў, 16 ліпеня 1943 г. гестапа расстраляла ў Навумавічах некалькі дзесяткаў заложнікаў, сярод якіх знаходзіўся гвардыян і пробашч гродзенскі а. Дыянізій Клімчак. З таго часу персанальны склад у кляштары змяняўся ў залежнасці ад сітуацыі на фронце. Айцец Аркадзій быў вікарыем у парафіі.

У выніку рэпрэсій нямецкіх уладаў 2 кастрычніка 1943 г. ён быў арыштаваны і змешчаны ў турму, спачатку ў Гродне, а пасля ў Беластоку. Вызвалены 7 красавіка 1944 года.

Пасля расстрэлу айца гвардыяна айцец правінцыял Маўрыцы Мадзурак назначыў гвардыянам і пробашчам у Гродне айца Тытуса Стшалевіча. Калі набліжаўся фронт, айцец Аркадзій паехаў да пробашча парафіі Святой Тройцы ў Індуры, недалёка ад Гродна, і жыў там. Аднойчы ён прапанаваў а. Тытусу вярнуцца ў Польшчу, бо савецкая ўлада ніколі не згадзілася б на тое, каб былі два святары ў адным касцёле. У выніку айцец Тытус Стшалевіч у канцы 1946 года выехаў у Непакалянаў.

Пачаўся нялёгкі час для айца Аркадзія, заклапочанага душамі даверанай яму аўчарні — парафіі Маці Божай Анёльскай на прадмесці Гродна. Абслугоўваў ён і парафіі ў Квасоўцы і Капцёўцы, а таксама каля 30 вёсак, параскіданых навокал на адлегласці дзесяткаў кіламетраў. Цяжка зразумець, як можна было працаваць у такіх умовах... Тысячы хростаў, споведзяў, візітаў да хворых, сотні пахаванняў і шлюбаў... Да таго ж трэба было выязджаць у іншыя парафіі, як, напрыклад, у Слонім 19 красавіка 1954 года, каб адправіць там святую Імшу. Здаралася, што савецкія ўлады не дазвалялі такія паездкі, напрыклад, 25/26 снежня 1968 г. забаранілі паездку ў Начу на правядзенне Літургіі Божага Нараджэння.

У Гародні ў той час было два святары: кс. дэкан Міхал Арановіч — генеральны вікарый, і наш герой, якога вельмі любілі людзі. Зрэдку яго наведвалі браты францішкане: бр. Аўгустын Кісялеўскі, Міхал Урублеўскі, айцец Каміль Валыманскі і іншыя.

Айцец Аркадзій вельмі перажываў смерць мамы, якая жыла пры ім з 1946 года і была для яго найбліжэйшым чалавекам. Памерла яна 23 лістапада 1965 года ва ўзросце 93 гадоў. Пахаваная на францішканскіх могілках, за 2 кіламетры ад касцёла (пры цэнтральнай алейцы, якая вядзе да капліцы).

Незабыўным здарэннем яго жыцця было падарожжа ў Італію. Айцец Флавіян Славінскі, які працаваў у Калегіі пенітэнцыярыяў, прыслаў яму запрашэнне. Айцец



Аркадзій, збянтэжаны і здзіўлены, са страхам пайшоў у Аддзел па справах рэлігіі, каб спытаць, што яму рабіць. Адказалі: ехаць! Ён без перашкодаў атрымаў пашпарт і дазвол на пакупку пяці даляраў на кожны дзень побыту за мяжою.

Прыехаў у Рым 12 студзеня 1968 года. Пасяліўся ў Генеральнай курыі OFMConv на вуліцы 12-ці Апосталаў, 51. Там сустрэўся з а. Базылём Гэйсарам — Генералам Ордэна, з а. Альфонсам Орліхам — экс-генералам, з а. Абатам — гісторыкам Ордэна, з а. Тацанэлем — дэканам Латэранскага універсітэта, з а. Аўгустам Расінскім — генеральным асістэнтам, і з а. Флавіянам, які яго запрасіў у Рым. Галоўнай падзеяй візіту была сустрэча са Святым Айцом Паўлам VI — на памятнай фатаграфіі а. Аркадзій укленчыў каля ног Папы, а збоку стаіць а. Паўлін Сатоўскі.

Айцец Аркадзій наведаў таксама Асізі, Падую, Фларэнцыю, Венецыю і іншыя гарады Італіі. На зваротным шляху ён спыніўся ў францішканаў у Вене. У пятніцу 1 сакавіка вяртаўся праз Варшаву і затрымаўся ў Правінцыяльнай курыі. Наведаў сваякоў у Чэнстахове і Вроцлаве. У пятніцу 8 сакавіка 1968 года вяртаўся цягніком, выехаўшы а 7-й гадзіне раніцы з Гданьскага вакзала ў Варшаве, усцешаны і задаволены, хоць ведаў дакладна, што, як вернецца, пачнуцца допыты, праслухоўванні і бясконцыя падазрэнні...

Я ўжо згадваў, што айцец Аркадзій меў талент мастака. Калі ён быў клерыкам, гэта заўважыў айцец Войцех Змаж, які запісаў у характарыстыцы: «Мае выключныя здольнасці да малюнкаў і графікі».

Маляваў у семінарыі, рабіў ілюстрацыі да часопіса моладзі «Bratni Zew». Часам хадзіў з сябрамі на пленэры маляваць эскізы з натуры, такіх пейзажаў захавалася больш за трыццаць (некаторыя знаходзяцца ў яго сяброў і знаёмых). Вялікім творам, які ён пакінуў, з'яўляюцца 14 стацый Крыжовага шляху ў касцёле Маці Божай Анёльскай у Гродне.

У 1952 годзе айцец Аркадзій правёў рамонт касцёла, які ў Другую сусветную вайну быў знішчаны на 16,03% (паводле акта ацэнкі ад 03.03. 1945г.). Сам намаляваў на столі біблійныя сцэны, праводзячы шмат часу на рыштаваннях. Кошт рамонту склаў 7930 рублёў за выкананне працы і 1388 рублёў 66 капеек за матэрыялы. Увесь кошт склаў 11676 рублёў.

Вялікае мастацкае дасягненне айца Аркадзія — атрыманне першага месца на Усесаюзным конкурсе «Голуб міра». З усяго Савецкага Саюза менавіта яго твор быў прызнаны лепшым! Дзяржаўныя ўлады спачатку не ведалі, што пераможца конкурсу — каталіцкі ксёндз, калі зарыентаваліся, было позна: улады БССР знайшлі выйсце: дамовіліся з айцом Аркадзіем, што ён не паедзе па ўзнагароду ў Маскву «з прычыны хваробы»...

Яго галубок быў не падобны да іншых, не такі выразны: яго сілуэт расплываўся, зліваўся з блакітам неба...



Айцец Аркадзій меў мастацкую адукацыю: працуючы святаром, ён вучыўся ў Інстытуце выяўленчага мастацтва ў Львове, а калі працаваў у Гродне, закончыў завочна Народны універсітэт мастацтваў,

факультэт жывапісу і графікі, і 26 кастрычніка1963 года атрымаў дыплом з добрымі адзнакамі. Няма нічога дзіўнага ў тым, што ён не мог праходзіць абыякава каля разбураных касцёлаў. У Гродне, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, усё, што мела дачыненне да рэлігіі, планавалася на знішчэнне. Вялікім ударам для гродзенскай культуры стала разбурэнне найстарэйшага каталіцкага касцёла, фундатарам якога быў вялікі князь Вітаўт у 1392 годзе. Праз некалькі гадоў пасля гэтага варварства айцец Аркадзій асмеліўся напісаць пра яго дзяржаўным уладам. Які быў іх адказ, можна здагадацца...

У цяжкія часы для Касцёла пры ўладзе камуністаў айцец Аркадзій працаваў, кіруючыся разважнасцю, не сядзеў бяздзейсна, спасылаючыся на цяжкасці. Стварыў касцёльны хор моладзі, быў яго дырыжорам і акампаніятарам.

Пан Бог надзяліў айца Аркадзія і канструктарскімі здольнасцямі. Разумеючы, што дзяцей і моладзь можна прыцягнуць у касцёл вынаходніцтвам, ён сканструяваў рухомую батлейку да свята Божага Нараджэння, адзіную такую ў Беларусі, якая была ў Гродне захапленнем і здзіўленнем. Улады адразу забаранілі пускаць яе ў рух, але ўсё роўна яна прыцягвала ўвагу майстэрскай работай, прыгожымі фігуркамі, якія ён выканаў сам. Меў шмат іншых практычных здольнасцяў: умеў лятаваць, рамантаваў гадзіннікі, ведаў радыётэхніку.

Калі айцец Аркадзій не меў магчымасці выконваць душпастырскія абавязкі або хацеў крыху адпачыць, ён выпраўляўся на паляванне: так называлася яго прабыванне на ўлонні прыроды. Тым не менш, з 20 сакавіка 1972 года ён меў зброю і быў сябрам Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў, якому рэгулярна плаціў узносы. Пад канец жыцця зброю а. Аркадзій перадаў у міліцыю, а членскую кніжку падараваў Фрыдрыху Занеўскаму з Гродна, які перадаў яе ў архіў айцоў францішканаў у Гродне.



Айцец Аркадзій пайшоў да Пана ў 59 гадоў. Адбылося гэта 16 снежня 1975 года. Хварэў на цукровы дыябет, меў павышаны ціск, артэрыяльны склероз, двойчы перанёс сардэчны прыступ. У пасведчанні аб смерці запіс пра яе прычыну такі: хвароба павышанага ціску ў форме мозгава-сэрцавай недастатковасці. Месяц павінен быў ляжаць у ложку, нягледзячы на хваробу, уставаў, прасіў завесці яго ў касцёл, каб праводзіць св. Імшу, спавядаць, удзяляць іншыя сакрамэнты. Жыў на вуліцы Краснапартызанскай, тут і памёр, атрымаўшы святыя сакрамэнты. У 21 гадзіну яго цела было перанесена ў касцёл. Вестка хутка разляцелася па горадзе. Людзі плакалі. У сераду 17 снежня ў 5.30 раніцы адчынілі касцёл для развітання. Вернікі прыходзілі аж да 23.30, каб ушанаваць яго памяць і падзякаваць Богу за яго трыццацігадовую працу. У чацвер 18 снежня а 12-й гадзіне адбылася пахавальнае набажэнства. 30 святароў, сярод якіх быў францішканін з Меднікаў айцец Каміл Валыманскі, праводзілі святую Імшу і пахавальную працэсію. Крыж, два ліхтары і тры чорныя харугвы пачыналі працэсію каля 8 тысячаў вернікаў. Дзяржаўныя ўлады выдзелілі для пахавання шэсць аўтобусаў. Міліцыя ахоўвала парадак. Пахавалі айца Аркадзія на могілках каля Азота, бо ў той час было забаронена хаваць на францішканскіх могілках. З роднай правінцыі святога Антонія і благаслаўлёнага Якуба ніхто не прыехаў, як і з правінцыі Маці Божай, у якой ён працаваў. 16 студзеня 1976 г. у базыліцы ў Непакалянаве за душу святой памяці айца Аркадзія была канцэлебраваная ўрачыстая св. Імша, у якой шматлюдна ўдзельнічалі айцы правінцыі Маці Божай, на знак пашаны і сардэчнай памяці.

У Кракаве, у Базыліцы Меншай імя святога Францішка, 10 лютага 1976 года а 11-й гадзіне таксама адбылася жалобная святая Імша за душу памерлага.

Аркадзій Вальтась быў падобны да іншых духоўных асобаў, якія ніколі не адчайваліся ў цяжкія часы і не хаваліся ад людзей. Не аднойчы яны адчувалі небяспеку, але ішлі да вернікаў, каб перадаваць ім святло Евангелля. Свае здольнасці і талент яны не загубілі, але змаглі нават памножыць.

*Пераклад з польскай мовы*
*Дануты Бічэль.*

Алесь Чобат



**Алесь Чобат** нарадзіўся 23 жніўня 1959 г. у мястэчку Скідзель. У 1981 г. скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут у Мінску. З 1994 г. належыць да Саюза беларускіх пісьменнікаў, а з 1995 г. — да міжнароднага PEN-клуба. Напісаў кнігі паэзіі «Год» (1992), «Новая Галілея» (1995), «Тутэйшая Сага» (2000), «Край мой шчаслівы» (2007), а таксама кнігі па аналітычнай гісторыі Беларусі «Зямля святога Лукі» (2002; польскі пераклад 2003) і «Легенда пра чатырох мушкецёраў» (2004). Пераклаў з польскай мовы кнігі Аўгустына Орфэя «Святы Ян Боска» (1993), Чэслава Мілаша «Тое» (2006) і разам з Д. Бічэль — кнігу «Караль Вайтыла. Паэзія. Выбранае. Ян Павел ІІ. Рымскі трыпціх» (2003). Жыве ў Скідзелі.

*Віншуем Алеся Чобата з паўвекавым юбілеем і жадаем шчодрай Божай ласкі, натхнення і плёну на другога шчаслівага паўвеку!*

# Малітва да Маці Божай Тракельскай

Маці Божая,
снежная, чыстая, светлая
вясковая Матка,
побач дарогі адвечнай
стаіць Твой касцёлік, малая хатка,
стаіць непахісна, чыста, урачыста,
стаіць на месцы гадоў чатырыста —
ідуць вясковыя цёткі Цябе прасіць
тым самым шляхам з той самай патрэбай,
няма ў іх нікога бліжэй да Неба
ў Тракелях пад Лідай —

век за векам з той самай малітвай
ідзе да Цябе просты люд жаночы,
як да Суседкі,
і хустачкай выцірае вочы,
а слёзкі ўсё роўна як дождж рэдкі —
трэба ж і простаму люду
простага цуду.

Цёткі не чулі і чуць не хочуць,
адкуль мастак па імені Пенс
і які прыхаваны мастацкі сэнс
у Тваім абліччы,
кожнаму твору кожны сэнс лішні —
там, дзе ёсць вера
і да Маці Божай адчынены дзверы.

Што было і чаго не было,
зло прайшло ці зло не прайшло,
але вера ў дабро мацней
у сэрцах простых людзей —
тыя людзі ніколі не чулі
пра гісторыю, этнас, соцыюм, логіку,
чулі лямант начальнікаў і алкаголікаў,
свет вісіць вось так, як вісіць,
і таму ідуць да Цябе —
прасіць,

проста страшна, як усё проста:
Маці Божая — Маці Просьбы.

Гэта прага ўсё рушыць, ламае —
прагнуць вечнага шчасця
ці перавярнуць гэты свет —
просьба шчырая, бо заўжды малая:
каб да смерці ў яму не ўпасці,
каб дзяцей не згубіўся след,
каб мужчыны хоць як шкадавалі, любілі,
не пілі, а рабілі,
не цягаліся за выгодай часоваю,
не хаваліся ў злосці ад сораму,
не кідалі дзяцей — як марнуюць рублі,
і людзьмі аж да смерці былі.

Гэта прага ляціць атакай —
мне належыць, бо я хачу! —
просьба ходзіць разам з падзякай:
Маці Божая, зрабі ласку,
адраблю Табе, заплачу,
бо я не за сябе — за сына,
бо такая цяпер часіна,
беспрасветны лёс, як імгла —
і ці я калі б так прасіла,
каб сама дабіцца магла?!

Маці Божая,
свойская, простая, блізкая,
апякуешся Краем вясковым,
тут гадоў чатырыста анічога новага,
летам душна, зімою слізка,
вясна шалу зялёнага,
        восень чырвонай замеці,
толькі хаты другія, а людзі ў той самай памяці,
хто пакуль што яшчэ жывы —
бо паехалі дзеці і ўнукі
хто па грошы, хто да навукі,
і ў Цябе апускаюцца рукі,
і душа ціcне ў сэрца —
ці не ўсё зараз пойдзе дарма?! —
бо кругом,
        кругом лезуць
з магілаў халодныя гукі:
«няма вёскі — і веры няма».

Кожны целу здабытак
        душы адліваецца стратай —
і сталічны касцёл зараз будзе тэатрам,
куды ходзяць саветы ад суму ў пустыя нядзелі,
што Ты зробіш...
        Тут Мінск — не Тракелі.
У сталіцы так холадна душам,
як ідзе за зімою зіма.
Няма вёскі — і веры няма.

Маці Божая,
правінцыйная, прыдарожная,
Гаспадыня святой цішыні,
прыгарні пераеханы люд запалошаны,
ад шаленства абарані,
дай надзею яму пра сябе не забыць,
дай дзень летні да вёскі вярнуцца,
у спакоі пабыць,
у маленстве прачнуцца,
у тым свеце прыгожым, якога на свеце няма...

Маці Божая ў Тракелях,
Ты ўсё можаш сама.

Бо такая ў Цябе ўсталявалася вера па вёсках...

Тут не смерць — тут яшчэ толькі восень,
наша вечная восень, як перад вайной,
на падворку бясснежань і чорны трывожны спакой,
і сумнеў душыць душы ўвесь тыдзень і па нядзелях —
таму верым, што свет непарушны,

наша вера ў Тракелях,
там Сястра Вастрабрамскай Марыі
        даўно пераехала з Вільні,
са сталіцы на вёску, каб не быць у каменнай магіле,
наша вера ў Тракелях пад хмаркамі над галавой,
наша вера ў Той Маці —
        прыгожай і самай жывой.

*Чэрвень, 2009 год*

Мар’ян Дукса



**Мар'ян ДУКСА**
нарадзіўся ў 1943 г.
у вёсцы Каракулічы на Мядзельшчыне.
Выдаў зборнікі вершаў
«Спатканне», «Крокі», «Станцыя»,
«Прыгаршчы суніц», «Забытыя словы»,
«Зона супраціўлення»,
«Твая пара сяўбы»,
«Заснежаныя ягады»,
«Горн прымірэння»,
«Прыйсці да алтара».
Лаўрэат Літаратурнай прэміі
імя А. Куляшова.
Жыве ў Солах.

## НЕВЫПАДКОВЫЯ РЭФЛЕКСІІ

Пакінь дакоры — асядлай свой лёс,
сваіх надзей не прызнавай крушэння.
Не ўцеха ўласны лёс, а ён — служэнне
святыням вечным людства і нябёс.
Не павадыр сляпых і кволых лёс,
хто высілкі за пазухай трымае.
Вядома ж, лёс — не лінія прамая.
Які ж ён, лёс, калі не зведаў слёз.
А стому сэрца, рук і збітых ног
не палічы прыкметаю няўдачы.
Каму служыў ты — гэта Бог убачыць.
Твой плён узважыць справядлівы Бог.
Твой светлы час нікуды не збяжыць.
Наш лёс — не падарункаў паднашэнне.
Лёс суцяшэнне, калі ён — служэнне.
А хто пазбавіць радасці — служыць?

* * *

Лёс праспяваў па выпадковых нотах.
І родных, і сяброў — амаль няма...
Палац халаднаваты адзіноты
стаіўся ў цішыні, нібы турма.
А усё-ткі не глухі ён, як вязніца,
не цісне цяжкім каменем бяды.
Нябесных песняў чыстая крыніца
сюды цячэ з птушынай чарады.
Няма знаёмых штурхатліва-дужых,
і капытамі не лягаюць дні.
Усё сплыло — ні галасоў дасужых,
ні рэха ад вялікай валтузні.
Усё як страціш — плачаш ад самоты.
Ты не спасцігнуў радасці сваёй.
Галоўнага не страціш — адзіноты,
а мусіць, Бога як найбольш у ёй.

* * *

Як моцна можам мы сябе здзівіць,
калі адвергнуць правілы святыя
і на імгненне толькі уявіць,
што над зямлёй нябёсы ўсе пустыя.
Душу адразу роспач устрасе,
яе адчай запоўніць небывалы —
не Боскі цуд галактыкі усе,
а проста гэта ззяюць мінералы.
Як думку гэту ставіць нам на кон,
з ёй згодзіцца хіба вар'ят адпеты:
Не Бог, а самі вынайшлі закон,
як рухацца, «дасужыя» планеты...
Якая скруха пройдзе па душы,
самота распаўсюдзіцца якая,
калі ўявіць: у зорнай той глушы
ніхто не любіць нас і не чакае.

* * *

*У апошнія гады ў Беларусі*
*адбылося каля 3 тысяч суіцыдаў...*
Паводле афіцыйнай статыстыкі.

Спакой улюбёны паруш,
і праўда да смутку вяртае.
Амаль што тры тысячы душ
гвалтоўна штогод адлятаюць.
Чаму адлятаюць, чаму
на фоне начэй і дасвеццяў?
Адчайна спазналі зіму
усіх расхалоджаных сэрцаў?
Глядзіце — вунь зноў паплылі
кудысьці у спрэчную вечнасць —
адчулі адну на зямлі
аглухлую ўжо бессардэчнасць.
Ці думак благіх саранча
стачыла душу, як адзенне.
Ніхто не падставіў пляча,
ніхто — у хвіліну падзення.
Гуляем у шоў, лато,
сваіх не мяняючы планаў.
Дарэмна не плача ніхто,
прыліпшы да хатніх экранаў.
А тыя, хто кволы й нядуж,
няхай на сябе наракаюць...
Амаль што тры тысячы душ
ад нас чым далей уцякаюць.

* * *

Табе, матуля, вечная хвала
за немаўлят, якіх ты любіш гушкаць.
Ды... вылятае куля са ствала —
і падаюць і Лермантаў, і Пушкін.
І без журбы на белы свет глядзяць,
трымаюць позу маладыя франты.
Дамоўленыя крокаў дваццаць пяць
адлічваюць спакойна секунданты...
Звініць мячоў бравурных гулкі стук,
ірвуцца коні, іх імпэт вялікі.
Жадаючы спыніць ягоны стук,
лятуць у сэрца рыцарскія пікі.
Вось ты стагоддзяў некалькі разгроб —
глядзі: з прычыны важнай ці не важнай
калоны дзве сышліся лоб у лоб,
каб сутыкнуцца ў бойцы рукапашнай.
Які ён дзіўны, перамогі хмель,
які салодкі дзікі смак ягоны.
Не мае сілы скасаваць дуэль
яго вялікасць — чалавечы гонар.
Ён нішчыў нас і сеяў гвалт спакон,
ухвальваючы ўсе зямныя сечы.
Які ён люты, фанабэрны ён,
апеты намі, гонар чалавечы.

* * *

*Сыходзіш, вёска, з яснай явы...*
Янка Купала

Агонь акна яшчэ адзін патух...
Пашырыліся могілкі людскія.
Тут смутак гаспадарыць, а наўкруг
запанавалі дачы гарадскія.
Бязлюдныя пагоркі й паплавы,
што колішнімі гладжаны рукамі.
Між хваляў хлебаносных — астравы,
якія клічуць аграгарадкамі.
Яны ўжо засвяціліся ўначы
і, можа, не патухнуць аніколі,
у вёскі адабраўшы ўсе ключы
ад той зямлі, што бачна ў наваколлі...
Ці варта вёску ўпарта цыраваць,
куды лістоў ужо не носіць пошта.
Ці трэба нашу вёску ратаваць,
прыпадымаць на ногі — а навошта?
Апроч самотных некалькіх удоў,
вясенняга ад птушак шматгалосся,
апроч здзічэлых сцежак і садоў,
нічога ў ёй ужо не засталося.
Яе няма ці ўсё яшчэ жыве,
турысты, вы спытайцеся у гіда...
Нібы ў вадзе, схавалася ў траве
былая вёска — наша Атлантыда.



**Сяргей ПАНІЗЬНІК**
(псеўданім Сяргей Папар) нарадзіўся 10 траўня 1942 г. у вёсцы Бабышкі Мёрскага раёна Віцебскай вобласці. Друкуецца з 1959 г. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1967 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Кастры купалля» (1967), «Палявая пошта» (1972), «Крона надзеі» (1975), «Чало і чалавек» (1979), «Слова на дабрыдзень» (1982) і інш. Апублікаваў кнігі дакументальнай прозы «Пасля вогненных вёсак...» (1980), «Браніслава» (1985), «Освейская трагедия: Книга народной памяти» (1992). Піша таксама для дзяцей. Узнагароджаны медалём імя Ф. Скарыны (1991). У 2000 г. узнагароджаны Літаратурнай прэміяй імя Уладзіміра Калесніка за публіцыстычную творчасць, ідэю стварэння і падрыхтоўкі выдавецкай серыі «Бацькаўшчына».

Сяргей ПАНІЗЬНІК

# НАС — МНОГА!
## (завершыкі)

* * *

Нас — многа! Я спадзеўна разважаю
пад зоркавым прасеяным жытлом.
Сваю планіду ночкай не звужаю.
Нас многа... І ў Міжзор'і я мужаю
і памнажаю зрок яго святлом.
У сполахах — разгуба і трывога,
зіркатыя зарніцы — ў слепаце...
А тут, дзе зорных галасоў так многа, —
павернута жыццё ўпрытык да Бога
і не відаць канца яму нідзе.

* * *

*Айцу Аляксандру Надсану*

Мацерыкі прымаюць Сонцабег,
каб мы ўспамінамі маглі сагрэцца,
каб незабытнасць гадавалі сэрцы
і поўніліся словамі суцех.
Не пойдуць у разбег мацерыкі.
Прылашчыць Сонцабег свае сумежжы —
і выявіцца, што мы ўсе належым
да аднае Любові. На вякі!
Мы самі — сонцабежныя кругі —
разлеглыя злучаем берагі.

* * *

У Бога дзве далоні — дзень і ноч.
Прыходзіць ноч, нясе далонь да лона...
І я схіляю голаў для паклона,
каб новы дзень мой не прабег наўзбоч.
А дакранецца додня даланя —
прымаю промні, блаславенне дня.
Хай радуецца Вышняя карона!

* * *

Калі б не сонца — засень
вятрылася ў гняздо.
Калі б не ліпа — ясень,
калі б не я, то хто
пад сонцам стаў, пад вецер
і месца на планеце
прытульнае агледзеў...
Я выбраў шлях з Хрыстом,
з Яго крыжом-наследдзем,
з Яго псалмом-прасвеццем...
...Іду з бязвернай клеці
ў Яго бязмежны Дом.

* * *

Сябры па Духу і Братэрству,
увесь я ваш.
Любоў вядзе не да пратэсту,
не на кірмаш,
а да суладдзя, палагоды,
да еднаты.
Так, я з табой, Анёлак згоды.
Са мною — ты.
Паласкавею ў прытуленні
вясны жывой.
Дух у братэрскім прамаўленні —
канвы сувой.
Сябры сяўбы, сябры аздобы —
аховы круг.
Няхай любові ізатопы
натхняюць рух
да свята радаснай сустрэчы
без воглых сцюж.
...Чакаю. Вось і чуйны вечар
для родных душ.

* * *

Не падганяй гадоў наплывы:
на ўсё свой час.
І дзень імклівы
цябе агорне і ўзнясе.
Не ты адзін ля цёплай грывы:
ляцім, шчаслівыя, мы ўсе.
Каб не было пустоты ў працы, —
не будзем у прагал вяртацца.
Нам трэба з Брацтва нараджацца —
іскрынкамі ў густой расе.
Узыдзе дзень — каб не баяцца
свабоднай нацыяйназвацца,
дзе мы — узнёслыя — усе!



Аўгуст Стрындбэрг (1849–1912) — шведскі літаратар, аўтар раманаў, аповесцяў, эсэ; драматург і паэт. Стваральнік сучаснай шведская літаратурнай мовы. Пачынальнік шэрагу плыняў у еўрапейскай літаратуры і тэатры.

Канфлікт 1618–1648 гадоў гісторыкі называюць першай агульнаеўрапейскай і апошняй вялікай рэлігійнай вайной. Сапраўды, Трыццацігадовая вайна пачыналася як міжканфесійная драма. Шведы высаджваліся на нямецкім беразе і распаўсюджвалі ўлёткі ды памфлеты з гравюрнымі выявамі свайго геральдычнага льва, які прыйшоў на дапамогу пратэстанцкім княствам. Але неўзабаве франты і хаўрусы змяшаліся, настала вайна ўсіх супраць усіх. Бесперапынныя рабункі, забойствы і разбурэнні ператварылі цэлыя рэгіёны Еўропы ў пустыню. Выпакутаваны Вестфальскі мір 1648 года ўгрунтаваў цывілізаваную традыцыю мірнага суіснавання розных дзяржаваў, рэлігійнай талерантнасці і дагэтуль служыць станоўчым урокам еўрапейскага пагаднення. Шведскі класік не ідэалізуе айчынную гісторыю, імкнецца перадаць яе чалавечае вымярэнне, увесь яе драматызм. Ва ўсе часы ў здавалася б безвыходныя моманты людзі звярталіся да Бога, і Ён чуў іхнія малітвы.

Аўгуст Стрындбэрг

# АПОШНІ СТРЭЛ

У адзін з апошніх дзён кастрычніка 1648 года на вуліцах невялікага горада Ліндаў на возеры Бодэн запанаваў вялікі вэрхал. Горад гэты — швабская Венецыя, што плыла на трох пагорках побач з баварскім берагам, даўно быў абложаны шведскім фельдмаршалам Урангелем, які ў апошнія гады дзейнічаў разам з французамі, а цяпер стаяў ва ўмацаваным лагеры на вышынях каля мястэчка Эшах. Мірныя перамовы, што цягнуліся ўжо чатыры гады, не далі нават перадыху, а зусім нядаўна Кёнігсмарк штурмаваў Прагу. Гэтыя падзеі, аднак, прыспешылі перамовы ў Аснабруку і Мюнстэры, да Швабіі дакаціліся чуткі пра блізкі мір.

Ліндаў перажыў усе жахі аблогі на працягу пары месяцаў. А пасля абеду ў дзень, калі раптам спыніліся шматдзённыя бамбардоўкі з Эшаха, бургамістр вярнуўся з патаемнай паездкі ў Брэгэнц. Ён адразу пайшоў у заезд Пад Каронай, таму што ратуша была разбурана. Хацеў паглядзець, ці не сустрэнецца хто са знаёмых, не заняты службай на мурах горада. У залах не было ні душы, і ў прыгнечаным стане ён выйшаў на тэрасу, каб паглядзець, што робяць шведы на тым беразе.

Бодэнскае возера было спакойнае, адлюстроўвала снежныя вяршаліны грады Хоэ Сэнці з боку Санкт-Галена. На захадзе віднелася блакітная дымка шварцвальдскага лесу, падобная да вечаровых аблокаў, а на ўсходзе плынь Рэйна паміж Форальбэргам і Рэціконам. Ягоныя глініста жоўтыя хвалі зліваліся ўрэшце з сіне-зялёнымі водамі возера. Але бургамістру было не да красы прыроды. За апошнія восем дзён ён нацярпеўся голаду і холаду, а больш за месяц не выходзіў з бою. Ён убачыў толькі, як віруе народ на набярэжнай. Там лагодныя баварцы змяшаліся ў гурму з крыклівымі вюртэмбэргцамі і жвавымі бадэнцамі. Ён мог бачыць, як народ пасунуўся да францішканскага касцёла па харчовую дапамогу. Але ўнізе на набярэжнай ён заўважыў групу людзей, што стаяла і глядзела на возера, дзе некалькі бочак павольна плылі па хвалях. Людзі з імпэтам кінуліся выцягваць іх на бераг бусакамі і канатамі.

«Што гэта там такое, людцы?» — крыкнуў бургамістр з тэрасы.

«Падарункі ад швейцарскіх сяброў з Санкт-Галена!» — адказаў нейкі голас.

«Мабыць, віно ці медавуха. Яны доўга чакалі заходняга ветру, каб падплыць з боку Рамансгорна», — азваўся яшчэ нехта.

Бургамістр пайшоў з тэрасы ў залу, сеў там і пачаў чакаць, чым скончыцца справа на набярэжнай.

На знешне спакойным твары рослага баварца чыталіся заклапочанасць, сум і горыч. Вялікія кулакі, абапертыя на дубовы стол, час ад часу сціскаліся, нібыта ён вагаўся — выпускаць з іх нешта ці трымаць моцна. Ягоныя ногі, што, здавалася, вось-вось разарвуць халявы высокіх ботаў, тупалі па непрыбранай падлозе так, што пыл стаяў слупом, як дым з файкі. Ён не мог уседзець спакойна. Раптам ён шпурнуў свой меч на падлогу, дастаў з тытунёвай тэчкі з сярэбраным гарадскім гербам пару вялікіх ключоў і пачаў круціць імі ў паветры, нібы спрабуючы зачыніць нябачныя дзверы, каб ніхто больш не мог іх ад-

чыніць. Потым прыціснуў да вуснаў адзін з ключоў і прасвітаў сігнал трывогі, якому добра навучыўся за доўгі час аблогі, адбітых атак і няўдалых вылазак.

Пачуліся гулкія крокі на лесвіцы і бразгат зброі. Бургамістр кінуў свістаць, зашпіліў гузік і перасунуў тэчку на рамяні назад. Потым заняў такую позу, нібыта збіраўся абараняцца, мабыць, ведаючы, хто набліжаўся да дзвярэй.

«Пахвалёны, пане камендант», — павітаў ён афіцэра, які ўвайшоў і кінуў на лаву памяты капялюш з абпаленым пяром.

«Рады бачыць Вас зноў, пане бургамістр», — адказаў маёр і сеў за стол насупраць.

Нейкі час было ціха, нібы абодва набівалі сваю зброю, перш чым даць залп. Урэшце маёр парушыў маўчанне пытаннем у лоб:

«Што сказалі ў Брэгэнцы?»

«Не дадуць ніводнага мяшка мукі, ні жмені крупы, пакуль горад не выдасць ключы! Так сказалі ў Брэгэнцы».

«Вось як?»

«Вось як», — паўтарыў бургамістр, пагрозліва пазіраючы.

«А Вы не хочаце выдаваць ключы?»

«Не, тысячу разоў не, мільён разоў не!» — закрычаў бургамістр і ўскочыў з-за стала, кроў ударыла яму ў твар.

«А ведаеце, — казаў далей маёр, — што мёртвыя целы атручваюць горад з тае пары, як шведы захапілі могілкі ў Эшаху?»

«Ведаю!»

«Ведаеце, што ў горадзе з'елі ўсіх коней і сабак?»

«Ведаю! Я ведаю таксама, што майго Пакана, майго вернага спадарожніка апошніх дваццаці гадоў з таго часу, як я страціў жонку і дзяцей, забілі першым!»

«Ведаеце, што вада ў возеры паднялася і заліла сутарэнні? Так што людзям няма дзе хавацца, калі зноў пачнуцца бамбардоўкі».

«Ведаю!» — адказаў бургамістр.

«Ведаеце, што саспеў наш вінаград на прылеглых пагорках на Хоербэргу, каля Шахтэна, каля Айхбюля, пара збіраць ураджай? А шведы з французамі ўжо накінуліся на вінаграднікі».

«Ведаю! Але ці ведаеце Вы, што мір можа быць заключаны ўжо сёння? Можа, ён ужо заключаны, і мы можам выратаваць наш гонар, калі яшчэ на дзень адцягнем капітуляцыю».

«Яшчэ адзін дзень! — паўтарыў маёр. — Яшчэ адзін дзень! Мы казалі гэта ўсе тры месяцы, пакуль паміралі нашы дзеці. Вы, мабыць, не ведаеце, што скончыўся хлеб, што людзі паелі мох на дахах і лісце на дрэвах, салому ў стайнях, злізалі рэшткі малака ў пустых бочках, пілі сваю..! Такія вось справы, а дзеці крычаць і просяць малака».

«Дзеці! Не кажыце мне пра дзяцей. Маю адзіную дачку згвалцілі і забілі на вачах у яе маці! Тады я маліў Вас дапамагчы, але дарэмна. У Вас тады ўзніклі нейкія непераадольныя перашкоды. Да д'ябла дзяцей! Чаму ж вы не вывезлі іх па возеры, пакуль шведы не пусцілі свае паромы?»

«Вы — дзікая жывёліна, бургамістр, а не чалавек. Вам, мабыць, хацелася б убачыць, як іх будуць тапіць у мяшках альбо есці, як гэта было ў Багеміі, калі там гаспадарыў Фрыдланд!»

«Так, мы ўсе ператварыліся ў дзікіх звяроў за гэтыя трыццаць гадоў забойстваў і агню, крадзяжоў і блуду. Яны маглі называць гэта вайной, пакуль шведскі кароль быў жывы і камандаваў жаўнерамі. Але потым яны ператварыліся ў забойцаў, бандзюгаў і іракезаў, якія нішчаць усё абы нішчыць. Гуны, готы і вандалы, якія разбураюць, таму што не могуць стварыць нічога...»

Крык на вуліцы не даў маёру адказаць, абодва спрачальнікі кінуліся на тэрасу. Людзі збіліся ў кучу каля выцягнутых на бераг бочак. Выбілі коркі так, што змесціва пацякло па вуліцы.

«Што ў вас там?» — крыкнуў маёр.

«Э-э, гэта толькі малако, што прыслалі сквапныя швейцарцы замест віна», — адказалі знізу.

З'явілася нейкая жанчына з дзіцем на руках. Калі яна ўбачыла белы струмок, што цёк па вуліцы, то жудасна загаласіла і паклала дзіця на брук, каб тое магло піць. Неўзабаве сабралася шмат мацярок, прываблены крыкамі. Дзеці, як прагныя парсючкі, сквапна хапаліся за камяні бруку, нібы тыя былі мяккімі грудзьмі, і смакталі малако. А мацяркі тым часам праклінaлі паганых мужыкоў, якія думалі толькі пра сябе.

«Пане бургамістр! — зноў пачаў маёр, усхваляваны брыдкай сцэнай. — Пойдзем на дах ды паглядзім, што там робяць шведы. А ўжо потым высветлім нашы адносіны! Як Вы бачыце, рассыпаюцца ўсе сувязі. Адзін хапае тое, што другі ўжо не можа ўтрымаць. Ёсць пагроза, што распадуцца сем'і, усё раскоціцца дагары нагамі. У любы момант можа пачацца бунт...»

Бургамістр не слухаў яго. Ён падняўся па вінтавой лесвіцы, потым праз шчыліну паміж слупамі пралез па ўступах фасада. Ускараскаўся на франтон, увенчаны флагштокам, да якога была прымацавана падзорная труба. Унізе раскінуўся разбураны горад. Не было бачна ніводнага цэлага даху; ніводнага дрэва ў старых прысадах — усе пайшлі на ежу і дровы. З боку набярэжнай усе дамы былі знішчаны, усе сады высечаны, каб здабыць матэрыял для ўмацаванняў. А па вуліцах соваліся абарваныя, згаладалыя, брудныя і здзічэлыя людзі. Аднак было бачна, што яны накіроўваюцца да заезду Пад Каронай, дзе ўжо сабраўся натоўп.

Бургамістр прыклаў вока да трубы, скіраванай на далёкі бераг. Там віднеліся пагоркі з белымі сялянскімі хатамі пад спаленымі дахамі, а навокал разрабаваныя яблыневыя сады і вінаграднікі. Углыбіні было бачна Эшах з шведскім галоўным станам. Пасярод сіне-жоўтых сцяжкоў быў прыкметны незвычайны рух. Кнехты ўвіхаліся каля гарматаў. Бургамістр паспеў пазнаёміцца з

імі за час доўгай аблогі. Так, ён нават даў імёны кожнаму з найбруднейшых монстраў першай лініі.

Доўгі бамбіза з чырвонай медзі нядаўна разбіў вітраж у гарадскім касцёле — ён называў яго Чырвоным Сабакам. Злева была магутная марціра, што атрымала імя Гракатун, проста шпігат, калі пачынала вырыгваць зарады. Маткай Д'ябла ён назваў трэцюю, мабыць, адлітую з шведскай сталі паводле праекту самога караля. І гэтак далей. За валам на садовай тэрасе ён убачыў фельдмаршала, які сядзеў разам з афіцэрамі і піў мясцовае віно, іхняе віно, што было вырашчана і выціснута імі. А яны, такія дурныя, пакінулі яго ў склепах на тым беразе. За шклянкай, папыхваючы файкамі, высокія паны разглядалі нейкі чарцёж, здаецца, не карту. Бургамістр успомніў чутку пра тое, што Урангель хацеў перавезці баварскі замак Ашафэнбург дадому, у свой маёнтак над возерам у Швецыі. А калі гэта не ўдалося, загадаў архітэктару зрабіць чарцяжы будынка, з якога ён ужо павывозіў усю мэблю, абсталяванне і экзатычныя прадметы.

Убачыўшы віно і курцоў, бургамістр на імгненне перажыў даўно забытыя прыхамаці. Потым яго ахапіла даўняя нянавісць і злоба. Для тых, каму бракавала ежы і пітва, хто страціў блізкіх і забыўся, што такое мір, заставаўся адно гонар. І ён пакляўся над трупам сваёй дачкі, якую сам забіў, каб яна не нарадзіла дзяцей д'ябла і не дала д'яблава семя (гэтую таямніцу ён не мог згадваць як аргумент сваёй упартасці), што не выдасць ключы ад горада, пакуль жывы.

Ён убачыў, як з Чырвонага Сабакі вырваўся парахавы дым, пачуў свіст над сваёй галавой, а потым грукат выбуху на набярэжнай, адкуль даносіліся крыкі людзей.

«Ключы, бургамістр, альбо ўсім нам канец!» — закрычаў маёр з драбіны.

«На пазіцыю, пане маёр, на валы, альбо будзеце павешаны!» — адказаў бургамістр.

«Ключы сюды! Альбо дабярэмся да Вас і самі адбярэм!» — гарланіў маёр.

«Хадзіце ды вазьміце!»

Раптам у акенцы на даху з'явілася некалькі галоваў, усчаўся крык, каб ён аддаў ключы.

«Адыдзіце з даху; яны цаляюць па нас!» — закрычаў бургамістр людзям, якія пачалі караскацца па мурах, каб здзейсніць сваю пагрозу.

Праз імгненне флагшток прапаў, раструшчаны, як сухое дрэва. Паляцелі трэскі ад удару ядра, якое прабіла дах.

Бургамістра скаланула і ён упаў бы, каб не абаперся на свой вялікі меч.

Ён выпрастаўся і ўстаў на даху, як статуя з талькавага каменя на саборы. Людзі закрычалі ад захаплення мужнасцю бургамістра. Яны ўсё ж пабаяліся паўтарыць напад на таго, хто валодаў ключамі ад горада. А без іх фармальная здача горада не магла адбыцца.

Але з дапамогай некалькіх незадаволеных капітан адважыўся напасць на няўступлівага бургамістра. Ён палез па небяспечнай драбіне, выцягнуў сваю шпагу і запатрабаваў ад бургамістра сысці альбо абараняцца.

Аднак хутка стала ясна, што пазіцыя бургамістра непрыступная. Пераканаўшыся, што немагчыма ўгаварыць яго здацца, маёр звярнуўся да масы народу і спытаў людзей тройчы, ці яны даюць яму права разбіць гарадскую браму і вывесіць белы сцяг.

Адказам на ягоны запыт быў аглушальны крык згоды. Ён спусціўся ўніз і разам з натоўпам падаўся на валы.

Бургамістр застаўся адзін. Ён разумеў, што ўжо няма ніякай надзеі на ўратаванне горада. Ён, здавалася, бездапаможна асунуўся. І раптам выпрастаўся зноў, прыняўшы рашэнне. Дрыготкімі рукамі дастаў з тэчкі вялікія ключы, перажагнаўся і шпурнуў іх у возера так далёка, наколькі хапіла моцы. Калі яны зніклі ў вадзе, ён укленчыў і склаў рукі ў доўгай, ціхай малітве.

У гэтае імгненне ён хацеў бы аглухнуць. Але, звяртаючыся да Бога і Святой Дзевы, ён усё ж чуў удары сякеры па браме, праз якую вораг павінен быў увайсці ў горад, каб рабаваць і блюзнерыць, вешаць і паліць.

Нейкі час ён ціха маліўся і раптам заўважыў, што над горадам запанавала таксама ціша, а кананада скончылася. З боку валоў пачуўся слабы гул, нібыта галасы людзей, якія гаварылі ўсе адразу. Гул нарастаў і ператварыўся ў рык, а потым адразу ж у крык радасці.

Ён падняўся з каленяў і ўбачыў белы сцяг, што лунаў над шведскім станам. Потым пачуў гук трубаў і звон літаўраў, з валоў Ліндаў адказалі тым жа. Зноў пачуліся ўдары сякеры па браме. Ад шведскага лагера адплыў човен. На беразе іграла палкавая музыка. Па вуліцах горада пракаціўся крык. Спачатку бязладны, як грукат хваляў аб прыбярэжныя скалы, гром без прычыны, крык без сэнсу. Але ён быў усё бліжэй, і цяпер можна было адрозніць апошняе слова «канец». Немагчыма было разабрацца, ці гэта была капітуляцыя, ці нешта іншае.

Урэшце крык стаў больш выразным, калі маса народу рынула па набярэжнай, махаючы капялюшамі і кучомкамі. Усе крычалі свайму мужнаму бургамістру: «Мір заключаны!»

* * *

Увечары ў францішканскім касцёле спявалі *Te Deum laudamus!* А гараджане ўпіваліся віном з бочак, прывезеных з прыбярэжных вёсак.

*August Strindberg.*
*Svenska öden och äventyr.*
*Stockholm, 1954.*

*Пераклад са шведскай мовы*
*Валерыя Буйвала*



Апякунка Марселя.

# ТРЫ ДНІ Ў МАРСЕЛІ

Чарговы аэробус падае ў акіян, і тэлефонны званок маці засппявае мяне акурат на выхадзе з авіякасаў: «Сынок, не ляцеў бы ты ў той Марсель. Самалёты разбіваюцца, людзі гінуць...» Як магу, супакойваю маці: і ляцець я буду ўсяго тры гадзіны, і нізенька, ды і недалёка тая Францыя з яе хвалёным Міжземнаморскім узбярэжжам... Маці ўздыхае-ўздыхае і завяршае размову пажаданнем: «Каб жа хоць лётчык добры натрапіўся...»

Лётчык натрапіўся добры, і калі самалётнае шасі плаўна кранулася пасадачнай паласы марсельскага аэрапорта, мне ажно крыўдна зрабілася — апладысментаў у салоне не пачулася. Раней на міжнародных рэйсах пасажыры ахвотна пляскалі.

Ціхі начны аўтобус падрульвае да гарадскога вакзала Сен-Шарль, я ўваходжу ў яго даўжэзную каменна-шкляную стадолу і — ажно прыпыняюся. Проста пасярод вакзала растуць высокія дрэвы. Не дэкаратыўна-хударослыя, а па-лясному разгалістыя, на два абхваты. Аказваецца, іх не спілавалі і не выкарчавалі, калі будавалі вакзал, а асцярожна ўзвялі вакол сцены і дах паднялі адмыслова высока — навырост. Каб яшчэ мох пад дрэвамі рос, то пасажыры ў чаканні цягніка маглі б і грыбы пазбіраць.

Прыляцеў я ў Марсель для ўдзелу ў міжнародным літаратурным кангрэсе *Mare Nostrum* («Наша мора»), арганізаваным Еўрапейскай пісьменніцкай асацыяцыяй (*European Writers Council*). Уласна кажучы, удзел той меў на мэце адну нескладаную, але пачэсную місію. На завяршальным этапе кангрэса я мусіў прэзентаваць Саюз беларускіх пісьменнікаў — як новага чальца гэтай прэстыжнай арганізацыі, што займаецца абаронай аўтарскіх і грамадзянскіх правоў пісьменнікаў. Забягаючы наперад, скажу, што, нягледзячы на шматлікасць шэрагаў асацыяцыі (48 пісьменніцкіх суполак), у лік яе чальцоў пакуль не трапілі ні ўкраінцы, ні палякі, ні расійцы. Беларусам быў аказаны асаблівы давер, і гэта — прыемна.

Гатэль «Меркурый», што месціцца ў гістарычным цэнтры Марселя, гудзеў, як вулей. Чуваць французская, ангельская, іспанская, нямецкая, італьянская, грэцкая мовы. Пакуль што ў статусе запрошанага госця наведваю адно з пленарных паседжанняў кангрэса. Хочацца ж ведаць, якімі клопатамі жывуць калегі-пісьменнікі па ўсёй Еўропе.

Румынка Габрыэла Адамесцяну расказвае, што пры дыктатуры Чаўшэску ў яе краіне чытачоў мастацкай літаратуры было ў сто разоў болей. Цяпер хатнія бібліятэкі — атавізм, нават дэтэктывы не распрадаюцца. Ва ўсёй Румыніі толькі два выдавецтвы займаюцца выданнем паэзіі, многія румынскія пісьменнікі з'язджаюць за мяжу, пішуць на чужых мовах.

Ода Барака з Лівана апавядае пра жахі грамадзянскай вайны, што працягваецца на яе радзіме ўжо дваццаць гадоў без надзеі на блізкае заканчэнне. Адчуўшы сваю непатрэбнасць на радзіме, яна эмігравала ў Францыю, жыве ў Парыжы, дзе выдала чатыры кнігі ў перакладзе на французскую мову.

Суданец Джамаль Махджуб называе сябе падарожнікам, які згубіў свой білет і сам згубіўся ў гэтым мітуслівым свеце. Нарадзіўся ён у Лондане, у Іспанію з

радзімы бацькоў — Судана — яго таксама выгнала грамадзянская вайна. Ваеннае супрацьстаянне шаснаццаці рознапляменных партый і груповак працягваецца ў гэтай краіне ўжо больш за паўстагоддзя. А пасля таго, як у 1999 годзе ў суданскіх пустэльнях знайшлі вялікія радовішчы нафты, вайна разгарэлася з яшчэ большым размахам. У яе агні загінулі сотні тысяч мірных жыхароў, у тым ліку каля 150 пісьменнікаў.

Фуад Ляруй з Марока ўжо дзесяць гадоў жыве ў Амстэрдаме. Ён прызнаецца, што самае непрыемнае адчуванне ў ягонай душы выклікае людская абыякавасць, якая паступова забівае ў ім творцу. Мараканскія апельсіны больш запатрабаваныя ў Еўропе, чым мараканскія пісьменнікі...

Вось такая яна, сучасная літаратурная Еўропа, дзе, як і ў Еўропе геаграфічнай, перамяшаліся расы і народы. У перапынку паміж паседжаннямі знаёмлюся з прэзідэнтам ЭПА шведам Джонам Эрыкам Форслундам і генеральным сакратаром Мірыям Дыякарэц, якія літасціва дазваляюць госцю з Беларусі цэлы заўтрашні дзень патраціць на знаёмства з горадам.

І вось – ранішні Марсель гатовы прыняць мяне ў свае гарачыя субтрапічныя абдымкі. Куды, як вы думаеце, найперш павінен скіравацца ў партовым горадзе грамадзянін сухаземнай Беларусі? Вядома ж, да мора. Тым болей – да яго рукой падаць, пра што сведчыць прахалодны брыз, які з разгону залятае ў лабірынты прыбярэжных вулачак.

У Старым Порце бела і цесна ад незлічоных яхтаў. Іх тут – некалькі тысяч. Старэнькія і мадэрныя, ветразёвыя і маторныя, невялікія і дзвюхпалубныя, рыбалоўныя рабацягі і беласнежныя для адпачынку, яны ківаюцца на прывязі, цярпліва чакаюць сваіх гаспадароў, як застаялыя коні. На яхтах марсельцы не толькі ходзяць у мора. Даўняя мясцовая традыцыя – у нядзелю абедаць на яхце, не здымаючыся з якара, – датрывала да нашых дзён. Яхта – плывучае лецішча марсельца.

На ўзбярэжжы ідзе бойкі гандаль дарамі мора – крабамі, ракаўкамі, рыбай. Вялізныя рыбіны з насамі-дзюбамі карыстаюцца найбольшым попытам. Пяць еўра — і ўвішная маладзіцаназубленым нажом адпілуе вам кілаграмовую калянку — на здароўе, месье. Побач з рыбнымі латкамі — гандлёвыя намёты мылавараў. Аказваецца, Марсель — французская сталіца мыла, якім праславілася на паўсвету. Мыла сапраўды пахучае — вырабляецца яно з аліўкавага і пальмавага алею і марской солі. Дайце веры — у канцы XVIII стагоддзя тут штогод варылі па 70 000 тон мыла! Такой колькасцю гэтага прадукта можна было адмыць не толькі ўсю Францыю і Еўропу, але і палову чорнай Афрыкі, да якой цераз мора не так і далёка.

Сіняе неба і гэткае ж сіняе мора нагадваюць велізарную раскрытую ракаўку, у глыбіні якой бялеецца круглы, як жамчужына, замак Іф. Гуляць дык гуляць — і праз паўгадзіны на турыстычным кацеры мы ўжо прычальваем да яго белакаменнага схілу. Замак быў пабудаваны як абарончая крэпасць яшчэ ў 1526 годзе, але — дзіва з дзіваў! — за паўтысячы гадоў на яго так ніхто і не напаў. Надта ўжо страхотлівы выгляд меў. І тады практычныя французы — не прападаць жа дабру! — зрабілі ў замку турму для самых небяспечных дзяржаўных злачынцаў. Тысячы арыштантаў сядзелі ў турме Іф, сярод іх сустракаліся міністры і графы, але самым знакамітым вязнем усё ж застаўся Эдмон Дантэс — герой рамана Аляксандра Дзюма «Граф Монтэ-Крыста». За дадатковую плату вы можаце нават зачыніцца ў ягонай камеры і пакарміць чаек на закратаваным падваконні. Такой бяды, што аніякага Эдмона Дантэса на свеце ніколі не існавала. Турысты ў тую камеру валам валяць... Вось яна, яўленая зняверанаму свету сіла мастацкага слова!

У белай зацішнай і амаль бязлюднай бухце нарэшце дападаю да вады. Плыву і адчуваю, як мора выпіхвае мяне са свайго ўлоння. Шчыльнасць вады настолькі вялікая, што нырнуць аніяк не ўдаецца — падскокваеш на хвалях, як паплавок, і разумееш, чаму паблізу няма станцыі выратавання. Не мора — гатовы расол, у якім, здаецца, можна налавіць адразу селядцоў.

Трэба сказаць, што Марсель спрадвеку лічыўся ці не самым свабодалюбным горадам Міжземнамор'я і чужой улады над сабой не цярпеў. Марсельцы не захацелі падначаліцца рымскім



Удзельнікі кангрэса «Mare Nostrum»: Габрыэла Адамесцяну (Румынія), Ева Сусо (Швецыя), Джон Эрык Форслунд (Швецыя), Міхась Скобла (Беларусь).



Базыліка Маці Божай Міласэрнай.



Турысты ў базыліцы
ператвараюцца ў паломнікаў...

імператарам Юлію Цэзару і Карлу V, французскія каралі таксама доўга не маглі падпарадкаваць сталіцу Праванса, што падумваў пра ўласны суверэнітэт, пакуль самы кемлівы з іх — Францыск I — не прыехаў у 1526 годзе ў Марсель і на гарадскім святе на радасць месцічам не паўдзельнічаў у традыцыйнай бітве гнілымі апельсінамі. Гэткі манарх прыйшоўся даспадобы паспалітаму люду, і горад больш не бунтаваў.

Нягледзячы на цёплае мора і няспынную працу мылавараў, Марсель нельга назваць чыстым горадам. Проста на ходніках, як пшаніцу прадаўшы, спяць мурзатыя кляшары, ажно мінакі мусяць іх абыходзіць. У кожнага ў галавах — пачатая бутэлька добрага віна, закусь у пластыкавым пакеце. Раніцай на вуліцы Канаб'ер (ад французскага «канабі», што азначае каноплі) сустрэўся мне адзін такі прадстаўнік роду чалавечага. Ён стамлёныя рукі вольна ўшыркі раскінуў, а нагамі – увесь ходнік загарадзіў. Спаў, а вёрткі верабей выдзёўбваў хлебныя крошкі з ягонай чорнай, як смала, барады… Калі ў 1942 годзе ў нейтральны да гэтай пары Марсель прыйшлі чыстаплюі-немцы, то ўзарвалі цэлы квартал Сен-Жан — прытулак кляшароў. Думалі такім чынам пазбавіцца ад іх назаўсёды…

Нягледзячы на сваё пабраці-мства з морам, Марсель заўжды меў праблемы з пітной вадой — да найбліжэйшай ракі Дзюранс амаль восемдзесят кіламетраў. І калі ў сярэдзіне XIX стагоддзя да горада нарэшце пракапалі канал, марсельцы цэлы месяц гулялі і весяліліся. А пасярод Марселя паўстаў фантастычна прыгожы палац Ланшан. Гэта гімн вадзе, праспяваны на мове архітэктуры. Вада ў Ланшане спявае ў незлічоных вадападах і фантанах, яна льецца з бычыных рагоў і львіных пашчаў на скульптурах, весела плюскоча ў рыштоках саду, афіцыйным апекуном якога быў самы знакаміты паэт Праванса Фрэдэрык Містраль.

Ён пісаў на сонечнай правансальскай мове, паэтызаваў працу вінаградараў і хлебаробаў; у ягонай паэме «Мірэй» смуглявыя маладзіцы дояць у вялікія кашы спелыя алівы, жнеі вяжуць залатыя пераваслы, а вясёлыя хлопцы смакуюць маладое віно. Ці — вось такі эпізод. Пастух авечак за доўгія гады, праведзеныя ў гарах, забыў усе малітвы, але перад смерцю вырашыў паспавядацца. Ён прыйшоў у храм і прызнаўся святару, што грэшны – ненаўмысна забіў птушку.

*«Ці ж грэшны ён? Як падаянне,*
*Навошта просіць*
*пакаянне?» —*
*Падумаў стомлены*
*Імшою капелан.*
*Але ў святле лагодным свечак*
*Прыняў ён пастуха авечак:*
*«На жэрдку вешай свой*
*запылены каптан».*
*А жэрдкай той быў*
*промень сонца,*
*Што падаў наўскасяк*
*з аконца —*
*Танчэйшы там, дзе верх,*
*таўшчэйшы там, дзе ніз.*
*Пастух паслухаў капелана,*
*Адзенне скінуў паслухмяна,*
*На промень кінуў, і — о цуд!*
*— каптан павіс!*

...Прыжыццёвыя помнікі рэдка застаюцца стаяць пасля смерці герояў. Помнік Фрэдэрыку Містралю, усталяваны ў Марселі яшчэ пры жыцці паэта, удзячны народ шануе і сёння.

Палацы Ланшан і Фарос, фантан Канціні і кляштар святога Віктора, вядома ж, уражваюць.

Але бясспрэчнай архітэктурнай дамінантай Марселя з'яўляецца ўсё ж базыліка Маці Божай



Танк «Жанна д'Арк» змагаўся да апошняга...

Міласэрнай. Збудаваная на ўзвышшы ў рамана-бізантыйскім стылі архітэктарам Эсперандзье, яна была асвечаная 4 ліпеня 1864 года. А 21 чэрвеня 1931 года ў прысутнасці 300 000 паломнікаў на дзесяціметровую статую Маці Божай, што аглядае горад з вышыні птушынага палёту, была ўскладзеная карона. Спачатку статуя была чорнага колеру, потым яе пакрылі залатымі пласцінкамі, якіх спатрэбілася ажно 29 400.

Да 1974 года турысты і паломнікі да базылікі ўзнімаліся па канатнай дарозе, збудаванай пры ўдзеле славутага Густава Эйфеля. За восемдзесят гадоў яна перавезла ажно 20 мільёнаў чалавек і была разабраная дзеля бяспекі пасажыраў. Цяпер па вулачцы-серпантыне да базылікі як мага бліжэй стараюцца пад'ехаць аўтобусы, але ўсё роўна значную частку шляху трэба праходзіць пешкі. У самой базыліцы і ў будзень людна. На прасторных высокіх сценах храма развешаныя тысячы невялікіх карцінаў з біблейскімі сюжэтамі, з выявамі Маці Божай з маленькім Езусам на руках. У гэткі спосаб жыхары Марселя — прафесійныя мастакі і аматары — выказалі сваю любоў і пашану да Той, Якая ўжо паўтара стагоддзя наглядае за горадам і мае яго пад сваёй апекай.

Пры ўваходзе ў базыліку — святы Ян і святы Ісая. Над галавой святога Яна выразна відаць сляды ад куляў. Французскія марскія пяхотнікі падчас Другой сусветнай вайны амаль два месяцы трымалі абарону ля паднożжа Маці Божай Міласэрнай (уся Францыя здалася хутчэй). Апошнім заставаўся на пазіцыях лёгкі танк шэрман, названы імем бясстрашнай Жанны д'Арк. Пакалечаны гранатай, ён так і застаўся стаяць на схіле ўзвышша, пературованы ў музейны экспанат. Сонца б'е прамой наводкай па ягонай гарачай бране, а на разарванай гусеніцы, як матылькі, бялеюць пялёсткі язміну.

Эсперандзье спраектаваў для Марселя яшчэ адзін велічны храм – катэдральны сабор Дэ-Ля-Мажор. Уражваюць ягоныя памеры: дыяметр купала – 20 метраў, даўжыня сабора — 150 метраў, а вышыня такая, што фігуркі на капітэлях можна разгледзець хіба ў біноклю. Глядзеў я ўгору і думаў: для каго стараліся дойліды, калі з зямлі іхняе працы не відно? Для Бога? А можа, з падобным адчуваннем («раблю для Бога») павінен працаваць кожны творца? А то пачасту сучасныя мастакі лепяць, малююць і пішуць з адзінай думкай — каб як хутчэй займець людское прызнанне.

Ёсць у Марселі і свая Трыумфальная арка — копія парыжскай. А ў прыбярэжным парку Прадо ўсталяваны самотны Давід, скапіяваны мясцовым умельцам з Мікельанджэла. Дзеля чаго клануюцца архітэктурныя помнікі, я, шчыра кажучы, не разумею. Бо кожны з іх «упісваецца» аўтарам у пэўны архітэктурны пейзаж, які ў іншай мясцовасці паўтарыць немагчыма. Аднойчы архітэктар Леанід Левін расказваў мне, як кіраўнік адной сярэднеазіяцкай рэспублікі хацеў купіць у Беларусі копію... Хатыні. Маўляў, бавоўнаводы шмат працуюць, ім няма калі ездзіць за тысячы кіламетраў, каб паглядзець помнік спаленым вёскам... Уяўляеце нашу Хатынь між бавоўняных плантацый дзенебудзь у ваколіцах Бухары?

Марсель — горад гандляроў, мылавараў, вінаробаў і рыбакоў, але менавіта ён падараваў Францыі дзяржаўны гімн. «Марсельеза» Ружэ дэ Ліля («Мы супраць тыраніі...») стала адказам Праванса на рэвалюцыйны тэрор у Парыжы, дзе была зруйнаваная Бастылія, але без утомы працавала жудасная машына доктара Гільяцена. Парыж хацеў замаўчаць «Марсельезу», але песня вольнакрылай птушкай разляцелася па ўсёй краіне. За больш чым двухсотгадовую гісторыю яе некалькі разоў забаранялі, трыццаць чатыры гады яна знаходзілася на нелегальным становішчы, але — выжыла, і сёння мільёны французаў спяваюць «Марсельезу», паклаўшы руку на сэрца. А шчыраму католіку-марсельцу чуецца ў гэтым слове малітоўнае «Беражы Марсель, Езу...»

Песні не клануюцца, як архітэктурныя помнікі. І «Беларуская марсельеза» па змесце дужа адрозніваецца ад сваёй знакамітай папярэдніцы. Калісьці яна мела незвычайную папулярнасць у абедзвюх Беларусях — савецкай і Заходняй, якая да 1939 года знаходзілася ў межах Польскай дзяржавы. А сёння яе памятаюць хіба гісторыкі літаратуры... Гэй, марсельскія кляшары, ці не пра вас таксама спяваецца ў гэтай песні, напісанай нараджэн-

цам беларускага мястэчка Шацк Аляксандрам Мікульчыкам? «Ад веку мы спалі, ды нас разбудзілі...» Але кляшараў не хочуць будзіць ні мінакі, ні паліцыя, і яны соладка спяць пад плюскат цёплага мора.

Вечаровы Марсель прыціх, ці не ўпершыню пачуўшы на сваіх вуліцах «Беларускую марсельезу». А ўвогуле гэта даволі крыклівы горад, дзе, нібы ў плавільным катле, сутыкнуліся розныя этнасы і народы. Хіба эскімосаў не пабачыў я на вузкіх марсельскіх вулачках, усе астатнія – у наяўнасці. Часам несупадзенне тэмпераментаў правакуе парушэнне грамадскага парадку, але гарадскія ўлады не вельмі гэтым пераймаюцца. Скажам, мне даводзілася бачыць мабільныя дэманстрацыі курдаў у цэнтры Марселя. На дзесяці адкрытых легкавіках яны носяцца па вуліцах, раптоўна спыняюцца, дастаюць транспаранты і выкрыкваюць у мегафоны палітычныя лозунгі. Часам гэтыя спантанныя выступы замінаюць аўтамабільнаму руху, але паліцыянты лічаць за лепшае не ўмешвацца.



Непрыступны замак Іф.

Побач з гатэлем «Меркурый» — вялікая кнігарня. Заходжу і назіраю незвычайнае відовішча — на мяккай, з дывановым пакрыццём, падлозе паміж стэлажамі сядзяць дзесяткі пераважна маладых людзей і чытаюць кнігі. Не кнігарня, а хата-чытальня. Прашу пардону ў захопленых чытаннем маладзёнаў і прабіраюся да стэлажоў з мастацкімі альбомамі. На адной з вокладак пазнаю знаёмыя віцебскія званіцы, рука машынальна цягне сваё да сябе, і вось ужо я шукаю вачыма, дзе прымасціцца, каб пагартаць альбом Марка Шагала. Купіць яго мне наўрад ці ўдасца — кнігі ў Францыі дарагія. Няспешна перагортваю старонкі. «Au-dessus de Vitebsk», «Vitebsk, scene de village», «Vitebsk, 1914», «Nu au-dessus de Vitebsk», тры партрэты паэта Гіёма Апалінэра, чый дзед быў беларускім паўстанцам... Без асаблівай надзеі гляджу на цэтлік – неверагодна! Шыкоўны альбом можна купіць па кошце двух кухляў піва! Прыветная маладзіца на касе тлумачыць мне мой шацунак і паказвае нейкую налепку на альбоме, дзе я разбіраю толькі два словы — *Special prize*! Што ж, я ўдзячны за неспадзяваны падарунак, месье Шагал! Калісьці, зачараваны Вашымі ўнебаўзлётнымі палотнамі, я прысвяціў Вам верш, дзе былі гэткія радкі: «Маляваў ён не ў вазе лотаць і не вулічную любоў, ён вучыў чалавецтва лётаць, з рук пускаючы, як галубоў!» Дзякуй Вам і за гэтыя ўрокі палётаў, месье Шагал, прыземленаму чалавецтву яны вельмі дарэчы. Поўдзень Францыі паспрыяў Вашаму даўгалеццю, але на працягу ўсяго жыцця натхняліся Вы ўспамінамі пра Віцебск. Вы не паверыце, але і сёння на віцебскім Пескаваціку пасуцца козы, і драўляныя хаты па-ранейшаму просяцца на Вашы карціны, дзе ім не пагражацьме наступ урбанізацыі. Шкада, што Вы не паспелі ўвекавечыць кожную з іх, месье Шагал...

Шагалаўскі Віцебск абуджае ў душы пачуццё настальгіі. Раніцай у расчыненае гатэльнае акно развітальна бомкае звон з базылікі Маці Божай Міласэрнай, і праз тры гадзіны імклівы «Боінг» абтрасае з крылаў сыравата-шэрую вату аблокаў, пакуль на вышыні дзесяці тысяч метраў не вынырвае ля самага сляпучага сонца. У салоне ўсталяваныя адмысловыя экраны, на якіх відно, як самалёт імкліва рухаецца над Еўропай. Турын, Мюнхен, Прага, Уроцлаў, Лодзь, Варшава... Ад Беластока да Менску авіялайнер далятае ўсяго за 20 хвілінаў. Што яшчэ трэба засумаваламу па радзіме падарожніку?..

*Міхась СКОБЛА*

**Міхась СКОБЛА.** Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працуе намеснікам галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларускі кнігазбор». Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998).



Алена Глагоўская

# Мастак з Крутога Берага

29 лістапада 1908 года ў беларускай праваслаўнай сям'і Эльжбеты і Канстанціна Чурылаў у Крутым Беразе (Гарадзейская воласць Нясвіжскага павета) нарадзіўся сын Кузьма. Гэтую дату нараджэння ён падаў у жыццяпісе, які склаў 16 верасня 1929 года. У той час Кузьма спрабаваў паступіць на факультэт прыгожых мастацтваў Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя. Гэтая ж дата нараджэння фігуруе таксама ў яго атэстаце сталасці і ў дыпломе мастака-жывапісца.

Пасля Другой сусветнай вайны, калі Кузьма Чурыла вучыўся ў Торуньскім універсітэце імя Мікалая Каперніка, у сваім жыццяпісе ён падаваў датай нараджэння 12 снежня 1908 года. Змена датаў абумоўлена пераходам на т. зв. новы стыль, якім мастак карыстаўся пасля пераезду ў Польшчу.

Кузьма Чурыла трывала ўвайшоў у гісторыю сучаснага польскага мастацтва. Біяграфічныя даведкі пра яго ўключаны ў «Слоўнік польскіх і замежных мастакоў, якія працавалі ў Польшчы» (Вроцлаў, 1971, т. 1, с. 412), у каталогі «Віленскае асяроддзе мастакоў 1919—1945 гг.» (Ольштын, 1989) і «Мастацкая адукацыя ў Вільні і яе традыцыі» (Торунь—Вільня, 1996). Працы Кузьмы Чурылы можна набыць на мастацкіх аўкцыёнах.

Творчая спадчына Кузьмы Чурылы, на жаль, невядомая беларусам. Адсутнасць звестак пра мастака ў беларускіх слоўніках і энцыклапедыях стала вынікам забыцця пра яго ў пасляваенны перыяд. Кузьма Чурыла сябраваў з выдатным беларускім жывапісцам Міхалам Сеўруком. У кола яго сяброў уваходзілі таксама Леў Дабжынскі і Яўген Бранскі. З чатырох гэтых мастакоў толькі Міхал Сеўрук і Леў Дабжынскі атрымалі прызнанне на Беларусі, найбольш — Міхал Сеўрук, у гонар якога створаны музей у Нясвіжы, дзе мастак жыў з 1939 года. У 2006 годзе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі ў Мінску была арганізавана манаграфічная выстава яго працаў. Памяць пра Льва Дабжынскага ўмацавалі яго зямляк, прафесар Адам Мальдзіс, і аб'яднанне астравецкіх краязнаўцаў «Вільняр».

Пра лёс Яўгена Бранскага наогул нічога невядома, акрамя таго, што пасля вайны ён, верагодна, быў у Познані («Віленскае асяроддзе мастакоў 1919—1945 гг.», Ольштын 1989, с. 54).

У студэнцтве Кузьма Чурыла заўсёды называў сябе беларусам, прызнаючы пры гэтым беларускую мову як родную. Сотая гадавіна нараджэння мастака — гэта асаблівая нагода для таго, каб напомніць суайчыннікам пра выдатнага творцу, які застаецца невядомым на сваёй Радзіме.

Кузьма Чурыла навучаўся спачатку ў агульнай школе ў Крутым Беразе. У 1918 годзе паступіў у рускую гімназію ў Нясвіжы, якую скончыў у 1926 годзе. Аднак атрыманая ў гімназіі адукацыя не давала магчымасці паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову, таму Кузьма Чурыла, не маючы сродкаў на далейшую адукацыю, застаўся жыць з бацькамі ў вёсцы.

У коле сяброў па вучобе ён згадваў, як пры лучыне сядзеў над кніжкаю і чакаў, пакуль сон адолее вялікую стомленую сям'ю і ў хаце запануе цішыня, так неабходная для навучання. А ў сям'і Кузьма меў двух братоў, Антона і Ігнацыя, і тры сястры — Дамініку, Марыю і Анюту. Старэйшы

---

**Алена Глагоўская** — журналістка, даследчыца беларускай мінуўшчыны. Нарадзілася ў 1959 годзе у Ярылаўцы на Беласточчыне. Закончыла факультэт журналістыкі і палітычных навук Варшаўскага універсітэта. У 1984–1998 гг. працавала на факультэце грамадскіх навук Гданьскага універсітэта, з 1998 г. — на кафедры беларускай культуры Беластоцкага універсітэта. У 1995 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму «Культура Беларусі ў 1914–1929 гг.». Аўтар кніг «Беларусь 1914–1929. Культура пад прэсіяй палітыкі» (1996), «Беларусы на гданьскім узбярэжжы» (2003), шматлікіх артыкулаў у польскім і беларускім друку. Супрацоўнічае з польска-беларускім «Часопісам» і беластоцкаю «Ніваю». Жыве ў Гданьску.

брат, Антон (1900–1980), дапамагаў Кузьму атрымаць адукацыю.

Чаму праз два гады жыцця ў Крутым Беразе Кузьма Чурыла выехаў у Роўнае, на Валынь? Справа ў тым, што там у 1928 годзе яго прынялі ў васьмікласную рускую гімназію, дзе ён атрымаў атэстат сталасці. У пасляваенных польскіх выданнях, дзе змешчана біяграфія мастака, падаюцца памылковыя звесткі пра тое, што Кузьма Чурыла скончыў гімназію ў Навагрудку.

У 1929 годзе Кузьма Чурыла быў залічаны на факультэт прыгожых мастацтваў у Вільні. У заліковых дакументах паасобных гадоў і трыместраў навучання ён пазначаў пра сябе наступныя звесткі: праваслаўнае веравызнанне, беларуская нацыянальнасць і беларуская мова як родная. Незвычайны талент мастака высока ацаніў Фердынанд Рушчыц, які пісаў у сваім «Дзённіку»: «Пейзажныя эцюды Дабжынскага і Чурылы моцныя ў колеры. Пасля карэктавання я кажу вучням, што пейзаж у мастацтве вяртаецца, а большасць людзей не ўсведамляюць, што яны заўсёды жывуць сярод пейзажу» (5.12.1931).

У 1951 годзе адзін з прафесараў Віленскага універсітэта, Стэфан Нарэмбскі, пісаў пра Кузьму Чурылу: «Выдатны прыроджаны талент і пакліканне скіравалі яго на аддзяленне прыгожых мастацтваў Віленскага універсітэта. Таленавіты і інтэлігентны студэнт хутка становіцца рысавальшчыкам (мастаком) найвялікшага маштабу, набывае навыкі празрыстай і гарманічнай кампазіцыі, выпрацоўвае ў сабе лёгкасць і дакладнасць у карыстанні графічнымі тэхнікамі. Ён хутка вылучыўся як адзін з найлепшых навучэнцаў факультэта».

Найбольшы ўплыў на творчасць Кузьмы Чурылы аказалі Людамір Слядзінскі і Ежы Гоппэн, таму ў спадчыне мастака самае значнае месца займаюць жывапіс і графіка.

Кузьма Чурыла скончыў Віленскі універсітэт 20 красавіка 1936 года як адзін з найлепшых студэнтаў факультэта прыгожых мастацтваў. Дыплом ён атрымаў 19 снежня 1936 года, у той самы дзень, што і Леў Дабжынскі. Падчас навучання ў Вільні мастак жыў у студэнцкіх бурсах на вуліцах Папоўскай, Снегавой, Савіча і Бакшта і, відаць, актыўна кантактаваў з віленскім беларускім асяроддзем. У «Летапісе Таварыства беларускай школы» за 1933 год ён згадваецца яго сярод найвыдатнейшых беларускіх творцаў у Вільні разам з Пятром Сергіевічам і Міхалам Сеўруком.

***

У час навучання ва універсітэце Кузьма Чурыла пасябраваў з Ільдэфонсам Гоўвальтам, бацькі якога мелі маёнтак за 40 кіламетраў ад Вільні — Медыну. Верагодна, дзякуючы Ільдэфонсу мастак пазнаёміўся з яго сястрою Вандаю, маладзейшаю за Кузьму на шэсць гадоў (яна нарадзілася ў Вільні 11 снежня 1914 года). Ірына і Браніслаў Гоўвальты, акрамя Ванды і Ільдэфонса, мелі яшчэ двух сыноў — Геліядора і Сатурніна. Марыя Гоўвальт з роду Абраменкаў была расіянкаю, паходзіла з Украіны. Яна была вельмі ўвішная, сама гатавала мясныя прадукты і вяла гаспадарку ў маёнтку. Марыя палюбіла Кузьму, з якім часта спявала рускія рамансы. Браніслаў Гоўвальт быў заўзятым энтамолагам і меў вялізную калекцыю матылёў, якую перадаў Віленскаму універсітэту.

Яшчэ перад вайною — невядома, дзе дакладна і калі, — Ванда Гоўвальт і Кузьма Чурыла ўзялі шлюб у віленскай царкве і адправіліся ў падарожжа па Італіі і Францыі, таму што Кузьма як малады таленавіты мастак атрымаў стыпендыю з Фонду нацыянальнай культуры. Насамрэч гэтая стыпендыя была прызначана для сябра Чурылы, Льва Дабжынскага, але яго напаткала трагічная смерць...

Выбух Другой сусветнай вайны ў 1939 годзе вымусіў Кузьму і Ванду вярнуцца на радзіму, дзе яны пасяліліся пад Вільняю ў вёсцы Чырвонка, якая дасталася Вандзе пасля сямейнага падзелу маёмасці.

У 1939 годзе Кузьма Чурыла зрабіў выставу сваіх працаў на «Восеньскім салоне» ў Вільні. Ежы Маслінскі, рэцэнзент выставы віленскіх мастакоў, пісаў на старонках «Віленскай праўды» ( 37, 1939) пра тое, што творчасць Кузьмы Чурылы, як і творчасць Пятра Сергіевіча, зраслася з віленскім краем. Ён згадваў пра дзве працы К. Чурылы: жніўны эцюд і «цудоўна змадэляваны партрэт з люлькаю». Кузьма Чурыла ўдзельнічаў таксама ў выставе віленскай пластыкі ў 1940 годзе і ў выставе графікі ў віленскім Мастацкім музеі ў 1941 годзе. «У гэтай тэхніцы (афорту. — Заўв. А. Г.) настраёвыя пейзажы падаў К. Чурыла („Дрэвы“)», — пісаў у рэцэнзіі на апошнюю выставу Фелікс Любяжынскі на старонках «Віленскай праўды» ( 126, «Выстава графікі ў Мастацкім музеі»).

Пра жыццё мастака ў гады вайны вядома няшмат. Як успамінае познань-



ская мастачка і паэтка, пляменніца Ванды Чурылы Барбара Гоўвальт-Кастэцкая, якая нарадзілася ў Вільні ў 1935 годзе, Кузьма Чурыла займаўся сельскаю гаспадаркаю: «Ён добра ведаў гаспадарку, бо паходзіў з сялянскай сям'і. Разам з жонкаю яны пабудавалі новы дом у Чырвонцы. Кузьма быў вельмі лагодным і добрым чалавекам. Ён быў тыповым беларусам...» У памяці пані Барбары Гоўвальт-Кастэцкай застаўся дом Чурылаў, які пахнуў свежаю драўнінаю, прыгожыя зялёныя ўзгоркі, чароўныя, нібы райскія, пералескі, ручай, гусі і сцежка, якая вяла з узгорка ад Чырвонкі да Медыны. Гэтую дарогу ў дзяцінстве яна адольвала самастойна, хоць адлегласць была немалая — каля пяці кіламетраў. Згадвае яна таксама пра зграі разбойнікаў, якія шнырылі па ваколіцах і парушалі спакой вяскоўцаў.



«Цяжкія ваенныя перажыванні ўскладнялі развіццё таленту Чурылы», — пісаў пра той перыяд жыцця мастака прафесар Стэфан Нарэмбскі.

24 кастрычніка 1942 года ў Вільні ў сям'і Чурылаў нарадзіўся сын Марэк (цяпер — кіраўнік Вялікапольскай рады архітэктараў). Яго хроснымі бацькамі сталі Яўгенія і Оттан Краснапольскія, якія таксама падчас вайны жылі ў Чырвонцы. Сяброўства паміж Чурыламі і Краснапольскімі працягвалася ўсе пасляваенныя гады. Менавіта ад Марэка Чурылы ў 2006 годзе я даведалася, як скантактавацца з сям'ёю Оттана Краснапольскага, каб сабраць матэрыялы для артыкула. У чэрвені 1945 года Кузьма Чурыла разам з жонкаю і сынам прыехаў у Познань. Яны пасяліліся каля Сважэндза ў Новай Всі, дзе ў якасці кампенсацыі за пакінутую маёмасць атрымалі прыгожы маёнтак, які страшэнна абкрадваўся. Там 27 лістапада 1945 года ў Чурылаў нарадзілася дачка Ірына (па спецыяльнасці інфарматык, цяпер пенсіянерка). У Познань таксама пераехалі Барбара і Ільдэфонс Гоўвальты.

З 15 кастрычніка 1946 года Кузьма Чурыла быў малодшым асістэнтам кафедры графікі на факультэце прыгожых мастацтваў Торуньскага універсітэта імя Мікалая Каперніка. Кафедра была заснавана ў маі 1946 года прафесарам Ежы Гоппэнам (1891—1969), які працаваў выкладчыкам у перыяд навучання Кузьмы Чурылы ў Віленскім універсітэце. Да супрацоўніцтва Ежы Гоппэн запрасіў таксама Эдварда Кучынскага (1905—1958), мастака графіка родам з Варончы пад Наваградкам. Паралельна з педагагічнаю дзейнасцю на факультэце прыгожых мастацтваў Кузьма Чурыла займаўся творчасцю. У гэты час з'явіліся яго знакамітыя афорты, на якіх была адлюстравана і пабудова моста праз Віслу ў Торуні (1947). У 1948 годзе мастак стварыў паліхромную працу ў касцёле ў Аляксандраве Куяўскім. Акрамя таго, ён выстаўляў свае працы ў Познані, Быдгошчы, Торуні і ў Варшаве.

Вясною 1949 года выявілася, што мастак цяжка хворы: у яго была пухліна ў лёгкіх. Кузьма прайшоў доўгае лячэнне ў гданьскай клініцы і перанёс аперацыю. На жаль, уратаваць жыццё маладога мастака не ўдалося. Ён памёр 15 студзеня 1951 года ў Гданьску, дзе і быў пахаваны на Гарнізонных могілках. На месцы пахавання Кузьмы Чурылы зроблена сціплае, але трывалае надмагілле, якое існуе і цяпер.

Ежы Гоппэн напісаў пасля смерці Кузьмы Чурылы ў «Польскім ілюстраваным кур'еры»: «Польскае мастацтва страціла ў ім выдатнага мастака. Смерць перарвала яго працу ў час творчага росквіту». Стэфан Нарэмбскі падкрэсліў, што «смерць забрала Чурылу ў росквіце гадоў. Памёр мастак выключнага маштабу і магчымасцяў — творчая асоба, асабліва каштоўная ў сучасны пераломны для польскай пластыкі перыяд».

Штогод 1 лістапада дзеці або ўнукі Кузьмы Чурылы наведваюць яго магілу. Марэк Чурыла памятае прагулкі з бацькам у Торуні, па Вісле, а таксама тую няшчасную паездку на рэнтгенаўскае даследаванне, якое выявіла пухліну ў бацькавых лёгкіх. Ірына памятае бацьку нібы ў тумане: дома, у піжаме, ён бавіўся з ёю і з братам. Потым з'ехаў у шпіталь... Ён памёр, калі дачцэ было ўсяго толькі пяць гадоў, а Марэку — восем.

У кастрычніку 1951 года ў Торуні адбылася пасмяротная выстава творчай спадчыны Кузьмы Чурылы. З гэтай нагоды быў выдадзены невялікі каталог з уступным словам Ежы Гоппэна. На выставе было прадстаўлена 127 працаў мастака: 12 партрэтаў, 6 кампазіцый, 1 акт (ню), 16 алейных пейзажаў, 1 жанравая сцэна, 2 тэмперныя пейзажы, 17 акварэльных пейзажаў. Астатнія працы былі напісаны тушшу (1 эцюд, 1 акт, 4 эскізы з натуры, 2 працы, прысвечаны пабудове моста ў Торуні, 9 пейзажаў), алоўкам (5 партрэтаў, аўтапартрэт, 4 акты, 1 праца пра капанне бульбы, 8 — пра пабудову моста ў Торуні, 9 пейзажаў), сангінаю (7 партрэтаў, 1 аўтапартрэт, 2 акты, 1 пейзаж), сярод іншых працаў ёсць таксама афорты (4 пейзажы, «Будова моста ў Торуні», «Старыя ліпы»), адна ў тэхніцы мяккага лаку («Служэнне Польшчы»). На выставе не падаваліся даты напісання твораў, не называўся матэрыял, на якім былі выкананыя пра-



цы. У суцільным каталогу змяшчаліся ўсяго толькі рэпрадукцыя аўтапартрэта мастака і тры графічныя творы. Ежы Гоппэн напісаў у каталогу: «Дастаткова толькі павярхоўна акінуць вокам сабраныя працы, каб вызначыць характар творчасці мастака і сферу яго пластычнай уражлівасці. Гэта творчасць незвычайная, яе нельга аднесці да канкрэтна вызначанага віду пейзажнага, партрэтнага альбо інтэр'ернага жывапісу. І хоць амаль ва ўсіх працах дамінуючым матывам з'яўляецца краявід, аднак ім не вычэрпваецца змест карціны, бо на яго фоне амаль заўсёды знаходзіцца чалавек. Сувязь чалавека з краявідам — гэта найважнейшы элемент працаў Чурылы. Таму ў сваёй творчасці аўтар імкнецца да пазнання і даследавання гэтых дзвюх сфераў рэчаіснасці: чалавека і прыроды. Адсюль узніклі пейзажныя эцюды з дрэвамі, кустамі, ручаямі, дварамі, а таксама эцюды з чалавечаю постаццю, з групамі людзей, якія працуюць, маці з дзецьмі, акты, партрэты і г. д. <...> Як выдатны мастак Чурыла характарызуе прадмет выразна, надае яму канкрэтную форму — поўную, без пустых недагаворак, пазбаўленую фармалістычнага налёту. Гэта рэальная форма. <...> Таленавіты, працавіты, энергічны, Чурыла выкарыстоўваў амаль усе віды тэхнікаў, у тым ліку і графіку, у якой ён быў майстрам».

У «Торуньскай газеце» і «Польскім ілюстраваным кур'еры» з'явіліся дзве станоўчыя рэцэнзіі. Выстава павінна была вандраваць далей, але нечакана ў дарозе яна цалкам загінула. Ванда Чурыла спрабавала высветліць, што з ёю здарылася, але, як успамінае Барбара Гоўвальт-Касцецкая, прафесары Торуньскага універсітэта імя Мікалая Каперніка прасілі яе спыніць пошукі, «таму што гэта для яе магло дрэнна скончыцца». Быў 1951 год. Нават ва ўступным слове ў каталогу да выставы Ежы Гоппэн звярнуў увагу на палітычную карэктнасць творчасці Кузьмы Чурылы: «Сувязь творчага фактару ў асобе аўтара з рэалістычнаю школаю дало яго працам той пазітыўны вынік, што яны адначасова характарызавалі сучасныя імкненні польскага мастацтва. Дэвіз сацыялістычнага рэалізму без цяжкасці знаходзіць у іх свой водгук, таму што арганічна спалучаецца з асобаю мастака. Апошнія яго працы на тэму пабудовы мосту ў Торуні з'яўляюцца выразным прыкладам твора мастацтва ў стылі сацыялістычнага рэалізму».



***

Нягледзячы на тое, што Кузьма Чурыла пражыў усяго 43 гады, на якія прыпала яшчэ і Другая сусветная вайна, ён пакінуў немалую мастацкую спадчыну. Яго дыпломная праца «Капанне бульбы» за 1936 год знаходзілася ў Музеі літоўскага мастацтва (цяпер — Літоўскі мастацкі музей) у Вільні, як і іншыя алейныя карціны: «Аўтапартрэт» і «Партрэт бургамістра горада Вільні Чыжа». Магчыма, гэтыя працы ў 1939 годзе закупіў Віленскі гарадскі музей. Літоўскі мастак, графік і гісторык мастацтва Уладас Дрэма меў у Вільні карціну Кузьмы Чурылы «Адпачынак падчас сенакосу», напісаную алеем у 1940 годзе. Нацыянальны музей у Варшаве захоўвае ў сваіх зборах карціну «Дуб» (алей). У зборах музея ў Грудзёндзы знаходзяцца карціны «Вечар у парку», «Купанне» і «Эскіз да кампазіцыі» (алей); у Музеі імя Льва Вычулкоўскага ў Быдгошчы — карціна «Над Віліяй» (алей). Дачка Кузьмы Чурылы Ірына мае ў Варшаве толькі адзін бацькаў акварэльны пейзаж. Як спадчыну ад бацькі яна захавала некалькі яго фотаздымкаў (сярод іх ёсць тыя, на якіх Кузьма Чурыла знаходзіцца ў коле студэнтаў факультэта прыгожых мастацтваў Віленскага універсітэта, і тыя, што прызначаліся для студэнцкага пасведчання), а таксама дакументаў (атэстата сталасці, службовага пасведчання з Торуньскага універсітэта). Марэк Чурыла, пакідаючы матчын дом у Торуні, атрымаў у спадчыну каля 30 бацькавых працаў. У бібліятэцы Торуньскага універсітэ-

та імя Мікалая Каперніка знаходзяцца графічныя творы Кузьмы Чурылы. Некалькі працаў ёсць у Акруговым музеі ў Торуні, напрыклад, алейны партрэт Тадэвуша Гадзішэўскага. У прыватным зборы Альдоны Рамановіч у Варшаве знаходзіцца партрэт Раманы Гінтыл, а ў Ванды Дамброўскай у Ольштыне — карціна «Кірмаш у Вільні» (палатно, алей). У пераважнай большасці гэта працы віленскага перыяду, напісаныя да 1945 года. Зусім выпадкова мне ўдалося атрымаць адзін графічны твор са збораў Оттана Краснапольскага, падпісаны К. Чурылам.

На жаль, не захавалася паліхромія ў касцёле ў Аляксандраве Куяўскім. У 70-я гады яе замалявалі алейнаю фарбаю, і цяпер нават няма шанцаў на яе аднаўленне. Пра насценны жывапіс у Торуні наогул нічога невядома...

У Цэнтральным дзяржаўным архіве ў Вільні захоўваецца папка Кузьмы Чурылы з перыяду яго навучання ў Віленскім універсітэце. Дыплом аб атрыманні адукацыі захаваўся ў архіве Торуньскага універсітэта, як і іншыя дакументы пасляваеннага часу — жыццяпісы, рэкамендацыі, заявы на працу, эвакуацыйная карта. У апытальніку Кузьма Чурыла падаў звесткі пра двух братоў з Крутога Берага.

***

Пра сваякоў з Беларусі дзеці Кузьмы Чурылы не ведалі. Калі бацька памёр, яны былі яшчэ надта малыя, акрамя таго, мастак пасля пераезду ў Польшчу не падтрымліваў кантактаў з роднымі. Звесткі пра двух братоў з Крутога Берага не давалі мне спакою. Напярэдадні 100-й гадавіны з дня нараджэння Кузьмы Чурылы мы з Гражынаю Харытанюк-Міхей накіраваліся ў Нясвіж у пошуках слядоў мастака. Быў панядзелак, і Нясвіжскі гісторыка-краязнаўчы музей не працаваў. Заставаўся аддзел культуры ў райвыканкаме, дзе мы выклікалі сенсацыю. Незвычайна сімпатычная пані Ніна Бяганская вельмі хутка знайшла для нас праваднік з гісторыка-краязнаўчага музея, Ірыну Калібабу, якая паехала з намі ў Круты Бераг. Хоць было 24 лістапада, ужо панавала зіма. У нядзелю выпаў снег, і ўся Беларусь выглядала як на зімовым пейзажы. Круты Бераг знаходзіцца недалёка ад Нясвіжа, усяго за 7 кіламетраў ад яго. Кузьма Чурыла, напэўна, хадзіў у гімназію пехам. Зімою ён, магчыма, здымаў у горадзе які-небудзь куток. Вёска аказалася вялікая, каля 100 двароў, жыхароў жа каля 200, у асноўным старыя людзі. Мы завіталі да самай старэйшай, 97-гадовай, жыхаркі вёскі. На жаль, памяць у гэтым узросце аказалася ненадзейнаю: бабуля няшмат ужо памятала і са свайго мінулага. Ёю апякуецца аўдавелы зяць. Паколькі ў вёсцы яшчэ ёсць людзі з прозвішчам Чурыла, мы пайшлі да іх. У доме пад нумарам 50 жыве Галя Чурыла. Яна акурат выйшла нам насустрач, пытаючыся, ці не да яе ў госці мы ідзём. Аказалася, што мы трапілі ў радавую сядзібу Кузьмы Чурылы. Старой хаты ўжо няма. Браты мастака Антон і Ігнась пабудавалі ў 1936 годзе хату «на два канцы». Яны маглі сабе гэта дазволіць, таму што Антон ужо больш не фінансаваў навучанне Кузьмы. У сямейным альбоме мы знайшлі гімназійныя фотаздымкі Кузьмы і яго братоў. Цётка Галя апавядала пра тое, як Антон не мог знайсці «канцоў» Кузьмы. «Вось і канцы знайшліся, — кажа яна, — а Антон усё шукаў, шукаў, але да смерці так і не знайшоў, хоць памёр у 1980 годзе. Цяпер слядоў Кузьмы шукае Люся, унучка Антона, якая жыве ў Баранавічах». Ад цёткі Галі мы даведаліся, што Кузьма падчас навучання прыязджаў дадому толькі зімою. Антон на цэлы дзень адвозіў яго ў лес, які быў іх уласнасцю. Лесу было каля 10 гектараў». Кузьма маляваў і маляваў гэты зімовы лес. Ці застаўся хоць які-небудзь яго зімовы пейзаж? У Крутым Беразе няма ніводнай яго карціны. Цётка Галя ўспаміна, што ў 1936 годзе ён маляваў партрэт пляменніка Мішы, якому было тады 10 гадоў, а цяпер ён жыве ў пасёлку Моўчадзь. Але партрэт не захаваўся. Летам Кузьма не прыязджаў у Круты Бераг. Ён меў у вёсцы свае 5 гектараў зямлі, якую апрацоўваў брат Антон і за гэта фінансаваў яго навучанне ў Вільні. Бацькі мастака, Эльжбета (Ліза) і Канстанцін, памерлі рана — на пачатку 30-х гадоў, як кажа цётка Галя, ад цяжкай працы і ад гора. Брат Антона і Кузьмы, Ігнась, быў малодшым царскім афіцэрам і ледзьве ўратаваў сваё жыццё пры бальшавіцкай уладзе. Разам з дзецьмі і жонкаю расіянкаю ў 1923 годзе ён вярнуўся з Расіі. Жыў у суседняй вёсцы Завітай, дзе да цяперашняга часу жыве яго сын. Ігнась меў яшчэ дзве дачкі, адна з якіх жыве ў Нясвіжы. Адкрыццём для нас стала тое, што ў Кузьмы Чурылы былі сёстры, пра якіх ён не згадваў у торуньскіх дакументах. На адным з фотаздымкаў за 1926 год у кампаніі сяброўкі і сяброў сядзяць Марыя Чурыла, Дамініка... Анюта... І Кузьма, які знікнуў з сям'і пасля вайны. Пасля шлюбу са збяднелаю шляхцянкаю, як кажа цётка Галя, ён таксама не прыязджаў у родную вёску. Быў за мяжою, потым былі саветы, потым немцы... Браты здагадваліся, што ён выехаў на захад, але куды, высветліць не атрымлівалася. Такія былі часы. Вяскоўцаў раскулачвалі... А ў 1941 годзе Антон ужо значыўся ў спісе ўладаў як кулак, але прыйшлі немцы і ён пазбег высылкі. Пасля вайны стараўся даць адукацыю сынам — Міхасю, Эдзіку і Мечыку. Пасля 1956 года да сваіх бацькоў у Круты Бераг раптам прыехала пані Варанкевіч з Гданьска. Яна прыйшла да Чурылаў і прынесла фотаздымак магілы Кузьмы. Варанкевіч выпадкова трапіла на яго пахаванне, бо акурат у той дзень была на могілках. Нягледзячы на спробы Антона Чурылы наладзіць якія-небудзь кантакты з братавою сям'ёю, нікога знайсці не ўдалося. А можа, з БССР не даходзілі лісты? Урэшце, Антон не меў адрасу Кузьмы, таму пісаў уладам Гданьска, каб яны дапамаглі яму знайсці сям'ю брата. Адказу ніводнага разу не атрымаў. І паміраў у 1980 годзе з трывогаю, што яму так і не ўдалося адшукаць Кузьму. Ён нават не ведаў, што ў Польшчы ў яго ёсць пляменнік і пляменніца, якія не здагадваліся пра сям'ю ў Беларусі...

З цёцяй Галяю мы пабрылі па глыбокім снезе да магілаў яе цешчы і цесця, Антона і Дамінікі, а таксама яе мужа Мечыслава, які трагічна загінуў, і сына Антона. Іх магілы знаходзяцца на самым узгорку, каля падножжа якога пахаваныя бацькі Кузьмы Чурылы. Спрабуем расшыфраваць сцёртыя часам надмагільныя надпісы: «Чурыла Лиза... Константин...»

Юры Лаўрык

# ФУНДУШОВЫЯ БІБЛІЯТЭКІ

Як ўжо адзначалася ў адным з папярэдніх артыкулаў цыкла, звесткі пра гэты від кнігазбораў сустракаюцца ў дакументах візітацый парафіяльных касцёлаў толькі з 2-й паловы XVIII ст., таму з'яўленне фундушовых бібліятэк на Беларусі можна датаваць прыкладна гэтым часам. Друкарства ўжо тады развілося даволі моцна і напоўніла краіну разнастайнымі ды таннымі кнігамі, што і заклала перадумовы стварэння бібліятэк. Няма сумніву, што пэўную ролю ў з'яўленні фундушовых бібліятэк адыгралі і адпаведныя часу асветныя тэндэнцыі ў грамадстве, асабліва — сярод яго заможнейшых слаёў. Калі раней фундатары дадавалі святыням каштоўнае начынне ці паасобныя літургічныя кнігі, цяпер яны нярэдка ахвяравалі цэлыя зборы кніг, якія перадавалі «на баланс» плябаніі. Адсюль і сама назва «фундушовыя бібліятэкі», бо яны знаходзіліся «in Fundo» плябаніі і, адпаведна, фігуравалі ў актах візітацый як «Xięgi Funduszowe».


ROK SKARBOWY
Dźieł Páńskich
Niedźielnemi Kazániámi
OGŁOSZONYCH,
DO DNI SKARBOWYCH
álbo Swiątecznych Kazań dołożony,
A
W pełne DZIEŁ PAŃSKICH Ręce
IASNIE WIELMOZNEGO IEgo-MOśći
PANA
MAXIMILIANA
FRANCISZKA
z Tęczyná
OSSOLINSKIEGO
PODSKARBIEGO Nádwornego
KORONNEGO, SANDOMIR-
SKIEGO, CHMIELNICKIEgo &c.
STAROSTY,
Pokorną poufałośćią oddány,
Y
Między Litá do usług WIELKIEMU DOMOWI
Obligowane, POLICZONY
Od X. ANTONIEGO SZYRMY Societ: IESV.
MDCCXXII.
W WILNIE w Drukárni Akádemickiey Soc: IESV.

Тытульны аркуш зборніка казанняў «Rok Skarbowy Dzieł Pańskich» (Вільня, 1722) езуіта Антона Шырмы.

Другой крыніцай, з якой папаўняліся такія кнігазборы, былі прыватныя бібліятэчкі парафіяльнага клеру. Такім прыкладам з'яўляецца койданаўская бібліятэка. Мы сустракаем у інвентары плябаніі толькі «Opisanie Xiąg Plebańskich», сярод якіх пералічаны 16 пунктаў — пераважна зборнікі казанняў, трактаты па тэалогіі і да т. п.: напрыклад, пропаведзі Шырмы і Макоўскага, «Tractatus Theologicus» і «Tractatus de Sacramentis in genere et specie» і інш.[1] У дакументах жа візітацыі гэтага касцёла і плябаніі (праз 10 гадоў) мы знаходзім усе тыя самыя кнігі (за невялікім выключэннем), пералічаныя ўжо пад загалоўкам «Regestr Xiąg Funduszowych»[2].

Нярэдка святары даравалі касцёлу свае бібліятэкі яшчэ пры жыцці, як гэта было ў Мікалаеўскім касцёле ў 1797 г. — не выключана, што пад уплывам візітатара, які некалькі разоў згадвае пра гэты дарунак у сваім рапарце біскупу Касперу Казіміру Калюмну-Цецішоўскаму: «Darował WJM X. Proboszcz temu Kościołowi Xsiążki»,[3] «WJM X. Proboszcz ma własną Bibliotekę pięknych autorow, pod Czas tey Wizyty darował Kościołowi i są wciągnięte do Inwentarzow»[4]. Самі кнігі ў колькасці двух з паловай дзесяткаў пералічаюцца ў дакуменце, азагалоўленым як «Regestr Przybyłych Rzeczy»[5].

Адсутнасць фундушовых бібліятэк пры святыні нярэдка адзначалася ў інвентарах. Напрыклад, у 1789 г. у акце перадачы маёмасці холхельскага касцёла і плябаніі новаму пробашчу Тамашу Лемку было пазначана: «Biblioteki dotąd szczegulney niema»[6], што сведчыць пра ўжо значную пашыранасць фундушовых бібліятэк на той час. Фактычна ж іх наяўнасць залежала ад таго, ці былі ў парафіі дабрадзеі, гатовыя ахвяраваць літаратуру святыні. Калі такіх не знаходзілася, дык фундушовага кнігазбору магло не быць нават пры фары, як, напрыклад, у канцы XVIII ст. у Мінску («Xiąg In Fundo Plebanii Mińskieó, żadnych nie ma procz Kościelnych...»)[7].

Другой умовай існавання такіх бібліятэк магла быць і зацікаўленасць у іх касцёльнага кіраўніцтва сярэдняга ўзроўню, бо інакш складана растлумачыць амаль паўсюдную наяўнасць такіх кнігазбораў у парафіях, напрыклад, Мінскага дэканата, і поўную іх адсутнасць у Давыд-Гарадоцкім у тыя самыя часы (1796–1797 гг.)[8].

Захоўваўліся фундушовыя бібліятэкі або ў адмысловай шафе ў адным з пакояў плябаніі (як, напрыклад, у Дзераўной[9]), або — радзей — у адной з кас-

**Юры Лаўрык** — загадчык бібліятэкі Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Закончыў бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт Мінскага універсітэта культуры, тэалагічны і гістарычны факультэты Люблінскага каталіцкага універсітэта. Даследуе гісторыю беларускай кнігі і бібліятэк.

цёльных сакрыстый, называнай зазвычай «скарбцам» (як, напрыклад, у Івянцы[10]). У сярэднім кнігазборы налічвалася некалькі дзесяткаў тамоў, але велічыня фонду такіх бібліятэк знаходзілася ў залежнасці не столькі ад значнасці касцёла, колькі ад добрай волі ці заможнасці яго спрыяльнікаў, прычым «разбежка» ў аб'ёме фондаў вагалася ад некалькіх паасобных кніг да сотняў тамоў.

Безумоўна, тут не магла не адыгрываць ролю і прысутнасць у парафіі клеру. Прытым вынік гэтай прысутнасці мог быць цалкам процілеглым. Так, бібліятэкі езуіцкіх місій (зазвычай досыць вялікія і разнастайныя) па скасаванні Таварыства Езуса заставаліся ва ўласнасці плябаніі, як гэта было, відаць, у Блонях. З другога боку, фундушовыя кнігазборы ў парафіях, якія абслугоўваліся тым ці іншым законам, увогуле не ствараліся, бо іх ролю выконвалі кляштарныя бібліятэкі, пра што сведчаць дакументы візітацый 1780-х гг. ракаўскага і серафінскага касцёлаў. Першы з іх, пад тытулам Спаслання Святога Духа і Унебаўзяцця Панны Марыі, належаў дамініканам, другі, пад тытулам св. Антонія, — францішканам. У акце візітацыі ракаўскага касцёла бібліятэка проста не апісаная, і тое, што яе няма, у дакуменце ніяк не пазначана[11]. Пра серафінскі збор мы канкрэтна чытаем, што «Biblioteka zakonna lubo wniewielkiey liczbie na nowym Funduszu znayduie się, iednak co dopotrzeby Moralnych Xiąg y Kaznodziejow, według potrzeby ma Klasztor»[12].

Прыведзеная вышэй цытата добра дэманструе, якой літаратурай павінны былі камплектавацца фундушовыя бібліятэкі — у першую чаргу, неабходнай для душпастырскай працы: казаннямі і павучальнымі творамі. Гэтая тэндэнцыя, па сутнасці, і назіраецца, аднак побач з такімі кнігамі ў фундушовых зборах нярэдка можна сустрэць і Святое Пісанне, трактаты па тэалогіі, зборнікі пастановаў сінодаў і нават падручнікі па рыторыцы ці працы па гісторыі і геаграфіі, іншых галінах ведаў.


CHWAŁA
Chwalebnego w Swiętych ſwoich Boga, y Swiętych w Bogu uwielbionych,
Kazaniami ná wſzyſtkie w Roku całym dni Swięte, y niektore Akty publiczne po rożnych Katedrach Chrześciańſkiey dla náśladowania Pobożnośći
OGŁOSZONA.
J. W. Jmći PANU
P. JERZEMU AUGUSTOWI
S. P. R. Hrabi z Wielkich Kończyc, y Oſsownicy
WANDALINOWI
MNISZCHOWI
MARSZAŁKOWI Nádwornemu Koronnemu, Sanockiemu, Lubaczowſkiemu, Grudziądzkiemu &c. Starośćie S. Jędrzeia, y białego Orła Kawalerowi
Ná dowod uprzeymey Imieniowi Temu życzliwośći przyßłych dla pamięci wiekow
ZAPISANA.
Przez X. Samuela od S. Floryana Scholarum Piarum Prowincyi Polſkiey Konſultora
Roku Pańſkiego 1747.
TOM PIERWSZY
W WARSZAWIE
w Drukarni J. K. M. y Rzpltey XX. Scholarum Piarum.

Тытульны аркуш зборніка казанняў «Chwała Chwalebnego w Swiętych Swoich Boga» (Варшава, 1747).

Як было сказана вышэй, у найменшых фундушовых кнігазборах магло налічвацца ўсяго некалькі кніг. Менавіта столькі кніг захоўвалася ў фундушовай бібліятэцы ў Налібаках, дзе касцёл быў фундаваны канцлерам Вялікага Княства Літоўскага князем Альбрэхтам Радзівілам і збудаваны ў 1636 г. пад тытулам Найсвяцейшай Панны Марыі. У інвентары яны пералічаныя:

1. Commentarium in Folio Sebastianij Berradij SJ: Suprrasi(?) scriptum — 1.
2. Index Homiliar. in 4to maiori Sine Titulo autehoris(!) — 1.
3. Homiliae in 4to Majori R. P. Joannis de Carthagina — 1.
4. Theologia Moralis in 4to Majori. Toleti — 1.
5. Hortus Pastorum in 4to — 1[13].

Пераказваючы нашай мовай, у бібліятэцы быў пісаны ад рукі фаліянт «Каментару» езуіта Себасцьяна Берадыя, а таксама некалькі кніг фарматам у «вялікую» і «звычайную 4-ку», а менавіта: зборнік гамілій без назвы і ўказання аўтара (відаць, са страчаным тытульным аркушам), гаміліі Яна з Карфагена і «Тэалогія маральная» Талета ды яшчэ кніжка, кваціста азагалоўленая ў стылі эпохі — «Hortus Pastorum» («Сад пастыраў»). Як бачым, гэтая бібліятэчка была ўкамплектаваная толькі літаратурай для душпастырскай дзейнасці.

Як адносна невялікі можна ахарактарызаваць і фундушовы кнігазбор у Дзераўной. Касцёл тут быў таксама фундаваны Радзівіламі і ўзведзены ў 1598 г. пад тытулам Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. Мясцовая бібліятэчка ўключала 17 кніг, сярод якіх была кніга па маральнай тэалогіі і шэраг папулярных зборнікаў казанняў такіх аўтараў, як Бальсама, Філіповіч, Самуэль Высоцкі і інш. Большая частка кніг была літаральна зачытаная да дзірак і не мела ані пачатку, ані канца[14]. Бібліятэчка захоўвалася ў адным з пакояў у плябаніі, якая мясцілася насупраць касцёла («Ex opposito kosciola Plebania z brusów porządnych postawiona»)[15]. Візітатар дакладна апісаў «геаграфію» будынка: увайшоўшы, трэба было прамінуць спярша сені, за імі — пакой плябана, а тады трапіць у другі пакой, дзе была «z iedney strony biblioteka, do ktoreó drzwi pojedyncze z zamkiem Francuskim, z drugieó strony — Garderoba...»[16]. Кніжная шафа, названая тут бібліятэкай, была невялікая, аднадзверная, што абумоўлівалася нязначнай колькасцю кніг у зборы.

Крыху большай па аб'ёме




Зборнік прапаведніцкіх твораў езуіта Пятра Трухновіча «Exhorty Postne o Męce Pana y Zbawiciela Naszego Jezusa Chrystusa», выд. у Вільні ў 1729 г. (з уладальніцкім надпісам лучайскага касцёла, зробленым у XX ст.)

была бібліятэка ў Волме, якая заслугоўвае азначэння тыповага фундушовага кнігазбору. Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі быў фундаваны ў мястэчку ў 1474 г. Станіславам Даўкшэвічам і яго жонкай. Што дачыць кнігазбору, дык у ім налічвалася два з паловаю дзесяткі тамоў, досыць разнастайных паводле складу. Так, згодна з інвентаром візітацыі 1783 г., тут побач са зборнікамі прапаведніцкіх твораў (а былі, напрыклад, казанні кс. Кярсніцкага, Вуйка, Пярновіча) ды твораў па маральнай і дагматычнай тэалогіі захоўваліся лацінская Біблія, кнігі па філасофіі, сусветнай гісторыі, геаграфіі, пастановы сінодаў і інш. Літургічная літаратура ў гэтым зборы была прадстаўлена цыраманіялам — чамусьці ў францішканскай версіі. Гэта не адзінкавы выпадак, калі мы сустракаем францішканскія ці дамініканскія выданні ў касцёлах. Тлумачэннем гэтай з'явы можа быць той факт, што прадстаўнікі гэтых законаў нярэдка дапамагалі свецкім святарам праводзіць душпастырскую працу ў парафіях.

Параўнальнай з гэтым кнігазборам была фундушовая бібліятэка ў вузденскай плябаніі. Касцёл у мястэчку Узда быў фундаваны ў 1648 г. Крыштапам Кавячынскім пад тытулам Перамянення Пана. На жаль, адсутнічае тытульны ліст візітацыі, таму нельга адназначна сказаць, у якім годзе інвентар быў складзены (верагодна, у першай палове 1780-х гг.). Аднак напрыканцы дакумента іншай рукой дапісана, што маёмасць святыні была зверана візітатарам у 1790 г. і ўсе кнігі збору, пазначаныя як «Książki Fund[uszowe]», на той час меліся ў наяўнасці. У інвентары пералічана 30 назваў кніг, некаторыя з іх — у некалькіх тамах. Склад гэтай бібліятэкі падобны да бібліятэкі ў Волме: пры значнай перавазе зборнікаў казанняў (творы такіх аўтараў, як Пашакоўскі, Рыдзеўскі, Рыхлоўскі і інш.), выданняў па маральнай і дагматычнай тэалогіі тут захоўваліся Біблія на лацінскай мове, пастановы дыяцэзыяльных сінодаў, патрэбныя для прапаведнікаў і душпастыраў кнігі («Enchiridion Piarum Praedicatorum», «Cathechismus Praedicatus», «Praxis Catechetica»), а таксама слоўнікі і падручнікі па гісторыі, арыфметыцы, рыторыцы (у тым ліку «Прамовы» Цыцэрона). А тое, што побач з гэтымі падручнікамі меліся рукапісныя «кампендыюмы» па філасофіі ды логіцы, па лацінскай граматыцы, сведчыць пра добрую адукацыю святароў парафіі.

Каля 50 тамоў захоўвалася ў пяршайскай бібліятэцы. Тут мы сустракаем шэраг ужо знаёмых нам імёнаў вядомых аўтараў казанняў — такіх як, напрыклад, Шырма, Пашакоўскі, айцец Самуэль (Высоцкі). Знаходзім таксама шмат кніг па маральнай і дагматычнай тэалогіі (у тым ліку некалькі трактатаў розных аўтараў пад тытулам «Theologia Moralis»), дапаможнікі па медытацыі («Xiążeczka Medytacya», «Xiążeczka Medytationes Spirituales»), акты дыяцэзіяльных сінодаў і г. д. Захоўваліся дзве кнігі на нямецкай мове, пададзеныя без указання назваў.

Касцёл Святой Тройцы ў Івянцы быў фундаваны ў 1606 г. каралямі польскімі, але пасля таго, як Івянец перайшоў ва ўладанне Салагубаў, апошнія актыўна ўзяліся за рэстаўраванне і забеспячэнне святыні ўсім неабходным — у тым ліку і кнігамі. Фундушовая бібліятэка захоўвалася ў касцёле: «W Skarbcu czyli Zakrystyi drugiey znayduiąsię Szafy zkratami; gdzie niegdyś Archiwum J[asnie]WW[elmożnych] Sołłohubow kołłatorow złożone było. Teraz tylko w tych Szafach niektóre znayduią się Książki stare do Nabożenstwa i inne od J[asnie]W[elmożnej] J[eymości]Pani Brigitty Sołłohubowey Generałowey W[ielkieg]o X[ięstw]a Litt[ewskieg]o Kościołowi oddane, który niżey opiszą się»[17].

Спіс быў азагалоўлены наступным чынам: «Biblioteka. Regestr Ksiąg Fundo Plebanii Iwienieckiey perpetuis temporibus przez S[więtey]p[amięci]: J[aśnie]O[świeconą] Xiężnę Sołłohubowę Gener[ałowę] W[ielkieg]o X[ięstw]a Litt[ewskieg]o są oddane i w Kościele w Skarbcu złożone». Бібліятэка змяшчала каля 50 назваў кніг у больш як 60-ці тамах і, падобна да апісаных вышэй, мела ў сваім складзе вялікую колькасць прапаведніцкай і тэалагічнай літаратуры

(творы Бальсама, Ляхоўскага і Крыспі, а таксама такія распаўсюджаныя выданні як «Uwagi chrześciańskie», «Głos Pasterski», «Posag duchowny», «Manna duszy»), некалькі выданняў Бібліі папольску і інш. Ад іншых фундушовых збораў гэты адрозніваўся вялікім працэнтам мастацкай літаратуры («Трагедыя» Лісімаха, «Zebranie Rytmów Staropolskie»), гістарычнай (творы Тацыта, «Historya o Krucyatach», «Historye o Janie Sobieskim») і палітычнай («Plac Polityki», «Rozmowa o Elekcyi i Wolności»), а таксама наяўнасцю 5-томнага «Гербоўніка шмат якіх дамоў» і нават кнігі на французскай мове «Methode pour Etudies»[18].

Касцёл у мястэчку Камень быў узведзены ў 1524 г. пад тытулам святых апосталаў Пятра і Паўла фундаваннем Мікалая Караля Забярэзінскага, «apospustoszeniu Moskiewskim przez Wielmożn[ą] J[ego]m[iłoś]ci Panią Elzbetę z Dołmatow Izaykowską Białozorową w R[ok]u 1685. Restowrowany y Przydaniem Dobr wsparty ...». Тым не менш, кнігі парафіі ахвяравала не яна, а колішні плябан, які адначасова выконваў функцыі і мінскага дэкана, кс. Дамінік Грыбоўскі: «Specyfikacya Xiąg Fundo Plebanii Kamienskiey perpetuis temporibus zapisanych p[rzez] S[więtey]: P[amięci]: W[ielmożneg] J[egomiłość]X[iędz]a Dominika Grzybowskiego Dziekana Min[skie]go Plebana y Altaryste Kamienskiego». Зрэшты, зноў жа, невядома, ці ўсе гэтыя кнігі паходзілі з уласных збораў гэтага пастыра, ці, наадварот, частка іх ужо была раней у плябаніі.

Гэтая бібліятэка складалася з амаль 70 назваў кніг агульнай колькасцю каля 80 тамоў. Асабліва добра ў яе фондзе былі прадстаўлены выданні прапаведніцкіх твораў, сярод якіх меліся творы амаль усіх найбольш вядомых айчынных аўтараў гэтага жанру: Даўгялы, Рыхлоўскага, Шырмы, Мухоўскага, Чарняўскага, Філіповіча, Грыбоўскага, Пашакоўскага і іншых. Натуральна, прысутнічалі трактаты па маральнай тэалогіі, Святое Пісанне і Канкардацыя — па лаціне, душпастырская літаратура (напрыклад, «Sposyb Katechizmowania zludzmi»), пастановы сінодаў, дапаможнікі па медытацыі і шмат што іншае, у тым ліку Брэвіяры і Імшалы. З кніг, нехарактэрных для фундушовых бібліятэк, у гэтым зборы былі вядомы твор Тамаша Кэмпійскага, гербоўнік Акольскага, слоўнік Кнапскага і «Dzieje Korony Polskiey za Krola Zygmunta».

Касцёл у Блонях быў фундаваны войскім ваўкавыскім Іллінічам для Таварыства Езуса з мэтай заснавання ў мястэчку місіі, на якой пазней працавалі чатыры езуіты. Пасля скасавання закону касцёл пад тытулам св. Яна Францішка Рэгіса быў пераўтвораны ў фарны і *de iure* зрабіўся цэнтрам парафіі, якім *de facto* ён з'яўляўся і раней.

Пры парафіі захоўвалася даволі грунтоўная фундушовая бібліятэка. У 1785 г. у яе вопісе пералічвалася 212 тамоў, але паколькі на асобным аркушы ў канцы інвентара спіс з шэрагу назваў паўтараецца, магчыма, частка кніг была выпадкова прадубляваная візітатарам[19]. Але нават калі рэальна бібліятэка і з'яўлялася меншай, яна ўсё роўна ў некалькі разоў перавышае аб'ём фонду звычайнай фундушовай бібліятэкі. А паколькі пра ахвярадаўцаў кнігазбору звестак няма, дык, памятаючы пра тады яшчэ зусім нядаўняе знаходжанне ў Блонях езуіцкай місіі, цяжка не звязаць з'яўленне бібліятэкі з гэтым самым адукаваным — і адукуючым! — у свой час законам, тым больш, што там узгадваецца шмат уласна езуіцкіх выданняў. Такім чынам, само сабой напрошваецца меркаванне, што блоньскі фундушовы кнігазбор з'яўляецца місійнай бібліятэкай, якая пасля скасавання закону перайшла ва ўласнасць новастворанай фары.

Паколькі бібліятэка належала місіі, а не калегіі, яна адрознівалася ад іншых езуіцкіх кнігазбораў адносна невялікай колькасцю падручнікаў і адукацыйных выданняў. Безумоўна, тут ёсць, напрыклад, «Liber Geografiae», «Studium Polemicum» або «Eloquientia», але перавага належыць зноў жа — як і ў іншых фундушовых бібліятэках — прапаведніцкай, маральна-павучальнай і душпастырскай літаратуры (творы Вольскага, Кужынецкага, Трухновіча, а таксама такія распаўсюджаныя выданні як, напрыклад, «Ambona Ducha S[więte]go do Serca», «Posag Duchowny», «Rok Skarbowy Dzieł


żywſzy Dźiedźictwa, ktore iáko łáſkáwą pielęguieſz opieką, przepowiedźiał Prorok: *Factus es fortitudo pauperi, fortitudo egeno in tribulatione ſua, ſpes â turbine, umbraculum ab æſtu.* Lecz daię pole byſtrzeyſzym, Jáśnie Wielmożny Protektorze z Rzymſkim ziednoczoney Ruśi Kośćiołem, ná Twoiey wyſłáwienie ſzczodrobliwośći dowćipom, mnie dość ná tym, że: *Sagittæ Tuæ infixæ ſunt mihi, confirmaſti ſuper me manum Tuam,* ieſtem pod ćieniem Xiężycá Twego, pod nieſtępiáłym żeleżcá záſzczytem, Herbowney Strzáły ná ſercu zrá-

ZYWOT MĘZA BOZEGO, *Pámięći Nieśmiertelney* HIPACIUSZA POCIEIA, *Metropolity cáłey Ruśi; Biſkupa Włodźimierſkiego y Brzeſkiego.*

HIPACIUSZ POCIEY, Filár Iednośći świętey, Ruſkich kraiow ozdobá, Wſchodniey Cerkwie luminarz, Apoſtoł Roxolańſkiego Narodu, urodźił ſię w Rożánce z Prześwietnych Rodźicow, Lwa Poćieia, Podſkarbiego, y Piſarzá Naywyżſzego, Naiáśnieyſzego Monarchi Polſkiego, Zygmunta I. y Anny Łoſzczánki, Roku od Narodzenia Wćielonego Páná, 1541. ná Krzćie świętym, Adamem, iákoby Prorockim Duchem, PraOycem odrodzonych z odſzczepieńſtwa Greckiego Kośćiołowi Rzymſkiemu, Ruſkiego Narodu Potomkow, mianowány. Látá dziećinne przy uczćiwym wychowaniu, práwie od niemowlęctwa przy Maieſtaćie Krolewſkim ſtráćił, bo ſkoro ieno po nabyćiu Nauk Łaćińſkich w Akademiey Krakowſkiey, w pobożne, Chrześćiańſkiemu ſer-
(c2) cu

Пачатак твора «Zywot Męza Bożego Hipaciusza Pocieia», складзенага архімандрытам Лявонам Кішкам і апублікаванага ў зборніку Пацеявых казанняў у 1714 г. у Супраслі.



Першы том кнігі Курцыя Руфа «O zyciu i dziejach Alexandra Wielkiego» (Нясвіж, 1763), што захоўваўся ў бібліятэцы місіі езуітаў у Блонях.

Pańskich»). Разам з тым, як ужо згадвалася, у бібліятэцы захоўвалася даволі шмат езуіцкіх выданняў: «Kalędarz Jezuicki», «O Zasługach S[więte]go Ignacego», «Litania de S[anct] Nomine JESU», «Reguły Societatis [JESU]»).

Апрача гэтага, у кнігазборы была шырока прадстаўлена літаратура юрыдычнага і палітычнага характару (Статут ВКЛ, «Explanationes Juris Ecclesiae», «Mowa na Rządach y Seymach»), гістарычная («Historia Polska», «Rudimenta Historica») і нават мастацкая («Sowizrzai Krotofilny»). Праца сярод вернікаў грэка-візантыйскага абраду вымагала і наяўнасці літаратуры адпаведнай тэматыкі, як, напрыклад, «Zywot męza Bożego Hipacego Pocieia» Лявона Кішкі і «Wiara prawosławna» Кулешы. Знаходзіліся таксама ў бібліятэцы выданні Біблії і літургічныя кнігі — «Rituale Sacramentorum», «Officia Divina».

Адзначым, што на момант візітацыі належнага парадку ў бібліятэцы не ўжо было — у інвентары кнігі пералічаны без сістэматызацыі, розныя тамы аднаго і таго ж выдання маглі быць раскіданыя па розных старонках спісу, а значыць займалі месца на розных паліцах у шафе. У часе паўторнай візітацыі ў 1789 г. ніякіх зменаў у складзе бібліятэкі занатавана не было[20].

Як бачым, у канцы XVIII ст. фундушовыя бібліятэкі на Беларусі былі досыць пашыраныя і, з большага, дастаткова добра ўкамплектаваныя, аднак змена становішча Каталіцкага Касцёла ў краіне не дала ім укараніцца і разрасціся настолькі, каб гэты від касцёльных кнігазбораў стаўся чымсьці большым для айчыннай бібліятэчнай гісторыі. Да сярэдзіны XIX ст. фундушовыя бібліятэкі страцілі большасць сваіх фондаў і ўжо змяшчаліся на адной палічцы. Праз «цэнтралізаванае камплектаванне» — амаль марны высілак варшаўскага кляштара і выдавецтва айцоў місіянераў[21] — яны страцілі сваю разнастайнасць,ператвараючыся ў люстэркавае адбіццё адна адной. Як пісаныя пад кальку чытаем мы кніжныя вопісы 1857 г. у плябаніях свержаньскай[22], рубяжэвіцкай[23], койданаўскай[24]:

Zywoty Swiętych Starego i Nowego Zakonu podług X. Piotra Skargi wydane przez X. W. Jozefowicza w Warszawie u XX. Missionarzy — 1.

Wywod prawdy Chrześcijańskiey ze Stanowiska Filozofii Dogmatu i Historói z Francuzskiego dzieła Augusta Nicolasa wydanego pod Tytułem Badanie Filozoficzne o Chrześcijanizmie. Przekład P. Michalskiego — 1.

O skarbach Słowiańskich, a szczególniey o Gramatzce języka Polskiego Uwagi przez E. T. Massalskiego ... w Warszawie u XX. Missionarzy — 1.

Przestrogi dla mówiących i piszących po Polsku przez E. T. Massalskiego w Warszawie u Jaworskiego — 1.

Толькі ў рэдкіх выпадках, як, напрыклад, у мястэчку Узда[25], мы можам яшчэ сустрэць нязначныя рэшткі даўніх кнігазбораў, што нагадваюць нам пра свой колішні росквіт, але гэта толькі слабы водбліск былога агню. Бадай, гэтым часам можна і закрыць гісторыю фундушовых бібліятэк — культурна-рэлігійнай з'явы, што пачала распаўсюджвацца на Беларусі ў канцы XVIII ст., але згасла так і не дасягнуўшы свайго апагею... Зрэшты, як шмат што на Бацькаўшчыне...

*У якасці ілюстрацый да артыкула выкарыстаны здымкі кніг са збораў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі (фота А. Крапіўкі).*

---

[1] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 220, арк. 105 адв. Тут і далей у цытатах захоўваецца арфаграфія арыгіналу.
[2] Параўн.: НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 102 адв.
[3] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 123 адв.
[4] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 124 адв.
[5] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 129.
[6] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 220, арк. 26.
[7] Тамсама, спр. 220, арк. 121 адв.
[8] Параўн.: НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 245.
[9] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 220, арк. 36 адв.
[10] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 220, арк. 43.
[11] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 220, арк. 162-167.
[12] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 220, арк. 248 адв.
[13] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 220, арк. 137 адв.
[14] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 220, арк. 36.
[15] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 220, арк. 37.
[16] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 220, арк. 36 адв.
[17] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 220, арк. 43.
[18] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 220, арк. 52 адв. — 53.
[19] НГАБ: Ф. 1781, воп. 27, спр. 220, арк. 12-14 адв.
[20] Тамсама, спр. 220, арк. 14 адв.
[21] НГАБ: Ф. 1781, воп. 32, спр. 187, арк. 75.
[22] НГАБ: Ф. 1781, воп. 32, спр. 187, арк. 69.
[23] НГАБ: Ф. 1781, воп. 32, спр. 187, арк. 72.
[24] НГАБ: Ф. 1781, воп. 32, спр. 187, арк. 73.
[25] НГАБ: Ф. 1781, воп. 32, спр. 187, арк. 74.



Малюнак Уладзіміра Вішнеўскага.

Данута Бічэль

# Толік

## Аповед

Дзяўчынка з рыжымі кудзеркамі і рабаціннем на носіку, не тутэйшая, не вясковая, размаўляе па-расейску. Першы раз бачу такую на нашай сонечнай сончыкавай, сунічнай палянцы.

— Адкуль ты прыйшла па ягадкі?

— Я з мамай і братам прыехала на лета да дзядзі Лёніка.

Дзяўчынка называлася Лёняй. Пакуль назбіралі з ёю свае збаночкі ягадкаў, добра паразмаўлялі на розных мовах. Але яна хутка навучылася па-вясковаму, толькі пачынала гаворку па-гарадскому.

Тата спытаў яе, сустрэўшы на сцежцы:

— Куды так бяжыш?

— Прама дамой, ужэ позна, — адказала яна, то тата так і называў яе: «Прама дамой».

Яе тата знаходзіўся ў прытулку для ветэранаў вайны-вайскоўцаў і партызанаў, ён быў нерухомы ад цяжкага ранення. У вёску ён не прыязджаў ніколі, а Лёня з мамай і Толікам наведвалі яго, вазілі яму перадачы...

Так я пазнаёмілася і пасябравала спачатку з Лёняй, а ўжо пасля з яе братам Толікам.

Было цёплае добрае лета. Калі ў нашай вёсцы на Павалоках ці ў Міхалаўцы іграў гармонік, маё сэрца млела і правальвалася некуды ў бяздонную глыбіню. Тата не пускаў мяне на вечарынку, я сядзела каля вакна ці на прызбе і плакала.

Гэта былі горкія і салодкія слёзкі. Пакутнае прадчуванне любові да некага, каго я яшчэ не сустрэла. Неўтаймаванае пачуццё на ўзроўні інстынкту, якое вясковае дзіця прыроды ўмела супакойваць толькі слязьмі.

Супраць маланак свайго сэрца я яшчэ не вынайшла для сябе громаадвода.

Сплаканая, стомленая, спаленая ўнутраным полымем, я засынала і сніла сон.

У сне я ляцела высока за воблакамі над яркай зелянінай, на зямлі маіх сноў яснелі пагоркі і нізіны, якіх не было каля вёскі. Хіба што ў тым месцы, дзе Гаўя ўпадае ў Нёман, а ён так рэзка паварочвае сваё цела да сонца, што ажно бераг падмываецца і ўтвараецца круты схіл з агаленымі пластамі цела зямлі.Такія перапады высяў і нізяў сніліся мне. Я прачыналася, мне хацелася, каб сон працягваўся, каб заставаўся, каб яшчэ крыху ў мроях палётаць. Такое гэта прыемнае адчуванне лёгкасці, святасці, здароўя, поўні дзявоцтва, поўні шчасця, захаплення ўсім сусветам і сабой у эпіцэнтры сусвету.

Я спрабавала ўжо лавіць словы і падбіраць музыку рытмаў да словаў у такт хадзе. Паэзія майго сэрца і паэзія майго слова будзіла ўяўленне. Гукі гармоніка варушылі ўва мне мімалётнае прадчуванне метафары, нечага новага, іншага, чым тыя словы, якімі абыходзіліся людзі ў нашым наваколлі. Паэзія рабіла маё сэрца залішне чуйным. Эротыка ці вершы стукаліся ў яго? Напэўна, і тое, і другое.

Я ўсё ж вырвалася неяк на вечарынку ў Міхалаўку. Гэта за лесам, каля балота. Там раслі тры хаткі, як баравічкі на ўскраіне бору. У адной маленькай хаціне

---

**Данута БІЧЭЛЬ** нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты – гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008).

жыла старэнькая адзінокая намоленая душачка. У другой хаце жыла сям'я, гаспадар яе быў добрым столярам, жонка была варажбіткай, у іх гадаваліся трое сыноў, як маладых дубоў. У трэцяй хаце падрасталі дзве дзяўчыны і двое хлопцаў. У іх ладзілі вечарынкі. Вось туды я і пайшла аднойчы пад вечар у суботу...

Ніхто мяне не ўзяў на танец — ні на першы, ні на другі...Пачыналі музыкі граць, хлопцы ішлі да дзявочых вачэй, якія іх прыцягвалі. Мае вочы глядзелі ў падлогу. Я памучылася ў кутку да першага перапынку. Калі гармонік замоўк і хлопцы выйшлі на надворак пакурыць, а дзяўчаты селі ў гурток пасняваць, я паціху выслізнула з хаты паўз цёмныя сенцы. Пабегла ў бок лесу. Хлопцы, якія пасвілі са мною каровы, але яшчэ не таньчылі на вечарынках, быццам толькі гэтага чакалі. Павыскоквалі з-за вуглоў і платоў, пачалі гнацца за мною і кідацца палкамі, а можа, нават і камянямі. Я хутка бегла. Згубіла сцяжынку ў лесе. І ўсё ж яны мяне не злавілі. Можа, хацелі толькі напалохаць. Можа, толькі выхваляліся паміж сабой, што яны такія смелыя, а былі яны баязлівымі...

За сядзібай Аляксандра Мястоўскага я спынілася, каб супакоіцца, каб стрымаць дыханне і суцішыць сэрца. Увайшла ў хату ціха, мама і тата не пачулі майго хвалявання.

Але я не магла доўга вытрываць, каб зноў не пайсці на вечарынку. Хавалася за дзяўчат. Дзяўчаты любілі збіраць ягады са мной, хадзіць на рэчку, размаўляць пра кнігі. Але на вечарынках кожная дзяўчына думала толькі пра сябе. Ды і чым яны маглі мне дапамагчы?

Нешта ўва мне было не такое, як ува ўсіх, нешта, што не прыцягвала, адштурхоўвала хлопцаў... Гэта цяпер я чытаю Евангелле паводле Яна і знаходжу: ...«каб вы былі са свету, свет любіў бы тое, што яго; але вы не са свету, бо Я вас выбраў са свету, таму вас свет не любіць...» (Ян 15, 18–19).

І я разумею — бывае і такое, што свет можа не любіць найлепшых...

Для іншых вечарынка была вясёлай забавай, эратычным прадстаўленнем, прыемнасцю, для мяне і вечарынка была выпрабаваннем майго балеснага сэрца, перапоўненага вобразамі паэзіі.

Я несвядома адпуджвала ад сябе супрацьлеглую мужчынскую плоць.

Я вучылася ў сёмым класе, дзе было болей хлопцаў, чым дзяўчат. І хлопцы былі старэйшымі, многія хлопцы былі пераросткамі з-за вайны.

Аднойчы хлопцы з нашага класа прыйшлі на вечарынку да Кузьмовых, гэта на нашым Загасцінцы. Каля самага балота. Я пазычыла ў сястры кафтанік сіні ў цісненыя валынкі, а спаднічка ў складачкі ў мяне была. Мяне запрасіў на танец Бартак Самардак са Збалотні і таньчыў са мною ўсю вечарынку. Дзяўчаты мне зайздросцілі. Быў ён хлопец на ўсё наваколле — шыракаплечы, цёмнарусы, моцны. Вечарынка скончылася — мы пайшлі па нашым гасцінцы міма Марозавых, Хвёдаравых, Галіцыянавых, каля Аляксандра Мястоўскага...

На нашай касой сцежцы я спынілася і пачала з ім развітвацца. А ён абняў мяне і хацеў паваліць...А чаго ж я чакала ад хлопца з такім татарскім прозвішчам?

Уся радасць ад скокаў знікла. Яго жывёльнае пажаданне было мне пакуль што незразумелым, крыўдлівым, непрыемным.

Я вырвалася з ягоных абдымкаў. Пайшла па сцежачцы, супакойваючы сваё сэрца, сваё беднае цела, каб мама і тата ні пра што не здагадаліся.

Калі я стала дарослай, я зразумела, што хлопец той ужо быў выбраў сабе дзяўчыну на ўсе дні свайго жыцця. Ён вельмі хутка з ёю ажаніўся, выгадавалі яны трое дзяцей...З астатнімі дзяўчатамі ён не супраць быў правесці вечар, некалькі хвілінаў асалоды без ніякай адказнасці. Чуў, што так робяць «сапраўдныя» мужчыны, што ім усё дазволена. Такія «няпісаныя» законы бытавалі ў вёсцы, у яе цемры, але на святле вёска была чыстай, таму што ў вёсцы ніхто ні ад кога не меў куды схавацца. Усе пра ўсіх усё ведалі і кантралявалі ўсе ўсіх, нават не думаючы пра тое, што гэта непрыстойна...

Але мне цікава было, як праводзяць хлопцы дзяўчат, ці прыстаюць да іх, толькі спытаць пра гэта я не асмельвалася. Ды хто скажа праўду! А падглядваць непрыгожа.

Аднойчы ў дзвярах вясковай хаты, якая скакала ўся разам з танцорамі, з'явіўся Толік, Лёнін брат. Месячны вожык, увесь у калючках рабацiння.

Усе таньчылі. У Толіка не было выбару. Ён запрасіў мяне. Так пачаўся наш танец, які скончыўся, калі скончылася лета. У мяне не было прыгожай сукеначкі. Не было прыгожых туфелькаў на абцасіках. Але калі ўзнікаў у дзвярах Толік, бедная Папялушка ператваралася ў Сонечнага Зайчыка. Святло было ўнутры нас.

Хлопцы перасталі высочваць мяне з-за кустоў, ганяцца за мною. Я па-ранейшаму вярталася дадому адна. Толік не праводзіў мяне. Як можна было мяне праводзіць, калі я не ішла з вечарынкі, а ляцела над борам і полем, як у маіх каляровых снах. Перапоўненая святлом, чысцінёй, радасцю, урачыстасцю, дабрынёй да ўсяго, усім неабдымным, чым надзяліў мяне Бог, прыслаўшы сюды, у дзікі закутак на крылах буслоў.

Было вяселле — а чыё, я не памятаю... Таньчылі на надворку ў Толікавага дзядзькі. Можа, гэта дзядзька Лёнік браў Ганначку з Бурносаў? Але Толік не хацеў сам ці не вырас яшчэ, каб быць дружбантам...

На тым вяселлі я ўпершыню не плакала, калі мая мама з вясковай «джаз-бандай» загаласіла

тую старажытную песню-плач, якая передавалася праз кроў ад дзікіх продкаў, якія яшчэ хадзілі ў звярыных шкурах, і тады ўжо спявалі. Раней, калі гэтую песню пачыналі галасіць сваім нутром, на мяне нападала нейкая трасцатрасучка, я кідалася непрытомна да мамы і тузала яе, каб выцягнуць з гурту, каб яе ўратаваць.

Цяпер я слухала гэтае старажытнае галашэнне і разумела, што ўсё ў ім было надта складна, надта гарманічна, незвычайна прыгожа, незвычайна сумна і незвычайна глыбока. Шкада, што не было тады ніякіх тэхнічных сродкаў, каб запісаць тое старажытнае дзейства. Завучыць мелодыю і словы таго, як цяпер кажуць «шоў», было немагчыма, я цяпер упэўнена, што ў залежнасці ад настрою стваралася імправізацыя чыстай вады, на 80% заўсёды новая, іншая, чым на папярэднім вяселлі.

Ноч вяселля, у якім удзельнічае ўсё наваколле, не толькі людзі, якіх збірае надпрыродны, амаль жывёльны інстынкт прадстаўлення абраду эратызму, гэтыя дзікія хвалі пачуццёвай сімволікі... У вясельнай ночы прымае ўдзел прырода жывых і нежывых істотаў, зямля і неба. Кароткая, птушыная, зорная, празрыстая, карнавальная, эратычная ноч. Мы з Толікам таньчылі сярод усяго вяселля, а нібыта на хмарцы ў вышынях, нікога не бачылі, ніхто на нас не звяртаў увагі, ніхто не сачыў за намі. Мы таньчылі, нібы выконвалі найважнейшы танец нашага жыцця. Нашы вочы не ўсміхаліся. Мы ўсміхаліся ўнутры сябе — у сэрцах. Целы нашыя не прытуляліся. Толькі трымаліся рукі, як прынята на танцах. Вянок танцораў разарваўся і прапусціў нас вонкі, мы паляцелі па няроўных загонах на гумнішчы, дзе не свяцілі ліхтарні, але свяцілі зоркі і месячык. Загоны там былі крутыя, з грудамі, з разорамі, але ж мы не краналіся зямлі, мы таньчылі паміж зямлёй і нябёсамі. І тут нам было цесна, хоць і прасторна. Мы разгайдаліся і не спыняліся, калі замаўкала музыка.

У нас гучала наша музыка — музыка цішыні, уяўлення, захаплення, мы чулі тое, што пачуць хацелі, бачылі тое, што хацелі ўбачыць. Унутры нас гарэла двайное полымя ўзаемнага прыцягнення. Калі б адбылося раптоўнае зацменне ўсіх светлаў у сусвеце, калі б аглухлі ўсе гукі і рассыпаліся ўсе пахі, і аслеплі ўсе вочы, Толік знайшоў бы мяне ў гэткай непрабуднай пустэчы, глухаце і цемры, бо свяціліся мы ўзаемна адно другому, узаемна тахкалі нашы сэрцы, аслеплыя нашы вочы бачылі адно другога...

Да таго ж і нашы прозвішчы былі падобныя, мелі тое самае значэнне — што Бічэль, што Кіеня...

Звычайна, ён прыходзіў у гурток, дзе мы збіраліся, пазней за ўсіх. Мы збіраліся на мураўцы ў Франі, пад вішнямі. Франін надворак, абгароджаны плотам, ад варот да гасцінца не пад самымі вокнамі, але і недалёка ад хаты зелянела мураўца. Усім было зручна сюды прыходзіць, і мне было блізка...

Мы не рагаталі там, як часта можна пачуць у гарадскіх гуртах моладзі, — яны рагочуць і выюць ад таго, што дзікія жаданні перапаўняюць іх маладыя целы і вырываюцца на паверхню з дзікім рогатам.

Мы суцішвалі свае жаданні працай на полі і дома, размаўлялі ціха і ціха спрачаліся, смяяліся...

Толік прыходзіў з новай «хуліганскай» песняй, якую лавіў на ляту ў Лідзе, дзе моладзь паказвала, што яна «крутая», хоць слова такога ў дні маёй маладосці яшчэ не вынайшлі. Гэта былі песні расейскіх надворкаў — пра крошку Мэры, якую з Аргентыны ў Адэсу прывёз карабель новы, пра Мурку ў скуранай тужурцы...

Усе гэтыя песні канчаліся забойствамі, але паколькі пра смерць спявалася весела, то яна ўсур'ёз не ўспрымалася. Нам падабаліся Толікавы песні. Пры гэтым ён моршчыў нос так, што ўсе рабацінкі на носе зліваліся ў адну плямку.

Ён прыйшоў пасля таго, як паміж намі адбылася маўклівая сварка. Дзяўчаты і хлопцы пайшлі ў Чараўкі на вечарынку. Там была таксама моладзь з Анацкаў, Карнілкаў, Бурдукоў, Мікулічаў і Місураў, з усіх тых вёскаў, якія збіраліся ў наш сёмы клас. Адзін аднакласнік запрасіў мяне, пасля танца мы пачалі ўспамінаць пра сваіх аднакласнікаў, дзе хто цяпер вучыцца, гэтая размова зацягнулася. Я ўбачыла, што Толік не таньчыць, перажывае, пакутуе.

І мне захацелася яго памучыць.

Каб дайсці да сапраўднага кахання, трэба пераадолець доўгія шляхі і лабірынты ўласнага эгаізму, а не захапляцца ўласным захапленнем...

Вярталіся ў вёску на нейкім грузавічку, Толік сядзеў у куточку, перажываў моўчкі, я калацілася ад уласнай здрады.

Але лета яшчэ не скончылася. І няма другой сцяжыны праз жыта, акрамя той, якую пратаптала мая мама, па якой каля нашай хаткі хлопцы ходзяць на луг і на Нёман.

І ў Толіка выбару не было. І прыйшоў ён на Франіна мураўца з новаю песняй.

Мы былі, як дзве лужынкі пасля дажджу,— набрынялі і высахлі. Бо рака Гаўя ўпадае ў Нёман — назаўжды. І не мялее з любові.

Дожджык прагнаў нас з надворка. Я пайшла дахаткі, а Толік пайшоў за мной.

Ад дожджыка мы схаваліся ў стажок на гумнішчы. Мы прытуліліся плячамі. Дожджык шапацеў у сене. Мы дрыжэлі ад дожджыку. Дрыжыкі чысціні — недзе я прачытала такі выраз. Ішоў дожджык, але было светла ад месячыка. Ішоў месячны дожджык... Нічога не адбылося. Над

нашым стажком узнікла мама з качаргою. Я ніколі пазней не чула такіх крыўдных словаў з маміных вуснаў.

Толік пабег у лес, адтуль павярнуў на сцежку праз жыта... Дожджык і дарога супакоілі Толіка. Мне трэба было ісці дахаты, легчы ў ложак і не дыхаць.

Калі мне бывае вельмі холадна і адзін коцік мяне грэе, я не асмельваюся прасіць Цябе, Божанька, каб Ты вярнуў мяне ў той дожджык, у той стажок, але каб мама спакойна сабе спала пры тату... Ці стаў бы свет яшчэ больш распусным, чым ён ёсць, каб мы тады з Толікам пацалаваліся? Згоршыўся б белы свет да непазнавання?

У тое лета мы грэблі сена і адкідалі салому пры малацілках. Не надрываліся лішне на калгаснай працы, за яе нам не плацілі. На працу мы хадзілі, як гарадскія ходзяць у клуб, каб там сустрэцца і пасумаўляцца.

Прымаўка «хто не працуе — той не есць» была пра нас прыдумана. Хлеба крышэнь, шклянка сырадою...Мы не адчувалі голаду, мы былі накормленыя сваёй дзявоцкасцю, сваімі ўяўленнямі. Мы ўяўлялі ў мроях прыгожыя вобразы нашага захаплення, такіх хлопцаў побач не было, якіх мы ўяўлялі, былі яны, можа, нават лепшымі, але жывымі, простымі... Мы марылі пра рыцараў...

Я цяпер ужываю гэтае «мы», бо я тады думала, што так, як я, тое самае перажываюць мае сяброўкі. Нядаўна Франя мне сказала так:

— Мы хітравалі і часта прытвараліся, мы не былі да праўды праўдзівыя, не ўсё рабілі напаказ. А ты не мела ніякай хітрасці, ты сабе не пакідала ніякай кладачкі для адступлення, усё ў цябе было шчыра і сур’ёзна. Ты і ў гульні была, як на сапраўднай вайне, і ў захапленні Толікам.

...Я масціла кладачку над безданню ўяўлення, бо нарадзілася паэткай...

Калі я паступіла ўслед за Франяй у педвучэльню, Толіка ў тую восень забіралі ў савецкую армію. Я перамагла ў сабе ўсе нянапісаныя вясковыя законы, усе правілы маральнасці і пайшла на зборны пункт, але ўвечары, каб мяне там не ўбачылі. Я хацела з Толікам развітацца. Знайшла яго ў старой куртачцы пад плотам — спаў непрытомна п’яны.

Я скончыла педвучэльню на выдатна і паступіла ў Гродзенскі педінстытут.

На першым курсе вучыцца было вельмі цяжка.

На вуліцы ў горадзе я сустрэла Толіка. Быў у вайсковай форме, толькі што вярнуўся з войска. Выцягнуўся, стаў вышэйшым. Разгубіўся, убачыўшы мяне, і я разгубілася.

Не было мураўца, дожджыку, стажка. Ішлі людзі. Ехалі машыны. Мы не паглядзелі адно аднаму ў вочы. Як нямыя, як ненармальныя, памэкалі...

Пайшлі — кожны ў супрацьлеглы бок, хістаючыся.

Я доўга была непрытомнай.

Але трэба было здаваць сесію, экзамены, у вачах лёталі матылькі ад вучобы, ад стомы, ад недасыпання, недаядання, ад гарадской мітусні, ад дэпрэсіі, ад строгіх, патрабавальных выкладчыкаў, і не было куды схавацца, каб выплакаць увесь боль, увесь сум, усю несправядлівасць. Не было да каго моцна прытуліцца.

Наперадзе было доўгае, беспрасветнае жыццё, запоўненае працай, стомай, спатканнямі і развітаннямі...

Але Бог пашкадаваў такую слабенькую, такую далікатную, такую непаўторную, такую вясковую маю душу і даў мне паэзію, якая і ёсць полымем маёй душы. Паэзія — гэта сведчанне розуму, яна праяўляецца праз вобразы відавочныя і чуйнікавыя, са звычайных словаў вырываецца агнём, водбліскамі, іскрамі, выбухамі... Нібы рэчаісная, але прыдуманая... Праз паэзію можна датыкацца да недатыкальнага, сумяшчаць несумяшчальнае, запаўняць спустошанае бяссоннем... У паэзіі бачыць і верыць — гэта сінонімы. Паэзія дае моц і веру, таму яна мацней, чым каханне.

Эротыка будзіць уяўленне і стварае вобраз, які ўрэшце ўсё роўна разлятаецца, рассыпаецца.

Паэзія — гэта эротыка мовы, святла і веры. Яна праўдзівая. Яна захапляе, здзіўляе, трымае і застаецца бясконцай і вечнай.

Толік прыйшоў у маё дзявоцтва, як дожджык на ніву, як сонейка пасля ночы, як вясна пасля зімы. Нічога не прасіў, не патрабаваў, сам нічога не меў і не дарыў і не абяцаў.

Усе хлопцы, якіх я пасля сустракала, паступалі аднолькава па схеме:

— Я цябе буду кахаць, але ты мне за тое павінна...» — далей ішлі варункі, правілы, кантракты, абмежаванні, забароны, патрабаванні, перакананні, клятвы, допыты, збіранне плёткаў, шуканне прычынаў і наступстваў, гнеў, помста, сум, адчужэнне, агіда, боль галавы, цяганне за валасы, рукапрыкладства, правакацыя, шантаж, нянавісць, здранцвенне, здрада, холад, абыякавасць, самота... Прыемнасць... і смерць.

Паэзія дае абсалютную прыемнасць, захапленне, наталенне, засяроджанасць у натхненні, і дае балеснае і салодкае адчуванне пакуты да самазабыцця і да бессмяротнасці.

Я шчаслівая, што ўсё спазнала і ўсё засведчыла ў слове. У паэтычным слове змяшчаецца ўся чалавечая сутнасць.

## CONTENTS

The article by art critic Valery Buival named «Piero della Francesca. Montefeltro Altarpiece» opens this edition of Our Faith. Here the author tells us about the masterpiece of the Italian art of the 15th century, which is kept in Pinacoteca di Brera in Milan (p. 2-3).

«Many-coloured roses» that is the name of the interview of writer Krystyna Lyalko with His Eminence cardinal Kazimir Sviontek on the occasion of the 70th anniversary of his sacerdotal way and his 95th birthday (p. 4-9).

This edition of the journal finishes the publication of the work of the famous theologian Romano Guardini «Waiting for the Creation» (comment on the Epistle of St. Paul to the Romans) in translation from German by Iryna Burak (p. 10-13).

In column *«Translations»* we continue publishing the translation of «The Flowers of St Francis» (p. 14-15).

In column *«Ad Fontes»* we continue publishing the famous work by Thomas a Kempis «The Imitation of Christ» translated into Belarusian by d. Stanislau Grynkevich in the 30-es of the XX century (p. 16-20).

Witer Iryna Zharnaseck calls your attention to her interview with marian father Andrey Sidarovich dedicated to the problem of idolatry in the modern world (p. 21-23).

In column «Faith and Culture» we offer you the article by Piotra Rudkouski OP « Love and Passion: between spiritualism and hedonism» (p. 24-27).

Father Andrey Znoska prepared for our readers his article «Concerning the question of necessarity of conceptual historical succession in belarusian religious law» (p. 28-29).

Rstorer Arkadz Shpunt, , in his article «Our Lady of Belahruda» reflects about the history of the miraculous icon in the Archangel Michael Church in Belahruda he had a wonderfull opportunity to restore (p. 30-35).

In column *«Art»* we publish the research by Aliaksandr Jarashevich « Belarusian Altar Painting Art of XVIII–XIX century» (p. 36-38).

The article by Juzaf Makarchyk OFMConv is dedicated to life and activities of father Franciscan Arkadz Karal Juzaf Valtas and is translated into Belarusian by Danuta Bichel (p. 39-43).

In column *«Poetry»* we publish some poetry by famous Belarusian poets Ales Chobat, Marian Duksa and Siarhey Paniznick (p. 44-49).

We offer to our readers a historical novel by Swedish literature classic August Strindberg «The Last Shot» translated into Belarusian by Valery Buival (p. 50-52).

In column *«Travelling»* writer Mihas Scobla shares his impressions about the participation in the international literary congress *Mare Nostrum* («Our Sea») organized in Marsel by European Writers' Organisation (p. 53-57).

Alena Glagouskaya in her article «Artist from the Steep Bank» makes the readers' acquaintance of the personality of the artist Kuzma Churyla which creative heritage is almost unknown to belarusians (p. 58-62).

The researcher Jury Lauryck in column *«Book Treasures»* offers you the article about the history of donated libraries in Belarus (p. 63-67).

In column *«Prose»* we publish the novel by Danuta Bichel called «Tolick» (p. 67-71).

## RESÜMEE

Diese Nummer der Zeitschrift beginnt mit dem Artikel des Literaturwissenschaftlers Walery Bujwal „Piero della Francesño. Das Altarbild Montefeltro", wo der Autor über das Meisterwerk der italienischen Malerei aus dem 15.Jahrhundert erzählt, das in Mailand in der Brera aufbewahrt wird (S. 2-3).

„Rosen verschiedener Farben" – einen solchen Titel hat das Interview der Schriftstellerin Kristina Lialko mit Seiner Eminenz Kardinal Kazimierz Świątek, das dem 70.Jahrestag seines Priesterweges und seinem 95.Geburtstag gewidmet ist (S. 4-9).

In der gegebenen Nummer der Zeitschrift endet die Publikation des Werkes des bekannten Theologen Romano Guardini „Das Warten auf die Schöpfung" (Kommentar zum Brief an die Römer) in der Übersetzung aus dem Deutschen von Iryna Burak (S. 10-13).

In der Rubrik „Übersetzungen" ist die Fortsetzung der „Blümchen des heiligen Franziskus" angeboten (S. 14-15).

Die Rubrik *Ad fontes* enthält die Fortsetzung des berühmten Werkes von Thomas von Kempen „Nachfolge Christi" in der belarussischen Übersetzung, die von Doktor Stanislau Grynkewitsch in den 30er Jahren des vorigen Jahrhunderts ausgeführt wurde (S. 16-20).

Die Schriftstellerin Iryna Sharnasek bietet den LeserInnen das Interview mit dem Priester-Marianer Andrej Sidarowitsch an, das dem Problem des Götzendienstes in der modernen Welt gewidmet ist (S. 21-23).

In der Rubrik „Glaube und Kultur" ist der Artikel von Pjotr Rudkouski OP „Liebe zwischen Spiritualismus und Hedonismus" veröffentlicht (S. 24-27).

Priester Andrej Znoska hat für die LeserInnen der Zeitschrift den Artikel „Zur Frage nach der Notwendigkeit der konzeptionellen historischen Kontinuität im belarussischen religiösen Recht" vorbereitet (S. 28-29).

Der Restaurator Arkadzj Spunt unterbreitet im Artikel „Die Gottesmutter von Belagrudak" seine Überlegungen über die Geschichte der wundertätigen Ikone in der katholischen Kirche des heiligen Erzengels Michael in Belagrudak, die er restaurieren durfte (S. 30-35).

In der Rubrik „Kunst" ist die Studie von Aljaksandr Jaraschewitsch „Die Altarmalerei in Belarus im XVIII.-XIX. Jahrhunderten" veröffentlicht (S. 36-38).

Der Artikel von Priester Jusaf Makartschyk OFMConv ist dem Leben und der Tätigkeit vom franziskanischen Priester Arkadzj Karal Jusaf Waltasj gewidmet und in der belarussischen Übersetzung von Danuta Bitschel angeboten (S. 39-43).

In der Rubrik „Poesie" sind Gedichte der bekannten belarussischen Poeten Alesj Tschobat, Marjan Duksa und Siargej Paniznik gedruckt (S. 44-49).

Die historische Erzählung des schwedischen Klassikers August Strindberg „Der letzte Schuss" ist den LeserInnen in der belarussischen Übersetzung von Walery Bujwal angeboten (S. 50-52).

In der Rubrik „Reisen" teilt der Schriftsteller Mihasj Skobla seine Eindrücke von der Teilnahme am internationalen literarischen Kongress *Mare Nostrum* mit, der in Marseille von der Europäischen Schriftstellerorganisation veranstaltet wurde (S. 53-57).

Alena Glagouskaja macht die LeserInnen im Artikel „Der Maler von Kruty Berag" mit der Figur des Malers Kusjma Tschuryla bekannt, dessen literarisches Erbe den Belarussen praktisch unbekannt ist (S. 58-62).

Der Forscher Jury Lauruk bietet in der Rubrik „Bücherschätze" den Artikel über die Geschichte der Bibliotheken bei den katholischen Kirchen in Belarus an (S. 63-67).

In der Rubrik „Prosa" ist die Erzählung „Tolik" von Danuta Bitschel veröffentlicht (S. 68-71).

## PODSUMOWANIE

Niniejszy numer czasopisma otwiera artykuł historyka sztuki Waleryja Bujwała pt. „Piero della Francesca. Obraz ołtarzowy Montefeltro", w którym autor opowiada o arcydziele włoskiego malarstwa XV w., znajdującym się obecnie w Pinakotece Brera w Mediolanie (s. 2-3).

„Róży różnego koloru" — pod takim tytułem ukazuje się wywiad pisarki Krystyny Lalko z kardynałem Kazimierzem Świątkiem w 70. rocznicę drogi kapłańskiej dostojnika i 95. rocznicę jego urodzin (s. 4-9).

W tym numerze czasopisma kończy się publikacja pracy wybitnego teologa Romano Guardiniego „Oczekiwanie stworzenia" (komentarz na List do Rzymian) w tłumaczeniu z języka niemieckiego Iryny Burak (s. 10-13).

W rubryce „*Tłumaczenia*" proponuje się ciąg dalszy „Kwiatków świętego Franciszka" (s. 14-15).

Rubryka „*Ad fontes*" zawiera ciąg dalszy słynnego dzieła Tomasza a Kempis „O naśladowaniu Chrystusa", które zostało przetłumaczone na język białoruski przez dra Stanisława Hrynkiewicza w latach 30-tych minionego stulecia (s. 16-20).

Pisarka Iryna Žarnasiek proponuje czytelnikom wywiad z ojcem marianinem Andrzejem Sidarowiczem na temat bałwochwalstwa w świecie współczesnym (s. 21-23).

Artykuł Piotra Rudkouskiego OP pt. „Miłość i kochanie między spirytualizmem i hedonizmem" został umieszczony w rubryce „*Wiara & Kultura*" (s. 24-27).

Ksiądz Andrzej Znoska proponuje Czytelnikom artykuł „W kwestii potrzeby konceptualnej ciągłości historycznej w białoruskim prawie religijnym" (s. 28-29).

Restaurator Arkadź Szpunt w artukule „Matka Boża Biełahrudzka" dzieli się swoimi przemyśleniami na temat historii odnowionego przez niego cudownego obrazu z kościoła w Biełahrudzie (s. 30-35).

W rubryce „*Sztuka*" drukujemy badania Alaksandra Jaraszewicza „Malarstwo ołtarzowe na Białorusi w XVIII–XIX ww." (s. 36-38).

Artykuł ojca Józefa Makarczyka OFMConv poświęcony życiu i działalności ojca franciszkanina Arkadiusza Karola Józefa Waltasia podajemy w tłumaczeniu Danuty Biczel (s. 39-43).

W rubryce „*Poezja*" zamieszczone zostały wiersze znanych białoruskich poetów Alesia Czobata, Mariana Duksy i Siarhieja Paniźnika (s. 44-49).

Opowiadanie historyczne szwedzkiego pisarza Augusta Strindberga „Ostatni strzał" proponujemy Czytelnikom w tłumaczeniu Waleryja Bujwała (s. 50-52).

W rubryce „*Podróże*" pisarz Michaś Skobła dzieli się swymi wrażeniami z międzynarodowego kongresu literackiego *Mare Nostrum* („Nasze Morze"), zorganizowanym w Marsylii przez Europejskie Stowarzyszenie Pisarzy (s. 53-57).

Helena Głogowska w artykule „Artysta z Krętego Brzegu" zapoznaje czytelników z postacią Koźmy Czuryły — artysty, twórcza spuścizna którego jest prawie nieznana w jego kraju (s. 58-62).

Badacz Jury Lauryk w rubryce „*Bogactwo książki*" proponuje artykuł o historii bibliotek fundacyjnych na Białorusi (s. 63-67).

W rubryce „*Proza*" drukuje się opowiadanie Danuty Biczel „Tolik" (s. 68-71).

## SOMMARIO

Questo numero di "Naša vera" inizia con la pubblicazione dell'articolo del critico d'arte Valery Bujval "Piero della Francesca". La „Pala Montefeltro", in cui l'autore racconta del capolavoro della pittura italiana del Quattrocento che attualmente si trova a Milano nella Galleria Brera (p. 2-3).

"Le rose dai colori diversi" è il titolo dell'intervista che ha fatto la scrittrice Krystyna Lalko a Sua Eminenza Cardinale Kazimir Sviontak dedicandola al 70° anniversario della sua attività sacerdotale e ai suoi 95 anni (p. 4-9).

In questo numero si termina la pubblicazione di famosa opera di Romano Guardini „L'attesa della Creazione", in cui il famoso teologo comenta la *Lettera ai Romani* di Apostolo San Paolo tradotta dal tedesco da Irena Burak (p. 10-13).

Sotto la rubrica *Traduzioni* continua la pubblicazione della traduzione dei *Fioretti* di San Francesco (p. 14-15).

Nella rubrica *Ad fontes* si pubblica la parte successiva della traduzione in bielorusso del famoso saggio di Tommaso da Kempis l'*Imitazione di Cristo* tradotto in bielorusso da Stanislau Hrynkevič negli anni trenta del secolo scorso (p. 16-20).

La scrittrice Iryna Žarnasek offre ai lettori l'intervista al padre mariano Andrei Sidarovič dedicata ai problemi di idolatria nel mondo contemporaneo (p. 21-23).

Sotto la rubrica *Fede e cultura* viene pubblicato l'articolo di Piotr Rudkouski OP "Voler bene e amare tra spiritualismo ed edonismo…" (p. 24-27).

Il parroco Andrei Znoska ha preparato per i lettori della rivista l'articolo „Sul problema della necessità di una continuità storica concettuale nel diritto religioso bielorusso" (p. 28-29).

Il restauratore Arkadz Špunt nell'articolo „La Madonna di Belagrudy" presenta le sue riflessioni sulla storia dell'icona taumaturgica nella chiesa di Arcangelo Michele di Belagrudy la quale lui ha avuto fortuna di ristrutturare (p. 30-35).

Sotta la rubrica *Arte* Aliaksandr Jaraševič pubblica i materiali della sua ricerca „La pittura d'altare bielorussa dei XVIII–XIX sec" (p. 36-38).

L'articolo del padre Jusaf Makarčyk OFMConv è dedicato alla vita e all'attività del padre francescano Arkadz Karol Jusaf Valtas tradotto in bielorusso da Danuta Bicel (p. 39-43).

Nella rubrica *Poesia* si pubblicano le poesie dei famosi poeti bielorussi Ales Čobat, Marjan Duksa e Siarghei Panisnik (p. 44-49).

Il racconto storico del classico svedese Avgust Strindberg „L'ultimo sparo" è proposto ai lettori tradotto in bielorusso da Valerij Bujval (p. 50-52).

Sotto la rubrica *Viaggi* lo scrittore Mikhas Skobla racconta le sue impressioni dalla partecipazione al Convegno Internazionale di letteratura *Mare Nostrum* organizzato a Marsiglia dall'ogranizzazione europea degli scrittori (p. 53-57).

Alena Glagouskaja nell'articolo „Il pittore da Kruty Berag" fa conoscere ai lettori la personalità del pittore Kuzma Čuryla la cui eredità artistica rimane praticamente sconosciuta ai bielorussi (p. 58-62).

Il ricercatore Jury Lauryk nella rubrica *Fior dei libri* propone l'articolo sulla storia delle biblioteche mecenatesche in Bielorussia (p. 63-67).

Sotto la rubrica Narrativa si pubblica il racconto di Danuta Bicel „Tolik" (p. 68-71).

---

На 1-й старонцы вокладкі — Абраз Маці Божай Міласэрнасці з в. Белагруда. Фота М. Новікава.

*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 3 (49)/2009.*

*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*

*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Плошча Свабоды, 9, 220030, г. Мінск.*

*Часопіс зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйны № 224.*

*Падпісаны да друку 30.09.2009 г. Фармат 60х84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 500 экз. Зак № 443.*

*Надрукавана ў друкарні ТАА«Прамкомплекс» ЛП № 02330/0494121 ад 25.02.2009.*

*вул. Бехцерава, 10-402, 220021 г. Мінск.*

# Алтарны жывапіс Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў

(артыкул А. Ярашэвіча чытайце на старонках 36–38)



Спас,
XVIII ст.



Маці Божая Юравіцкая,
XVIII ст.




Святы Антоній Падуанскі,
1744 г.

